ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ





ШТОМЕСЯЧНЫ ЧАСОПІС ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

№ 2 (28)

Чацьверты год выданьня

ЛЮТЫ 1931 г.

# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

**Штомесячны часопіс прэзыдыуму ЦВК БССР па савецкім будаўніцтве**

№ 2 (28) Люты 1931 г. № 2 (28)

## Бальшавіцкае прывітаньне X Усебеларускаму Зьезду Саветаў.

### Да вынікаў справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў.



У выніку вялізарнейшых посьпехаў у справе сацыялістычнага будаўніцтва краіна Саветаў ўступіла ў пэрыяд сацыялізму. Выкананьне задач бягучага трэцяга году пяцігодкі—рашаючага году па ажыцьцяўленьні пяцігодкі за чатыры гады—завершыць пабудову фундаманту сацыялістычнай экономікі СССР.

Пераможнае разгортваньне сацыялістычнага наступленьня на ўсім фронце выклікае шалёнае супраціўленьне з боку адміраючых клясаў, абвастраючы клясавую барацьбу і павялічваючы пагрозу нападу на Савецкі Саюз і яго фарпост—БССР з боку імпэрыялістычных інтэрвэнтаў. Рабочыя і сяляне адказваюць на падрыхтоўку інтэрвэнцыі супроць краіны Саветаў яшчэ больш пасьлядоўным, яшчэ больш рашучым сацыялістычным наступленьнем па ўсім фронце і ўсямерным ўзмацненьнем абароназдольнасьці краіны.

Вырашэньне гэтых задач патрабуе далейшага напружаньня ўсіх сіл рабочае клясы і ўсіх працоўных для выкананьня задачы сацыялістычнага будаўніцтва шляхам разгортваньня сацыялістычных форм працы, рашучай перабудовы работы ўсіх арганізацый у адпаведнасьці з задачамі рэканструкцыйнага пэрыяду.

Таму перавыбары саветаў у гэтым годзе маюць найвялікшае палітычнае значэньне. Асноўнай задачай перавыбарчай кампаніі гэтага году зьяўляецца перабудова на справе ўсёй работы саветаў у адпаведнасьці з задачамі рэканструкцыйнага пэрыяду, узьняцьцё ролі саветаў у барацьбе за генэральную лінію партыі, супроць апартунізму. Асабліва важнае значэньне набылі ў гэтым годзе перавыбары саветаў на вёсцы ў сувязі з праведзенай ліквідацыяй акруг.

Зараз ужо скончыліся перавыбары сельскіх саветаў, канчаюцца раённыя зьезды саветаў і перавыбары гарсаветаў. БССР рыхтуецца да X Усебеларускага Зьезду Саветаў.

Такім чынам, важнейшая частка справаздачна-перавыбарчай кампаніі—перавыбары сельскіх, раённых і гарадзкіх саветаў, праз якія ажыцьцяўляецца набліжэньне партыйнага і савецкага апарату да мас, да вёскі, да калгасьнікаў ужо скончана.

Мы павінны падвесьці вынікі гэтай кампаніі для таго, каб на падставе вывучэньня вопыту перавыбараў саветаў зрабіць патрэбныя захады да замацаваньня дасягнутых посьпехаў у справе перабудовы работы саветаў у адпавед-

**У гонар X Усебеларускага Зьезду Саветаў па-бальшавіцку ўзяцца за перабудову працы саветаў у адпаведнасьці з сацыялістычнай рэканструкцыяй.**

насьці з задачамі барацьбы за выкананьне пяцігодкі за чатыры гады.

Кажучы аб перабудове работы саветаў, мы павінны прыняць таксама ўсе крокі да таго, каб зьмяніць адносіны да саветаў з боку ўсіх аргапізацый, павярнуць іх тварам да саветаў, устанавіць правільнае разуменьне ролі саветаў у сацыялістычным будаўніцтве, узмацніць партыйнае кіраўніцтва саветамі.

Саветы зьяўляюцца органамі пралетарскай дыктатуры, праз якія партыя і рабочая кляса ажыцьцяўляюць кіраўніцтва дзяржавай і сацыялістычным будаўніцтвам. Вось чаму ўсе партыйныя, прафсаюзныя, камсамольскія, калгасныя і іншыя арганізацыі павінны ўсямерна дапамагаць саветам у справе перабудовы іх работы, дапамагаць саветам стаць сапраўднымі бальшавіцкімі штабамі па выкананьні задач сацыялістычнага будаўніцтва, задач па выкананьні і перавыкананьні прамфінплянаў, кіраўніцтва суцэльнай калектывізацыяй і г. д.

Партыя і Урад ня раз падкрэсьлівалі, што на правядзеньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі павінны быць мабілізаваны ўсе партыйныя, камсамольскія, савецкія і прафсаюзныя арганізацыі, што гэта кампанія павінна быць шчыльна ўвязана з выкананьнем ўсіх вузлавых задач сацыялістычнага будаўніцтва. Імкненьне правесьці перавыбары саветаў у парадку „чарговай“ кампаніі зьяўляецца апартуністычнай недаацэнкай вялізарнага палітычнага значэньня перавыбараў саветаў.

У асноўнымперавыбары саветаў праводзіліся з выстарчальнай і своечасовай падрыхтоўкай з боку грамадзкіх арганізацый па аснове шырокага ўцягненьня рабочых, калгасных, бядняцка-серадняцкіх мас і ўсіх працоўных у перавыбары Асабліва важнае значэньне ў справе перавыбараў сельсаветаў адыграла дапамога з боку пралетараў гораду. Калі ў першы пэрыяд справаздачна-перавыбарчай кампаніі сельсаветаў, некаторыя арганізацыі праявілі апартуністычную недаацэнку ўдзелу рабочых у перавыбарчай кампаніі дык у працэсе разгортваньня перавыбараў гэта памылковая шкодная ўстаноўка была зьнішчана. У перавыбарчай кампаніі сельскіх саветаў адзначаецца значны ўдзел і ўплыў рабочых заводаў і фабрык. Гарсаветы і прафсаюзы накіравалі ў часе перавыбарчай кампаніі на вёску значную колькасьць лепшых рабочых-ударнікаў для ўзмацненьня пралетарскага кіраўніцтва перавыбарамі сельскіх саветаў.

Справаздачна-перавыбарчая кампанія сельскіх саветаў зьявілася масавай палітычнай кампаніяй, якая ўзьняла перавыбары саветаў на належную палітычную вышыню і дала вялізарныя палітычныя вынікі.

Аднэй з важнейшых задач перавыбарчай кампаніі зьяўлялася яшчэ большая сувязь саветаў з шматмільённымі масамі выбаршчыкаў—рабочых, калгасьнікаў, батрацтва, бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. Асаблівасьцю перавыбараў гэтага году зьяўлялася тое, што яны адбываліся ў час, калі ў выніку найшырэйшага працэсу перабудовы дробнай вытворчасьці з заменай яе буйнымі каляктыўнымі гаспадаркамі, ствараецца для савецкай улады на вёсцы новая вытворчая база—база буйнай каляктыўнай гаспадаркі, калі саветы маюць для сваёй працы новы масавы актыў з ударнікаў фабрык і заводаў, калгасаў і саўгасаў.

Апіраючыся на гэты актыў і разгортваючы далей работу сярод ударнікаў і калгасьнікаў, арганізуючы беднату, саветы павінны пад кіраўніцтвам партыі забясьпечыць замацаваньне сувязі з масамі і ўцягненьне новых мільёнаў рабочых і сялян у рады актыўных будаўнікоў сацыялізму.

Удзел выбаршчыкаў у перавыбарчай кампаніі ў гэтым годзе значна вышэйшы, чым у мінулы выбары. Асабліва высокая актыўнасьць была там, дзе праведзена своечасовая і выстарчальная масавая падрыхтоўка. Агульная сярэдняя актыўнасьць пры перавыбарах сельсаветаў па БССР раўняецца 66,34% павялічэньне ў параўнаньні з перавыбарамі 1929 году на 7,52 проц. Асабліва ўзрасла актыўнасьць жанчын, якая параўнальна з перавыбарамі мінулага году, дае павялічэньне на 13 проц.

Цэлы рад раёнаў паказваюць актыўнасьць выбаршчыкаў вышэйшую за сярэднюю актыўнасьць па БССР. З 100 раёнаў у 36 актыўнасьць выбаршчыкаў

# Сустрэнем X Усебеларускі Зьезд Саветаў пагалоўным уцягненьнем працоўных мас у працу саветаў па выкананьню праграмы трэцяга рашаючага году пяцігодкі для завяршэньня пабудовы фундаманту сацыялістычнай экономікі СССР.

была вышэй сярэдняй актыўнасьці па БССР. Веткаўскі, Ельскі, Чарэйскі, Барысаўскі, Койданаўскі раёны дабіліся ў сярэднім каля 80 проц. яўкі ўсіх выбаршчыкаў.

Аднак, ёсьць і такія раёны, дзе яўка на перавыбары зьяўляецца нездавальняючай (Аршанскі, Гарадокскі, Любаньскі і Магілёўскі).

Сярэдні процант яўкі жанчын на перавыбары параўнальна з мінулым годам павялічыўся на 13 проц. Але трэба адзначыць надзвычайную стракатасьць паказальнікаў аб удзеле жанчын у перавыбарах па асобных раёнах; ёсьць цэлы рад раёнаў, дзе ўдзел жанчын у перавыбарах значна вышэйшы за агульны сярэдні ўдзел выбаршчыкаў па БССР (Азарыцкі—81,13 проц., Барысаўскі—70,20 проц., Дрысенскі—71,81 проц.) Зусім недапушчальнае зьніжэньне яўкі жанчын на перавыбары паказваюць раёны: Аршанскі — 43,33 проц., Гарадокскі—40,48 проц.,Копыскі—41,17 проц., Копыльскі—49,69проц., Любаньскі—40,11 проц., Старадарожскі—40,27 проц., Старобінскі—37,81проц. і г. д.

Такое зьніжэньне колькасьці выбаршчыкаў на выбарчых сходах ні ў якім разе нельга тлумачыць адсутнасьцю актыўнасьці. Факты з месц сьведчаць аб надзвычайна ўзросшай актыўнасьці працоўных гораду і вёскі. Толькі няздольнасьць разгортваць масавую работу, права - апартуністычная недаацэнка значэньня перавыбараў і неабходнасьці арганізацыйнага ахопу гэтай актыўнасьці—зьяўляецца прычынай невыстарчальнай яўкі выбаршчыкаў на перавыбары саветаў.

Адсюль трэба зрабіць важнейшы палітычны вывад, што тыя мясцовыя арганізацыі, дзе дапушчаны прарывы па гэтаму вучастку павінны як можна хутчэй перабудавацца, ахапіць арганізацыйна-палітычным уплывам усе масы працоўных гораду і вёскі, накіраваць іх актыўнасьць на ўдзел у вырашэньні ўсіх задач сацыялістычнага будаўніцтва праз саветы.

Важнейшай задачай перавыбараў гэтага году было ўцягненьне ў выбарчую кампанію калгасьнікаў, батрацтва і беднаты, як апоры саветаў на вёсцы. Мы павінны адзначыць, што ўдзел калгасьнікаў, батрацтва і беднаты ў перавыбарах саветаў быў значна вышэйшы, чым удзел у перавыбарах іншых груп працоўнага насельніцтва вёскі. Па 24 раёнах, актыўнасьць калгасьнікаў на выбарах у сярэднім дасягнула 77,2 проц. супроць 65,1 проц. агульнай актыўнасьці сялян; беднаты—69,8 супроць 65,2 проц. актыўнасьці ўсіх сялян аднаасобнікаў; яўка батрацтва на перавыбары вызначаецца ў сярэднім у колькасьці 77,8 проц. Аднак, рад раёнаў праявілі апартуністычную недаацэнку работы сярод беднаты. Напрыклад, Пярэжарскі і Рудзенскі сельсаветы Сьмілавіцкага раёну зусім не наладзілі ўліку батрацтва і беднаты; у Чырвонапольскім раёне не праводзіліся сходы беднаты і батрацтва па выбарчых вучастках. Невыстарчальна праведзена работа сярод беднаты і батрацтва ў Веткаўскім, Жураўліцкім, Ляднянскім і радзе іншых раёнаў. У выніку па гэтых раёнах проценту яўкі батрацтва і беднаты на перавыбарчыя сходы зьнізіўся і значна зьменьшылася колькасьць выбраных у сельсаветы батракоў і с.-г. рабочых.

Асаблівую ўвагу мясцовыя арганізацыі павінны былі аддаць падрыхтоўцы і ўцягненьню ў перавыбарчую кампанію працоўных нацыянальных раёнаў.

У выніку цэлага шэрагу мерапрыемстваў у гэтую перавыбарчую кампанію значна ўзрасла актыўнасьць працоўных нацменшасьцяй і гэтая актыўнасьць у асноўным была вышэй сярэдняй актыў-

насьці выбаршчыкаў па БССР. Усё гэта разам узятае яскрава сьведчыць аб найвялікшых зрухах, якія мы маем у сучасны момант на вёсцы.

Уся справаздачна-перавыбарчая кампанія адбывалася ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы: рэшткі аджываючх клясаў, кулакі, нэпманы, „былыя людзі“ аказваюць шалёнае сунраціўленьне, імкнуцца затармазіць разгорнутае сацыялістычнае наступленьне на ўсім фронце. Клясавыя ворагі праводзілі сваю падрыхтоўчую работу, яны імкнуліся пралезьці ў выбарчыя камісіі, яны мелі сваю кулацкую праграму, з якой выходзілі на перавыбары, яны імкнуліся прасунуць у саветы сваіх людзей для таго, каб праз гэта знутры ўзрываць саветы.

Адзначан цэлы рад выпадкаў, калі кулацтва, заможныя і іншыя антысавецкія элемэнты склікалі падпольные сходы для падрыхтоўкі кандыдатур і арганізаванага наступленьня на перавыбарчых сходах. Так, напрыклад, кулацкія элемэнты вёскі Падбярэзіна Кохаnoўскага раёну на падпольным сходзе займаліся спэцыяльна пытаньнямі высоўваньня на выбарчых сходах „счетчиков“, каб шляхам павялічэньня галасоў праводзіць у саветы свае кандыдатуры і зьменшаць галасы за кандыдатуры беднаты; у Лупалаўскім раёне былі выпадкі,калі заможная частка ў часе галасаваньня патрэбавала перапынку для таго, каб сарваць сход і ў часе перапынку больш арганізавацца. Зарэгістраваны факты, калі антысавецкія элемэнты імкнуліся ўплываць на перавыбарчую кампанію праз папоў, ксяндзоў, рабінаў і г. д. У Пухавіцкім раёне папы і ксяндзы праводзілі спэцыяльныя гутаркі, дзе абмяркоўвалася пытаньне перавыбараў; у Юравіцкім раёне ў дзень перавыбараў поп арганізаваў набажэнства ў царкве з мэтай зрыву перавыбарчага сходу.

З асаблівай заядласьцю кулацкія і заможныя элемэнты вялі барацьбу на перавыбарчых сходах супроць тых работнікаў саветаў, якія зарэкамэндавалі сябе як сапраўдныя барацьбіты за генэральную лінію партыі.

Праз сваіх агентаў кулацтва імкнулася накіраваць выбарчыя сходы супроць выкананьня чарговых гаспадарчых задач, супроць мерапрыемстваў партыі і ўраду ў справе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Асабліва вострая барацьба разгортвалася вакол пытаньняў калектывізацыі.

Адзначана некалькі выпадкаў, калі пад уплывам кулацтва ў выніку невыстарчальнай папярэдняй падрыхтоўкі з боку мясцовых арганізацый з наказу выкідвалася паказаньне аб неабходнасьці далейшага разгортваньня калектывізацыі; кулацтва ўмела выкарыстоўвала кожны выпадак няправільных адносін да серадняка і імкнулася праз гэта аказаць свае ўплывы на серадняцкую масу, павесьці гэту серадняцкую масу за сабой. Таксама зарэгістраваны цэлы рад выпадкаў, кулацкага тэрору супроць паасобных работнікаў с/саветаў.

Мелі месца факты, калі клясава-варожыя элемэнты імкнуліся ў сваёй барацьбе супроць генэральнай лініі партыі прыкрыцца аўтарытэтам былых правадыроў правага ўхілу (Рыкаў, Бухарын).

Усім гэтым імкненьнем з боку кулацтва ў часе справаздачна-перавыбарчаи кампаніі быў дан рашучы і руйнуючы адпор з боку саміх выбаршчыкаў.

Усе гэта ярка паказвае тое абвастрэньне клясавай барацьбы ва ўмовах якой адбывалася справаздачна-перавыбарчая кампанія. Таму зусім недапушчальна і палітычна-шкодна права-апартуністычная недаацэнка гэтай клясавай барацьбы, якая (недаацэнка) была праяўлена паасобнымі мясцовымі арганізацыямі і паасобнымі работнікамі.

Яркі прыклад махровага апартунізму на практыцы — пастанова Азарыцкага РВК, які ў вывадах аб перавыбарах саветаў пра клясавую барацьбу ў часе выбарчай кампаніі запісаў наступнае. „Адкрытай сутычкі паміж паасобнымі сацыяльнымі групамі насельніцтва ў гэтую кампанію не наглядалася. Гэта можна растлумачыць тым, што дзякуючы праведзенаму раскулачваньню і давядзеньню цьвёрдага заданьня на загатоўках да кулацка-заможнага двара,—гэта частка насельніцтва некалькі прыціхла“.

Абвастрэньне клясавай барацьбы ў часе перавыбараў саветаў патрабавала ад партыйных арганізацый мабілізацыі усіх сіл пралетарскіх, калгасных, бед-

няцкіх элемэнтаў вёскі для таго, каб узмацніўшы сувязь з серадняком даваць рашучы адпор контр-рэвалюцыйным імкненьням з боку кулацкіх і іншых антысавецкіх элемэнтаў.

Пад кіраўніцтвам кампартыі батрацтва, калгасьнікі і бедната яшчэ больш узмацнілі саюз з серадняком у барацьбе супроць свайго класавага ворага. Выбарчая кампанія яшчэ больш згуртавала працоўныя масы вёскі для вырашэньня задач сацыялістычнага будаўніцтва, для перабудовы сельскай гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі.

Клясавая пільнасьць, палітычная актыўнасьць батрацтва, калгаснікаў і беднаты ў саюзе з серадняком забясьпечылі тое, што пад кіраўніцтвам мясцовых партыйных арганізацый вылазкам клясава-варожых элемэнтаў дан самы жорсткі, рашучы адпор.

Справаздачна-перавыбарчая кампанія характарызуецца шырокім разгортваньнем крытыкі і самакрытыкі. Як у горадзе, так і на вёсцы выбаршчыкі з асаблівай ўвагай ставілі пытаньне аб тым, у якой меры савет стаяў на чале ў барацьбе супроць апартунізму за генэральную лінію партыі, а ў вёсцы з асаблівай вострасьцю ставілася пытаньне аб ролі саветаў у барацьбе за сацыялістычную перабудову сельскае гаспадаркі, за суцэльную калектывізацыю і ліквідацыю на гэтай аснове кулацтва, як клясы, за выкананьне чарговых гаспадарча-палітычных кампаній.

З асаблівай жорсткасьцю выбаршчыкі ўзялі пад абстрэл тых сельсаветчыкаў, якія ў сваёй рабоце скажаюць лінію партыі, якія ня толькі ня спрыяюць правядзеньню ў жыцьцё генэральнай лініі партыі, але наадварот падрываюць давер'е да партыі з боку шырокіх мас працоўных.

З асаблівай жорсткасьцю барацьба за генэральную лінію партыі разгарнулася пры выбарах новых саветаў. Рабочыя, батрацтва, калгасьнікі, бедната ў саюзе з серадняком пад кіраўніцтвам партыі праводзілі перавыбары саветаў пад лёзунгам ачысткі саветаў ад апартуністычных элемэнтаў—кулацкай агентуры, узмацненьня органаў пралетарскай дыктатуры лепшымі ўдарнікамі сацыялістычнага будаўніцтва, сапраўднымі барацьбітамі за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі. Выбары праходзілі ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы.

Гэтай справе—справе падбору і падрыхтоўкі кандыдатур мясцовымі арганізацыямі было надана асабліва важнае значэньне. Як правіла, кандыдутары, якія рэкамэндаваліся мясцовым партыйнымі ячэйкамі, знаходзілі падтрыманьне з боку шырокіх пластоў выбаршчыкаў. Калі-ж і мелі месца выпадкі, што гэтыя кандыдатуры правальваліся, то прычынай гэтаму трэба лічыць апартуністычную недаацэнку папярэдняй падрыхтоўкі кандыдатур з боку мясцовых кіруючых арганізацый, якія высоўвалі мала праверaныя кандыдатуры.

Напрыклад, у Пераваліцкім сельсавеце, Коханаўскага раёну была высунута кандыдатура былога кантрабандыста; у Ляхаўскім с/с, Лепельскага раёну была высунута кандыдатура былога дэзэртыра Чырвонай арміі; у Палосавіцкім с/с—кандыдатура растратчыка; у Пярэжырскім с/с рэкамэндавалі ў члены с/савету былога царкоўнага старасту. Зразумела, што гэтыя кандыдатуры правальваліся. Але гэтыя злачынна нядбайныя адносіны да вылучэньня кандыдатур зараз-жа імкнуліся скарыстаць кулакі, якія высоўвалі праз сваіх падпявал свае кандыдатуры.

Аднак, у выніку надзвычайнай актыўнасьці з боку батрацка-бядняцкіх элемэнтаў вёскі, у выніку тэй найвялікшай падрыхтоўкі работы, якая была праведзена мясцовымі арганізацыямі, сучасны склад сельсаветаў значна палепшыўся ў параўнаньні з мінулым складам. Новы склад у асноўным забясьпечвае тое,што с/с на справе змогуць перабудаваць сваю работу па выкананьні задач сацыялістычнага будаўніцтва і ўзьнімуць сваю ролю ў правядзеньні ў жыцьцё генэральнай лініі партыі.

У выніку перавыбараў с.-саветаў у гэтым годзе мы маем павялічэньне ў с.-саветах колькасьці рабочых—да 6,49 проц. супроць 5,4 проц. мінулага году; колькасьць калгасьнікаў у с.-саветах раўняецца 21,94 проц. Адсюль відаць, што калгасьнікі занялі ў с.-саветах адпаведнае ім месца побач з рабочымі і бядняцкай часткай вёскі.

З агульнай колькасьці адзінаасобнікаў, якія ў саветах складаюць 66,04 проц.-- 55,32 проц. складаюць адзінаасобнікі зусім вызваленыя ад с.-г. падатку.

Канстатуючы ў агульным здавальняючы сацыяльны склад сельскіх саветаў, мы павінны разам з тым адзначыць, што склад паасобных сэльсаветаў патрабуе неадкладнай зьмены. У некаторыя сельскія саветы пралезьлі кулацка-заможныя элементы. У складзе некаторых сельсаветаў няма ніводнага серадняка. У адносінах да кулацкіх элемэнтаў трэба неадкладна скарыстаць права адкліканьня для таго, каб ачысьціць саветы ад класава-варожых элементаў. З другога боку трэба рашучым чынам палітычна асудзіць тыя арганізацыі, што праявілі апартуністычную недаацэнку серадняка і ў адносінах да тых сельсаветаў, дзе сераднякоў няма, трэба паставіць пытаньне аб новых перавыбарах гэтых сельсаветаў.

Значна павялічылася ў гэтым годзе колькасьць жанчын у саветах. Дырэктыва партыі і ўраду аб давядзеньні колькасьці жанчын у сельсаветах у сярэднім да 25 проц. амаль цалкам выканана. У гэтым годзэ ў сельсаветах жанчыны складаюць 23,69 проц. супроць 19,87 проц. мінулага году.

Павялічылася ў складзе сельсаветаў колькасьць камуністаў, якія складаюць 10,84 проц. у параўнаньні з 9,43 проц. мінулага году. Колькасьць камсамольцаў у сучасным складзе сельсаветаў зьнізілася да 6,55 проц. супроць 8,29 проц. мінулага складу; асабліва рэзкае зьніжэньне назіраецца ў паасобных раёнах, дзе колькасьць камсамольцаў у складзе сельсаветаў не дасягае 4 проц. У выніку сваячасовых мер ЦК ЛКСМБ, камсамол, асабліва за апошні час, прыняў актыўны ўдзел у справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў. Але трэба адзначыць, што ў цэлым радзе раёнаў, асабліва ў першы пэрыяд справаздачна-перавыбарчай кампаніі паасобныя раённыя камсамольскія арганізацыі праявілі апартуністычную недаацэнку справаздачна-перавыбарчай кампаніі.

Мы мелі з боку паасобных камсамольскіх работнікаў зусім недапушчальныя выступленьні і ўчынкі ў часе справаздачна-перавыбарчай кампаніі; (выпадкі выступленьня паасобных камсамольцаў супроць кандыдатур беднаты.

Праяўленьням кулацкай ідэалёгіі і злачынных адносін да перавыбараў з боку паасобных камсамольцаў на сходах і даваўся рашучы адпор з боку мас камсамольцаў, з боку батрацтва, беднаты і калгасьнікаў. У працэсе разгортваньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі ЦК камсамолу былі прыняты захады да таго, каб мабілізаваць камсамол на актыўны ўдзел у справаздачна-перавыбарчай кампаніі. ЦК камсамолу мабілізаваў для работы ў сельсаветах у якасьці сакратароў сельсаветаў—300 камсамольцаў з ліку батрацтва, беднаты і г. д. Гэта паказвае, што камсамольская арганізацыя адыграла важнейшую ролю ў справе перавыбараў саветаў. Аднак, тыя прарывы, што мелі месца ў паасобных мясцох, у выніку якіх мы назіраем значнае зьніжэньне колькасьці камсамольцаў у сельсаветах, павінны быць улічаны ўсей камсамольскай арганізацыяй для таго, каб яшчэ ў большай меры завастрыць увагу ўсёй камсамольскай арганізацыі на пытаньнях клясавай барацьбы ў вёсцы, на загартаваньні камсамольскай арганізацыі для актыўнага ўдзелу ў гэтай клясавай барацьбе, для рашучай барацьбы супроць кулацтва, за калгасы для ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі.

ЦК КП(б)Б у сваіх дырэктывах аб справаздачна - перавыбарчай кампаніі ўказваў на тое, што перавыбары павінны быць шчыльным чынам зьвязаны з выкананьнем усіх чарговых палітычна-гаспадарчых кампаній, павінны спрыяць іх пасьпяховаму выкананьню і замацаваць ролю саветаў у барацьбе за генэральную лінію партыі

Трэба адзначыць, што гэта злучэньне перавыбараў саветаў з выкананьнем усіх палітычна-гаспадарчых кампаній на мясцох практычна ажыцьцяўляецца.

Перавыбары яшчэ ў большай меры ўзмацнілі работу па далейшай мабілізацыі сіл на выкананьне плянаў загатовак на далейшае разгортваньне калектывізацыі, правядзеньне ўсеагульнага навучаньня і г. д.

Апартуністычны адрыў справаздачна-перавыбарчай кампаніі ад іншых чарговых палітычна-гаспадарчых кампаній,

правядзеньне справаздачна-перавыбарчай кампаніі, як чарговай „кампаніі“ бяз увязкі яе з выкананьнем задач сацыялістычнага будаўніцтва, што заўважвалася ў асобных мясцох, прыводзіла да зьніжэньня тэмпаў па калактывізацыі, загатовак і г. д. Надварот, бальшавіцкая ўвязка ўсіх гэтых кампаній паслужыла падставай для магутнага разгортваньня па ўсёй БССР калгаснага руху, выклікала арганізацыю чырвоных абозаў, прыстасаваных да перавыбарчых сходаў, да раённых зьездаў саветаў, спрыяла запаўненьню прарываў у справе ўсеагульнага навучаньня і г. д.

За час справаздачна-перавыбарчай кампаніі ў БССР арганізавалася 690 калгасаў і ўцягнута ў калгасы 11.300 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Колькасьць каляктыўных гаспадарак павялічылася за гэты час на 2,5 проц.

У Дрыбінскім раёне за час перавыбараў саветаў праведзена падпіска на пазыку „Пяцігодка—за чатыры гады“ на 10.712 руб., сабрана 22.100 руб. паявых узносаў і 22.863 руб. пратэрмінованых крэдытаў.

Гэтыя і іншыя прыклады ярка сьведчаць аб правільнай у асноўным установцы пры правядзеньні справаздачна-перавыбарчай кампаніі на мясцох.

Справаздачна-перавыбарчая кампанія сельсаветаў праходзіла пад знакам надзвычайна высокай палітычнай актыўнасьці мас, спрыяла еще большаму разгортваньню энтузіязму працоўных мас для барацьбы за выкананьне ўсіх задач сацыялістычнага будаўніцтва для выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады, для пасьпяховага сканчэньня задач трэцяга рашаючага году пяцігодкі, для разгортваньня суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва, як клясы, па гэтай базе.

Асаблівую зацікаўленасьць праяўлялі выбаршчыкі да пытаньня міжнароднага становішча Савецкага Саюзу, да пытаньня аб шкодніцтве і аб барацьбе партыі супроць беларускіх контр-рэвалюцыйных нацыянал-дэмакратаў. У выніку падрабязнага абгаварэньня ўсіх гэтых пытаньняў адзначаецца яшчэ большая гатоўнасьць працоўных мас Беларусі да рашучага адпору ўсялікім імпэрыялістычным намерам з боку капіталістычных інтэрвэнтаў, рашучае патрабаваньне да Ураду аб самым суровым пакараньні ўсіх шкоднікаў, як з „Промпартыі“, так і да групы беларускіх контр-рэвалюцыйных нацыянал-дэмакратаў, якія зьяўляюцца агентамі польскага фашызму.

Пасьпяховае правядзеньне справаздачна-перавыбарчай кампаніі выяўляе аб тым, што шматмільённыя масы сельскіх пралетарыяў, батрацтва, калгасьнікаў, беднаты і серадняцтва галасуюць за генэральную лінію партыі і яшчэ больш аб'ядноюцца навакол камуністычнай партыі для пасьпяховага вырашэньня задач сацыялістычнага будаўніцтва на падставе генэральнай лініі партыі.

Контр-рэвалюцыйныя вылазкі клясава-варожых элемэнтаў і іх агентуры—апартуністаў розных колераў, нацыянал-дэмакратаў, нацыялал-апартуністаў сустрэкалі самы рашучы адпор з боку ўсіх працоўных. Выбаршчыкі ў часе галасаваньня кандыдатур у саветы паказалі, што яны падтрымліваюць толькі тыя кандыдатуры, якія забясьпечваюць выкананьне генэральнай лініі партыі і галасуюць супроць усіх тых кандыдатур, што ня могуць забясьпечыць ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі.

Такім чынам у час справаздачна-выбарчай кампаніі адбывалася чыстка саветаў ад правых і „левых“ апартуністаў, нацыянал-апартуністаў, і тым самым стваралася гарантыя, што саветы будуць сапраўднымі органамі дыктатуры пралетарыяту, якія перабудаваўшы сваю работу на справе будуць забясьпечваць сваечасовае і поўнае выкананьне ўсіх задач сацыялістычнага будаўніцтва.

Аднак, трэба ўяўляць сабе, што справаздачна-перавыбарчая кампанія—гэта ёсьць толькі першая частка па перабудове работы саветаў у адпаведнасьці з задачамі рэканструкцыйнага пэрыяду. Гэта першая частка работы трэбуе далейшага свайго замацаваньня ў часе практычнай работы новых саветаў, патрабуе з боку партыі і рабочае клясы, ўсіх пралетарскіх арганізацый пастаяннай увагі да работы саветаў.

Асабліва важнае значэньне мае гэта ў дачыненьні да сельсаветаў. С/саветы таксама як і раённыя выканаўчыя камі-

тэты маюць непасрэднае дачыненьне да шырокіх мас сялянства, да вёскі, да калгасьнікаў. Праз сельсаветы пралетарыят ажыцьцяўляе свае ўплывы на вёску, праз сельсаветы рабочая кляса праводзіць у жыцьцё ўсе мерапрыемствы ў барацьбе за сацыялізм. Гэта вымагае таго, каб усе пралетарскія арганізацыі гораду і вёскі дапамагалі саветам у іх штодзённай рабоце, дапамаглі савецкім арганізацыям замацаваць той палітычны і вытворчы энтузіязм, ва ўмовах якога адбывалася справаздачна-перавыбарчая кампанія. Пралетарскі ўплыў і кіраўніцтва ў сельсаветах павінны быць яшчэ больш узмоцнены.

Сьнежаньскі пленум ЦК УсеКП(б) у пастанове аб перавыбарах саветаў патрабуе таго, каб з боку ўсіх абласных, рэспубліканскіх саюзных органаў саветаў была аказана максымальная дапамога і садзейнічаньне раёнам, асабліва па лініі ўстанаўленьня належнай сувязі і канкрэтнага кіраўніцтва, а таксама палепшаньня матар'яльных і культурных умоў работы ў раёнах.

Перад намі ў сучасны момант стаяць у дачыненьні да с/с наступныя задачы:

а) узмацненьне палітычнага кіраўніцтва з боку партыйных арганізацый шляхам штодзённай ўзьдзейнасьці партыі на работу саветаў, шляхам устанаўленьня пастаяннай штодзённай сувязі паміж рабочымі арганізацыямі і саветамі, шляхам дапамогі саветам у выкананьні стаячых перад імі задач, няўхільнага ўзмацненьня пралетарскага кіраўніцтва сельсаветамі;

б) арганізацыйнае замацаваньне сувязі саветаў з шырокімі масамі працоўных вёскі, якія апіраючыся на батрацтва, калгасьнікаў, беднату, як на асноўную апору саветаў у вёсцы павінны яшчэ больш узмацніць сваю сувязь з шырокімі масамі серадняцтва. Асаблівую ўвагу трэба аддаць замацаваньню ў Саветах выбраных жанчын, праз уцягненьне іх у практычную работу саветаў.

в) палепшаньне матар'яльных і культурных умоў работы сельсаветаў шляхам максымальнага вылучэньня сродкаў для саветаў за кошт эканомнага выдаткаваньня сродкаў, за кошт зьніжэньня непатрэбных выдаткаў у паасобных нашых установах і арганізацыях;

г) трэба дабіцца таго, каб той уздым энтузіязму ў выкананьні задач сацыялістычнага будаўніцтва і правядзеньня чарговых палітычна-гаспадарчых кампаній, якім адзначаецца пэрыяд справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў, быў замацован і надалей і каб саветы на справе зьяўляліся органамі дыктатуры пралетарыяту, па справе ажыцьцяўлялі-б задачы сацыялістычнага будаўніцтва, барацьбы за генэральную лінію партыі.

На даным этапе сацыялістычнага будаўніцтва асабліва важнае значэньне ў рабоце с/саветаў мае падрыхтоўка да веснавай пасеўнай кампаніі. Гэта пасеўная кампанія цесным чынам зьвязана з барацьбой за далейшае разгортваньне калгаснага руху за ліквідацыю кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі. Гэтая кампанія цесным чынам зьвязана з сваечасовым сканчэньнем чарговых гаспадарчых кампаній па ільнонарыхтоўках, па мясазагатоўках, па лесазагатоўках, па мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў і г. д.

Пасьпяховая падрыхтоўка да вясновай пасеўнай кампаніі і зьвязанае з гэтым пасьпяховае выкананьне ўсіх бягучых палітычна-гаспадарчых кампаній будуць зьяўляцца экзаменам для новага складу сельсавету. Сельсаветы павінны зьявіцца сапраўднымі бальшавіцкімі штабамі,—арганізатарамі новага калгаснага прыліву, штабамі, якія стаяць на чале пасьпяховага правядзеньня ўсіх гэтых кампаній. Пасьпяховым правядзеньнем усіх гэтых кампаній саветы пакажуць, што яны на справе перабудавалі сваю работу ў адпаведнасьці з задачамі рэканструкцыйнага пэрыяду, што яны на справе вядуць сваю барацьбу за генэральную лінію партыі, за пасьпяховае выкананьне задач па завяршэньню пабудовы сацыялістычнай эканомікі Саюзу ССР.

Сельсаветы пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый павінны ўзмацніць сваю барацьбу за ажыцьцяўленьне ленінскай нацпалітыкі, супроць вялікадзяржаўнага шавінізму—галоўнай небясьпекі, супроць контр-рэвалюцыйнага беларускага нацыянал-дэмакратызму і шавінізму ўсіх колераў.

Для далейшага пасьпяховага выкананьня ўсіх гэтых задач сельсаветы павінны скарыстаць той вялізарнейшы эн-

тузіязм, які ў сучасны момант наглядаецца сярод шырокіх мас працоўных гораду і вёскі ў сувязі з падрыхтоўкай да надыходзячага Х-га Усебеларускага Зьезду Саветаў. Х-ы Усебеларускі Зьезд Саветаў павінен будзе разглядзець дзейнасьць ураду за мінулыя 2 гады, ён дасьць ацэнку рабоце па ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва з боку ўсіх савецкіх устаноў. Х-ы Усебеларускі Зьезд Саветаў павінен будзе таксама разглядзець і вызначыць далейшыя шляхі разгортваньня сацыялістычнага будаўніцтва Савецкай Беларусі, улічыўшы ўсе матар'яльныя людзкія рэсурсы і агульна-палітычныя, міжнародныя і іншыя ўмовы.

Лепшым падарункам, лепшым прывітаньнем Х-му Усебеларускаму Зьезду Саветаў будзе рапарт з боку саветаў, фабрык, заводаў, саўгасаў, калгасаў аб пасьпяховым выкананьні пастаўленых перад імі задач.

Сельсаветы павінны рыхтаваць свой рапарт Х-му Усебеларускаму Зьезду Саветаў аб тым, што яны на справе перабудаваліся ў адпаведнасьці з задачамі рэканструкцыйнага пэрыяду і што яны да Х-га Усебеларускага Зьезду Саветаў пасьпяхова заканчваюць правядзеньне ўсіх палітычна-гаспадарчых кампаній.

**А. Чарвякоў.**

## Важнейшыя задачы раённых зьездаў саветаў.

15-га студзеня праводзіцца скліканьне першых пасьля ліквідацыі акруг раённых зьездаў саветаў БССР. Умовы і абставіны, пры якіх склікаюцца зараз раённыя зьезды саветаў, зусім іншыя, чым яны былі ў 1929 г. Да гэтага часу ўжо пасьпяхова выкананы і перавыкананы пляны першых двух год пяцігодкі. Ажыцьцяўляемыя тэмпы і дасягнутыя посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва, а таксама энтузіязм і ініцыятыва рабочае клясы забясьпечваюць выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады. Разам з гэтым нашы посьпехі ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва і шырокае на ўсіх франтох наступленьне сацыялізму на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, пасьпяховае вырашэньне задач суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі на гэтай падставе кулацтва, як клясы, выклікалі і выклікаюць упартае, шалёнае супраціўленьне клясавага ворага, які імкнецца сарваць сацыялістычнае будаўніцтва, дыскрэдытаваць палітыку партыі і савецкай улады, скарыстаць у сваіх контррэвалюцыйных мэтах усе нашыя цяжкасьці. Усім вядома, як ворагі савецкай улады ў асобе Рамзіных, Кандрацьевых, беларускіх контррэвалюцыйных нацыянал-дэмакратаў — Лёсікаў, Ластоўскіх, Некрашэвічаў і іншых—вялі падпольную работу супроць дыктатуры пралетарыяту, вялі падрыхтоўку інтэрвэнцыі супроць Савецкага Саюзу. Капіталістычныя дзяржавы, якія зараз перажываюць глыбачайшы эканамічны крызіс і маюць выцякаючае адгэтуль нячуванае беспрацоўе і асаблівае абвасрэньне супярэчнасьцяй, шукаюць выхаду з свайго цяжкага становішча ў вайне з Саюзам ССР.

Пасьпяховае ажыцьцяўленьне пад непасрэдным кіраўніцтвам камуністычнай партыі пяцігодкі ў чатыры гады, згуртаваньне вакол гэтага лёзунгу шырокіх мас працоўных, разгорнутае сацыялістычнае будаўніцтва, рашучае наступленьне сацыялізму на капіталістычныя элемэнты, ажыцьцяўленьне на справе лёзунга суцэльнае калектывізацыі і на гэтай аснове ліквідацыя кулацтва, як клясы, упартае супраціўленьне клясавага ворага, напружанае міжнароднае становішча—вось тыя асноўныя асаблівыя ўмовы і абставіны, у якіх склікаюцца зараз раённыя зьезды саветаў.

У парадку дню раённых зьездаў саветаў ставяцца такія важныя пытаньні, як даклад Ураду БССР, справаздачы РВК, пэрспэктывы культурнага і гаспадарчага будаўніцтва ў раёне і раённы бюджэт на 1931 год, аб калектывізацыі сельскай гаспадаркі і падрыхтоўцы да чарговай вясновай пасеўнай кампаніі, выбары раённага выканаўчага камітэту і выбары дэлегатаў на Х Усебеларускі зьезд саветаў.

Вялізарныя задачы якія стаяць перад раёнамі, пасьля ліквідацыі акруг, патрабуюць ад іх перабудовы ўсёй сваёй

работы ў напрамку большай самастойнасьці і ўжываньня новых мэтадаў, ад раённых органаў патрабуюць напружанай работы ў ажыцьцяўленьні вялікіх тэмпаў ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва. У сувязі з ліквідацыяй акруг раёны ператварыліся ў апорнае зьвяно сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы. Гэта патрабуе ад раёнаў больш цьвёрдага і чоткага ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі, палітыкі і мерапрыемств савецкай улады пры вырашэньні чарговых задач сацыялістычнага будаўніцтва.

Важнейшым з важнейшых пытаньняў, якія стаяць на раённых зьездах павінна быць справа сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі—калектывізацыя і бальшавіцкая вясновая сяўба.

Раённыя зьезды саветаў павінны будуць падрабязна абгаварваць усе вузлавыя пытаньні калектывізацыі і вясновай сяўбы, папулярызаваць дасягненьні і далейшыя задачы калгаснага руху; прыкладамі, фактамі і лічбамі даказаць перавагу каляктыўнага вядзеньня сел.-гаспадаркі перад індывідуальным, асьвятліць задачы, пытаньні і становішча культурнага будаўніцтва вёскі, асабліва пытаньні ўсеагульнага навучаньня, абгаварыць і вырашыць задачы асноўных гаспадарча-палітычных кампаній, асабліва такіх, як хлебазагатоўкі, лесазагатоўкі, пасеўная кампанія, мабілізацыя сродкаў, ільнозагатоўкі і г. д. Раённыя зьезды саветаў, пленумы гарадзкіх саветаў—павінны яшчэ больш мабілізаваць шырокія масы рабочых на змаганьне за высокія тэмпы работы сацыялістычнай прамысловасьці, яшчэ больш узьняць творчую ініцыятыву і актыўнасьць працоўных мас на пасьпяховае вырашэньне ўсіх задач па выкананьні пяцігодкі ў чатыры гады.

Справаздачы раённых выканаўчых камітэтаў павінны даць зьездам саветаў малюнак сацыялістычнага будаўніцтва ў раёне, посьпехаў і недахопаў у канкрэтнай працы, высьвятліць вялікія задачы сацыялістычнага будаўніцтва ў раёне на 1931 год—трэці рашаючы год пяцігодкі.

Аб вялікіх задачах будаўніцтва ў раёнах можна меркаваць па тэй праграме гаспадарчага і культурна-сацыяльнага будаўніцтва, якая вызначана ў кантрольных лічбах па мясцовых (раённых) бюджэтах на 1931 год. Збор мясцовых бюджэтаў прадугледжвае па ўсіх галінах будаўніцтва значнае павялічэньне выдаткаў у параўнаньні з мінулым гаспадарчым годам. Так, на прамысловасьць у 1931 годзе па мясцовых бюджэтах запраектавана да выдаткаваньня 12.390 тысяч рублёў замест 6.103 т. р. у 1929-30 годзе; на электрыфікацыю—3.110 т. р. замест 2.010 т. р.; на сельскую гаспадарку—5.765 тыс. р. замест 4.956 т. р., на камунальную і жыльлёвую гаспадарку—15.875 тыс. р. замест 12.347 т. р., на дарожную гаспадарку—6.181 т. р. замест 4.463 т. р., на асьвету—60.634 т. р. замест 36.132 т. р. на ахову здароўя—13.112 тыс. р. замест 9.816 т. р. і г. д. Агульная сума мясцовых бюджэтаў на 1931 складае 145 млн. 600 тысяч руб. У мінулым-жа 1929-30 г. было—92 млн. 220 т. р. Рост бюджэту больш, чым на 50 процантаў сьведчыць аб тых вялізарных дасягненьнях і задачах, якія павінны ажыцьцяўляцца ў раёнах, аб той напружанай рабоце і тых вялікіх тэмпах, якія павінны забясьпечыць поўнае выкананьне намечаных на бягучы год плянах сацыялістычнага будаўніцтва. Раённыя зьезды саветаў павінны прыняць захады да сваечасовай падрыхтоўкі і выкананьня гэтых задач. У прыватнасьці, для выкананьня плянаў па прамысловасьці неабходна зьвярнуць увагу на неадкладнае разгортваньне падрыхтоўчых работ да будаўнічага сэзону, зьніжэньне сабекошту будаўніцтва, павышэньне вытворчасьці працы і правільнае скарыстаньне рабочай сілы, фінансавую дысцыпліну як у вытворчасьці, гэтак і ў будаўніцтве, поўнае скарыстаньне існуючага абсталяваньня мясцовай прамысловасьці. Транспарт і дарожнае будаўніцтва павінны заняць увагу зьездаў як важнейшыя гаспадарчыя мерапрыемствы.

Для забясьпечаньня поўнага і пасьпяховага выкананьня намечаных плянаў неабходна асаблівую ўвагу зьвярнуць на мабілізацыю сродкаў. Ня гледзячы на значнае павышэньне прыбыткаў насельніцтва, асабліва ў вёсцы, у 1929-30 г. мабілізацыя сродкаў насельніцтва пра-

ходзіла зусім нездавальняючымі тэмпамі. У выніку слабай работы ў гэтай галіне зьявілася недапаступленьне грашовых сродкаў да тых разьмераў, якія былі вызначаны прамфінплянам. Такое становішча з мабілізацыяй сродкаў насельніцтва на сацыялістычнае будаўніцтва павінна быць рашуча зьнішчана.

Раённыя зьезды павінны зьвярнуць увагу на своечасовы і поўны збор паёў і ўкладаў каапэрацыі, зварот пазычак, прыцягненьне новых укладаў у ашчадкасы, распаўсюджваньне пазык, збор усіх абавязковых плацяжоў і інш. Узьнятая актыўнасьць рабочых мас выявіла рост сацыялістычных форм арганізацыі працы: сацыялістычнае спаборніцтва, ударніцтва, арганізацыю сустрэчных прамфінплянаў і інш. Гэтыя мэтады работы павінны быць скарыстаны і пашыраны на ўсе галіны работы.

Як на адну з умоў посьпехаў у галіне прамысловасьці трэба зьвярнуць увагу на грамадзкае харчаваньне і рабочае забясьпечаньне. Гэта пытаньне зьяўляецца аднэй з важнейшых палітычна-эканамічных праблем у 1931 г. Таму неабходна забясьпечыць поўнае выкананьне плянавых заданьняў разгортваньня прыгарадных гаспадарак, малочных фэрм, арцеляй і сьвінаадкормачных пунктаў, арганізацыю рабочых сталовак на прадпрыемствах, закрытых разьмеркавальнікаў і г. д.

Сацыялістычная рэканструкцыя сельскай гаспадаркі шляхам яе калектывізацыі мае ў БССР агромністыя дасягненьні. Да канца 1930 г. у калгасы увайшло звыш 100 тысяч бядняцка-серадняцкіх гаспадарак супроць 25.830 гаспадарак на кастрычнік 1929 г., што складае каля 14% калектывізаваных гаспадарак супроць 3,8 проц. на гэты час у 1929 г. За гэты-ж пэрыяд пасеўная плошча сацыялістычнага сэктару павялічылася ў 7 раз і складае каля 17 проц. усёй плошчы супроць 2,4 проц. у 1929 г., або 606.562 га супроць 82.600 га у 1929 годзе. Абагуленае стада прадукцыйнай жывёлы павялічылася з 20.962 да 120.000 галоў. Сацыялістычны сэктар ужо зараз дае дзяржаве каля 30 проц. таварнай прадукцыі да ўсяе сельскай гаспадаркі.

Прыведзеныя кароткія даведкі аб калгасным будаўніцтве красамоўна сьведчаць аб тым, што адзіна правільнай зьяўляецца генэральная лінія партыі, яе Ленінскага ЦК, сьведчаць аб тым, наколькі хлусьлівыя былі сьцьверджаньні апартуністых, што ў калгасах ня будзе стымулю да падвышэньня вытворчасьці працы, што ў выніку калектывізацыі мы будзем мець значны недасеў і г. д. Вялікая і яскравая перамога каляктыўных форм сельскай гаспадаркі выклікалі новы прыліў у калгасы бядняцка-серадняцкіх мас сялянства. Толькі ў кастрычніку 1930 г. у калгасы ўвайшло 4.954 новыя гаспадаркі і арганізавана 157 новых калгасаў. У справе разгортваньня калгаснага руху значна дапамагалі і дапамагаюць рабочыя брыгады і рабочае шэфства. Бядняцка-серадняцкія масы паслалі ў гарады тысячы чырвоных абозаў з прадуктамі харчаваньня і сыравіны для прамысловых цэнтраў. Гэта сьведчыць аб узмацненьні саюзу рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства пад кіраўніцтвам пралетарыяту і яго Ленінскай партыі.

Абгаварваючы важнейшыя пытаньні калектывізацыі, раённыя зьезды саветаў павінны ўзяць рашучы напрамак на заканчэньне ў асноўным да канца пяцігодкі калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, захоўваючы прынцыпы дабраахвотнасьці, бязьлітаснай барацьбы з кулацтвам, арганізацыі груп бедннаты, правільнага ажыцьцяўленьня Ленінскай нацыянальнай палітыкі ў будаўніцтве калгасаў, гаспадарчага і культурнага замацаваньня нацыянальн. калгасаў

Разьвіцьцё жывёлагадоўлі ў БССР зьяўляецца аднэй з важнейшых задач у сельскай гаспадарцы, чаму пляны ў галіне жывёлагадоўлі павінны быць выкананы і перавыкананы. Пры гэтым праблема жывёлагадоўлі павінна быць шчыльна зьвязана з вырашэньнем кармавой базы. З гэтай прычыны трэба зьвярнуць выключную ўвагу на грунтоўнае палепшаньне і пашырэньне існуючай кармавой базы шляхам расчыстак і палепшаньня сенажацяй, пераворваньня сухадолаў з нізкімі ўраджаямі і інш. Сіласаваньне, пляны якога ў 1930 годзе былі амаль сарваны няўважлівымі адносінамі і несвоечасовай пад-

рытоўчай работай, павінна быць выканана поўнасьцю па вызначаных плянах у бягучым годзе.

Ажыцьцяўленьне Ленінскай нацыянальнай палітыкі ва ўмовах БССР, асабліва зараз, у сувязі з выкрыцьцём групы контррэвалюцыйных беларускіх нацдэмаў, патрабуюць да сябе выключнай увагі. Дасягненьні і задачы ў галіне беларусізацыі, палепшаньне абслугоўваньня нацмен з пункту гледжаньня ажыцьцяўленьня рашэньняў апошняга пленуму ЦК КП(б)Б павінны заняць адпаведнае месца ў працы раённых зьездаў саветаў.

Выкананьне раёнамі ўсіх вялізарных задач, якія стаяць перад імі, магчыма толькі пры ўмацаваньні раённых выканаўчых камітэтаў, пры забясьпечаньні іх адпаведным складам з моцных вытрыманых працаўнікоў, якія правільна па бальшавіцку чотка праводзяць у сваёй рабоце генэральную лінію партыі. Пытаньне выбараў раённых выканаўчых камітэтаў ёсьць важнейшае пытаньне раённых зьездаў саветаў. Тут не павінна быць месца казённаму, бюракратычнаму фармалізму і абыячнасьці да таго, хто будзе абран у РВК. Трэба памятаць, што новы склад раённых выканаўчых камітэтаў, як і саміх саветаў, павінен быць здольным безагаворачна з бальшавіцкай непрымірымасьцю выканаць на справе стаячыя перад раёнамі задачы.

На падставе генэральнай лініі партыі райвыканкомы, а пад іх краўніцтвам і сельсаветы павінны забясьпечыць у далейшай працы бязумоўнае правядзеньне Ленінскай лініі партыі, вядучы рашучую барацьбу ў сваёй практычнай дзейнасьці з праяўленьнямі права і „лева“ апартуністычных скажэньняў палітыкі партыі і мерапрыемстваў кіруючых органаў савецкай улады.

Такія важнейшыя задачы раённых зьездаў саветаў.

**А. Хацкевіч**

---

# Барацьба з праваапартуністычнай практыкай—важнейшая ўмова выкананьня праграмы трэцяга году 5-годкі

## Правы ўхіл, „левыя“ загібы і задачы саветаў і выканкомаў у барацьбе з імі.

Зараз мы надзвычайна часта сустракаемся з асьвятленьнем ў друку правага ўхілу і „левых“ загібаў, якія дапускаюцца паасобнымі выканкомамі і саветамі ў практыцы работы.

Чым гэта тлумачыцца і чаму гэта іменна зараз мы надзвычайна часта сустракаемся з гэтымі ўхіламі? Што і якія прычыны выклікаюць гэтыя ўхілы і што патрэбна для таго, каб іх папярэдзіць?

Асноўнай задачай на сёньня ў нашым сацыялістычным будаўніцтве зьяўляецца задача „дагнаць і перагнаць“, г. зн. разгортваць нашу прамысловасьць такімі тэмпамі, якія-б дазволілі перабудаваць яе так, каб яна ня толькі адпавядала прамысловасьці высока разьвітых капіталістычных краін, але нават была пабудавана лепш, чым у гэтых краінах і пры тым у надзвычайна кароткі тэрмін.

Першачарговай задачай зьяўляецца таксама і пытаньне рэканструкцыі сельскай гаспадаркі на базе суцэльнай калектывізацыі. Значыцца задача пабудовы буйных фабрык—саўгасаў і калгасаў, якія будуць выпрацоўваць сельска-гаспадарчыя прадукты. Гэтыя фабрыкі—саўгасы і калгасы будуць мэханізаваны і машынізаваны і зьявяцца базай да далейшага разгортваньня прамысловасьці, паскольку рэарганізаваная сельская гаспадарка з аднаго боку зможа ў. большым маштабе ужываць у сябе трактары і іншыя сельска-гаспадарчыя машыны, а з другога боку зможа ў большай колькасьці і на лепшых умовах забясьпечваць прамысловасьць сыравінай і спажывецкімі прадуктамі.

Вось каротка тыя задачы, якія зараз стаяць як перад нашай прамысловасьцю, так і перад сельскай гаспадаркай і якія

выклікаюць некаторыя цяжкасьці. Аднак здавалася-б, што гэтыя задачы, а таксама і цяжкасьці, не павінны выклікаць ніякіх сумненьняў і, зразумела, ніякіх ухілаў, таму, што гэтыя цяжкасьці выкліканы бурным непераможным ростам сацыялізму, у які ўжо ўступіла краіна саветаў. Застаецца гэтыя задачы толькі вітаць, як задачы правільныя і ўпаўне адпавядаючыя лёзунгу партыі „дагнаць і перагнаць“. Таму ніякім ухілам у правядзеньні гэтых задач не павінна быць месца. Між тым мы ў практыцы работы выканкомаў і саветаў вельмі часта сустракаем і правы ўхіл, які на даным этапе сацыялістычнага будаўніцтва зьяўляецца самым небясьпечным і „левыя“ загібы, якія ў выніку зводзяцца да таго-ж самага правага апартунізму на практыцы.

У чым жа справа? Чым жа выклікаюцца вось гэтыя ўхілы?

Некаторыя таварышы, асабліва тыя, якія дапушчаюць гэтыя ўхілы ў сваёй рабоце такое зьявішча растлумачваюць надзвычайна проста. „Мы, мол, дапусьцілі іх таму, што проста ня ведалі як дадзеныя пытаньні можна і патрэбна было вырашыць, альбо таму, што нам здавалася, што мы гэтыя пытаньні вырашылі і ў адпаведнасьці з генэральнай лініяй партыі, г. зн. зноў такі мы ня ведалі як патрэбна было гэта пытаньне вырашыць у такім напрамку каб яно цалкам адпавядала задачам і тэмпам сацыялістычнага будаўніцтва“.

Ці так гэта? Аказваецца, калі мы пачнем вывучаць прычыны, дзякуючы якім быў дапушчан ухіл, дык атрымліваецца, што гэта ня так. Аказваецца, што ухіл у большай частцы выпадкаў дапушчан сумысна, што ён дапушчан з вядомай мэтай і іменна з мэтай перашкодзіць непераможнаму сацыялістычнаму будаўніцтву, якое, як сказаў, ў свой час, т. Сталін „ідзе наперад 7-мі мільн. крокамі“.

Пасьпешнае сацыялістычнае будаўніцтва вельмі і вельмі хутка пачало выцясьняць прыватна-капіталістычны сэктар, як з прамысловасьці, гэтак і з таваразвароту і сельскай гаспадаркі. Іншымі словамі з кожнай новай перамогай сацыялістычнага будаўніцтва прыватна-капіталістычны сэктар усё больш і больш пачынае траціць свае пазіцыі, а разам з тым і сваю эканамічную моцнасьць і свой уплыў, уплыў на акаляючае насельніцтва. Паколькі гэта так, пастолькі гэты капіталістычны сэктар прымае ўсе залежачыя ад яго меры да таго, каб затармазіць пасьпешны ход сацыялістычнага будаўніцтва і тым самым палепшаць свае існаваньне, ці правільней адцягнуць сваю пагібель далей хаця-б на некалькі хвілін, г. зн. капіталістычныя элемэнты для таго, каб затармазіць непераможнае сацыялістычнае будаўніцтва, аказваюць яму жорсткае супраціўленьне.

І гэта зразумела, ня гледзячы на пераможны ход сацыялістычнага будаўніцтва і вялікія посьпехі, якія дасягнуты за апошні час у гэтым напрамку, мы яшчэ маем на сёньня, як сказаў т. Ленін шмат „дробнай вытворчасьці, якая нараджае капіталізм і буржуазію пастаянна штодзённа, штогадзінна, стыхійна і ў масавым маштабе“. А пакольку гэта так, пастольку гэта буржуазія прымазваецца да нашых кіруючых органаў, залазіць у нашы каапэрацыйныя ўстановы і арганізацыі, і нават бываюць паасобныя выпадкі, калі яны прымазваюцца да авангарду рабочае клясы камуністычнае партыі і там праводзяць сваю работу, накіраваную ў бок зрыву сацыялістычнага будаўніцтва.

Асабліва зараз калі мы шчыльна падыйшлі да рэканструкцыі сельскай гаспадаркі шляхам калектывізацыі і разам з гэтым—да неабходнасьці ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі, апошняе (кулацтва) аказвае неімавернае супраціўленьне вышукваючы ўсе меры да таго каб паслабіць гістарычны неперамажны наступ сацыялізму.

„Дыктатура пралетарыяту“, як сказау т. Ленін, „ёсьць упартая барацьба, крывавая і бязкроўная, насільственная і мірная, пэдагагічная і адміністратарская, супроць сіл і традыцый старога вобчаства“, г. зн. ёсьць жорсткая клясавая барацьба, ёсьць забарона пралетарыятам у жорсткай барацьбе супроць клясавых ворагаў сваіх інтарэсаў.

Добра ведаючы, што з кожнай новай перамогай сацыялістычнага будаўніцтва паслабляюцца пазіцыі клясавых

ворагаў, а паколькі гэта так, дык зьяўляецца пытаньне ці уступяць яны бяз бойкі сваё месца, ці, як кажуць свае пазіцыі, зразумела, што не. Яны бяз бойкі сваіх пазіцый не здадуць, яны будуць аказваць самае жорсткае супраціўленьне і вось паслабленьне барацьбы з гэтым супраціўленьнем і выяўляецца ў фактах правага ўхілу на практыцы, а таксама і „левых“ загібаў.

Тут, аднак, можа ў некаторых таварышоў зьявіцца непаразуменьне, як гэта так, пры чым жа тут клясавы вораг, калі ўхілы бываюць з боку членаў партыі, якіх да ліку клясавых ворагаў далучыць ніяк нельга. На гэтакія непаразуменьні нам прыдзецца спаслацца на наступныя словы т. Леніна „к правительственной партии неминуемо стремятся примазаться кар'еристы и проходимцы“. А гэтакай партыяй у нас іменна і зьяўляецца камуністычныя партыя і таму няма нічога дзіўнага ў тым, што ўхілы наглядаюцца і з боку паасобных партыйцаў. Магчыма, гэтыя партыйцы з аднаго боку самі ідэалёгічна зьвязаны непасрэдна з кулацтвам і таму на практыцы праводзяць кулацкую лінію, а з другога боку, будучы акружаны дробна-буржуазнай стыхіяй падпалі пад уплыў апошняй і проста, як кажуць, разлажыліся.

Пераходзячы канкрэтна да правага ўхілу і „левых“ загібаў на практыцы, нам трэба было-б паказаць некалькі прыкладаў як таго, так і другога для таго, каб завастрыць на гэтых прыкладах увагу шырокай грамадзкасьці і асабліва ўвагу выканкомаў і саветаў, але паколькі гэтыя прыклады шырока асьвятляюцца ў друку,а таксама і на старонках нашага часопісу, таму спыняцца на іх падрабязна ня будзем, а толькі возьмем, як кажуць, самую сутнасьць.

На сёньня асноўнымі задачамі ў рэканструкцыі сельскай гаспадаркі зьяўляецца задача арганізацыі і ўмацаваньня калгасаў і саўгасаў і ліквідацыя кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі.

Як павінна вырашацца гэта задача саветамі і выканкомамі? Саветы і выканкомы на падставе шырока разгорнутай палітычна-выхаваўчай работай сярод батрацтва і беднаты, а таксама серадняцкай часткі сялянства павінны арганізаваць папулярызацыю дасягненьняў калгасаў сярод некалгасьнікаў і, даючы жорсткі адпор кулацтву, арганізаваць масавы прыліў у калгасы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Зараз арганізаваць прыліў ня так цяжка, бо з аднаго боку мы маем даволі вялікі вопыт ў гэтай рабоце, а з другога боку некалгасьнікі на сёньняшні дзень ужо ў большасьці ўпэўніліся ў перавагах калектыўнага вядзеньня гаспадаркі.

Між тым у гэтым пытаньні вельмі і вельмі шмат назіраецца як правага ўхілу, гэтак і „левых“ загібаў. У чым жа канкрэтна выяўляюцца гэтыя ўхілы ў вырашэньні паказанага пытаньня? Аказваецца, што некаторыя саветы і выканкомы, ігнарыруючы вядзеньне работы з батрацтвам і беднатой, арганізацыю новага прыліву ў калгасы пускаюць па самацёку. Гэтым самым яны, ня выконваючы дырэктывы партыі аб рэканструкцыі сельскай гаспадаркі шляхам арганізацыі і замацаваньня калгасаў і саўгасаў, не мабілізуюць беднаты на барацьбу з кулацтвам і даюць апошняму поўную свабоду дзейнасьці ў напрамку правядзеньня антыкалгаснай работы, накіраванай ў бок зрыву калектывізацыі.

Вось гэта і азначае праяўленьне ў пытаньні рэканструкцыі сельскай гаспадаркі права-апартуністычнага ўхілу на практыцы, ухілу, які на даным этапе зьяўляецца самым небясьпечным, бо ён зьяўляецца кулацкім ухілам, а кулакоў на сёньня маецца яшчэ надзвычайна шмат і яны вядуць жорсткую барацьбу супроць мерапрыемстваў улады і партыі.

Іншыя-жа саветы і выканкомы ў гэтым пытаньні дапускаюць левыя загібы, якія па сутнасьці зьяўляюцца тым жа самым правым ухілам на практыцы. Гэтыя саветы, ці выканкомы праводзяць работу па калектывізацыі з вельмі, як сказаў у свой час т. Сталін. „рэвалюцыйным запалам“. Яны хочуцьправесьці ў сябе ў раёне ці савеце калектывізацыю вельмі хутка і таму насаджаюць калгасы шляхам запугваньня адміністрацыйных і эканамічных узьдзейнічаньняў і г. д. замест сыстэматычнай палітычна-выхаваўчай работы.

Ці можна так праводзіць працу? І ці адпавядае гэты напрамак работы Ленінскім прынцыпам калектывізацыі? Бязумоўна, не адпавядае, бо для таго, каб селянін пайшоў у калгас, як сказаў т. Ленін, патрэбна: „з селяніна-уласьніка зрабіць селяніна-калектывістага, селяніна-грамадчыка.... Патрэбна зьнішчыць розьніцу паміж селянінам і рабочым і зрабіць ўсіх работнікамі“ (Ленін т. 16, стар. 351) і далей т. Ленін гаворыць, што „справа перапрацоўкі дробнага земляўласьніка, перапрацоўкі ўсёй яго псіхалёгіі і прывычак, ёсьць справа, якая патрабуе пакаленьняў. Вырашыць гэта пытаньне ў адносінах да дробнага земляўласьніка, аздаравіць, так сказаць, ўсю яго псіхалёгію, зможа толькі матар'яльная база, тэхніка, ужываньне трактароў і машын у земляробстве ў масавым маштабе, электрыфікацыя ў масавым маштабе. Вось, што ў корані і з вялізарнай хуткасьцю перарабіла-б дробнага земляроба“ (Ленін т. 18, ч. І-я, стар. 139).

А паколькі так, дык зусім становіцца зразумела, што ніякія адміністрацыйныя і прымусовыя меры, ніякія эканамічныя ўплывы гэтае справы палепшыць ня змогуць, а толькі яе пагаршаюць і таму такія меры на сёньня зусім не патрэбны, бо яны толькі зрываюць пасьпяховае правядзеньне калектывізацыі.

На сёньня мы ўжо маем надзвычай на шмат прыкладаў, як матар'яльнай базы, аб якой казаў т. Ленін, гэтак і ўжываньня трактароў і машын у масавым маштабе, якія цалкам і поўнасьцю ўпэўніваюць дробнага земляўласьніка ў пераважнасьці калгасаў і гэтыя перавагі толькі патрэбна папулярызаваць сярод некалгасьнікаў шляхам арганізацыі справаздач калгасаў перад адзінаасобнікамі і апошнія пойдуць ў калгасы без усялякіх прымусовых мер. Аднак, разам з гэтым ні ў якім разе не патрэбна ўпускаць барацьбы з кулацтвам, якое таксама імкнецца залезьці ў калгас для таго, каб захаваць пад відам калгасьніка свой варожы кулацкі твар і, будучы ў калгасе, разваліваць яго знутры.

Да другое групы пытаньняў, на якіх мы лічым патрэбным спыніцца, гэта пытаньні сельска-гаспадарчага падатку, страхоўкі, мабілізацыі сродкаў, хлебазагатовак і інш.

У якой ступені праяўляецца правы ўхіл і „левыя“ загібы ў гэтых пытаньнях?

Па цэламу шэрагу раёнаў мы зараз наглядаем распаўсюджваньне такой тэорыі „у нас кулакоў няма“, пры чым вельмі часта ў такіх раёнах і саветах маецца цэлый шэраг гаспадарак, якія маюць яўна кулацкія прызнакі. Таксама маем у шмат якіх раёнах выпадкі калі ад сельска-гаспадарчага падатку аслабанены заможнія гаспадаркі і не аслабанены бядняцкія, калі да кулацка-заможных гаспадарак не даведзены цьвёрдыя заданьні, калі не ўзысканы, альбо ўзысканы вельмі ў нязначнай меры с-гаспадатак, страхоўка, самаабкладаньне і асабліва з кулацка-заможных гаспадарак, калі пазыка „Пяцігодка ў чатыры гады“ не рэалізуецца і г. д. і г. д.

Гэтыя факты ёсьць ня што іншае, як самыя сапраўдныя факты праваапартуністычнага ўхілу на практыцы, паколькі тэорыя адсутнасьці ў раёне кулакоў не мабілізуе бядняцка-серадняцкія масы на палепшаньне калгасаў, на павялічэньне тэмпаў будаўніцтва і на барацьбу з кулацтвам, а дэмабілізуе іх і тым самым дае кулакам мажлівасьць бяз усялякіх перашкод праводзіць сваю работу. Абкладаньне кулака с-гаспадаткам у індывідуальным парадку і своечасовае ўзысканьне гэтага падатку, ўзмацняе наша фінансавае становішча, даючы вядомую колькасьць сродкаў на сацыялістычнае будаўніцтва і аслабляе эканамічную моц самога кулака, пазбаўляючы яго мажлівасьці рабіць эканамічны ўплыў на бядняцка-серадняцкія гаспадаркі. Аслабаненьне ад падатку заможных гаспадарак выклікае недавер'е з боку беднаты да саветаў і выканкомаў, якія дапусьцілі падобныя выкрыўленьні.

Ня гледзячы на тое, што ў параўнаньні з даваенным часам, эканамічнае становішча бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, нават і тых, якія на сёньня яшчэ не ўвайшлі ў калгасы, значна палепшылася, мы разам з гэтым наглядаем і такія выпадкі калі ў паасобных бядняцкіх гаспадарках на круглы год свайго хлеба не хапае. Пры наяўнасьці кулацка-

заможных гаспадарак гэтыя бядняцкія гаспадаркі пападаюць ў залежнасьць да памянёных кулацкіх гаспадарак і тым самым аддаюць сябе на эксплёатацыю кулакам. Апрача таго кулакі альбо заможнікі, якія па сутнасьці зьяўляюцца ворагамі рабочае клясы і беднаты ні ў якім разе дабраахвотна, як гэта робяць беднякі і серадняки, дзяржаве сваіх таварных лішкаў хлеба не прададуць, а затрымаюць іх да тых пор, пакуль, па думках кулакоў, не паднімуцца цэны каб прадаць іх па спэкуляцыйных цэнах і г. д. Вельмі часта здараецца калі кулакі свае таварныя лішкі закопваюць у зямлю, якія там зусім гінуць, не даючы нікому карысьці.

Недавядзеньне цьвёрдых заданьняў да такіх гаспадарак ёсьць правы ўхіл на практыцы, які не дае мажлівасьці дзяржаве сваечасова нарыхтаваць патрэбную колькасьць хлеба з аднаго боку і забараняе інтарэсы кулака з другога.

Невыкананьне заданьняў па мабілізацыі сродкаў зрывае фінансаваньне як прамысловасьці, так і сельскай гаспадаркі і тым самым паслабляе тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва, тэмпы рашучага наступу на капіталістычныя элемэнты па ўсім фронце.

Левыя загібы ў прыведзеных прыкладах характарызуюцца фактамі давядзеньня цьвёрдага заданьня да серадняка і нават як гэта ня рэдка бывае да бедняка і калгасьніка. Абкладаньне серадняка с-гаспадаткам у індывідуальным парадку і г. д.

Вось прыкладна тыя факты як правага ўхілу гэтак і „левых“ загібаў, якія сустракаюцца ў практыцы работы пасобных саветаў і выканкомаў і якія патрабуюць самае жарсткае барацьбы, самага жорсткага адпору, бо яны накіраваны ў бок зрыву сацыялістычнага будаўніцтва ў бок затрымкі тэмпаў наступу на капіталістычныя элемэнты, ў бок затрымкі выкананьня „Пяцігодкі ў чатыры гады“. Задача саветаў і выканкомаў весьці з імі самую жорсткаю, самую няпрымірымую барацьбу.

**Рудніцкі.**

---

# Сельскія Саветы і XIII гадавіна Чырвонай Арміі.

Судовы працэс „прампартыі“, выкрытая агідна-здрадніцкая дзейнасьць беларускіх нацдэмаў Лёсікаў, Некрашэвічаў, Смолічаў і інш., а таксама падарожжа дыктатара фашысцкае Польшчы Пілсудзкага ў Парыж, Лёндан і Жаневу і абвешчаная у Праўдзе заява французкага палітычнага дзеяча Брыяна на Пан-Эўрапейскай канфэрэнцыі трывожна нам сыгналізуюць аб ліхаманкавай падрыхтоўцы замежнай буржуазіі і нашай унутранай контр-рэвалюцыі да новага нападу на краіну Саветаў.

Гэтыя трывожныя сыгналы высоўваюць перад сельскімі саветамі БССР, як перадавым фарпостам нашага саюзу, да XIII гадавіны існаваньня Чырвонае Арміі надзвычайна адказныя задачы. Сельскія саветы ў сваёй падрыхтоўчай рабоце да сьвяткаваньня юбілею XIII гадавіны Чырвонай Арміі павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу ўсёй савецкай грамадзкасьці і ўсяго працоўнага насельніцтва на падрыхтоўку французкімі зубрамі новае антысавецкае інтэрвэнцыі. Праводзячы палітыку міру, наша партыя і савецкая ўлада ускладаюць на сельскія саветы абавязкі праз усе рычагі грамадзкасьці ускалыхнуць працоўныя масы і накіраваць іх энтузіазм і актыўнасьць на яшчэ большае ўзмацненьне нашай баявой гатоўнасьці з тым, каб ня толькі стальной сьцяной стаць на абарону Кастрычнікавых заваёў, але і ў кожную хвіліну быць гатовымі дапамагчы рабочай клясе і працоўнаму сялянству капіталістычных краін устанавіць Савецкую ўладу ва ўсім сьвеце.

Праводзячы гэта, сельсаветы павінны памятаць, што ў сучасны момант іх работа як у падрыхтоўцы да сьвяткаваньня, так і правядзеньні самога сьвяткаваньня павінна заключацца у больш практычным ажыцьцяўленьні такіх мерапрыемстваў, якія дадуць магчымасьць яшчэ больш падняць абараназдоль-

насьць нашай краіны і баяздольнасьць гэроічнай РСЧА.

Ажыцьцяўляючы гэтыя мерапрыемствы, сельсаветы ў першую чаргу павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на поўнае выкананьне да дню XIII гадавіны Чырвонай Арміі заданьняў па ўсіх гаспадарча-палітычных кампаніях, а таксама на арганізацыю новага масавага прыліву ў калгасы праз сталую падрыхтоўку да другое калгаснае вясны кожнага саўгасу, кожнага калгасу, кожнага с/гаспадарчага вытворчага аб'яднаньня, кожнага двара бедняка і серадняка адзінаасобнікаў—заўтрашніх калгасьнікаў, што забясьпечыць ня толькі выкананьне праграмы 3 рашаючага году пяцігодкі, але і перавыкананьне яе.

Другім мерапрыемствам, на якое сельсаветы ў час падрыхтоўкі да сьвяткаваньня XIII юбілею Чырвонай Арміі павінны зьвярнуць максымум увагі, гэта дарожнае будаўніцтва. На выкананьне гэтай справы сельсаветам неабходна мабілізаваць усю савецкую грамадзкасьць на вёсцы, каб зараз-жа прыступіць да загатоўкі неабходнага матар'ялу для пабудовы новых і рамонту старых мастоў і грэбель, каб гэтым самым, на выпадак патрэбы, забясьпечыць свабодны рух нашай Чырвонай Арміі і даць магчымасьць працоўнаму сялянству ў мірны час захоўваць ад порчы свой транспарт і жывёлу.

Трэцяе мерапрыемства—ваенізацыя працоўнага насельніцтва. У гэтай справе XIII гадавіна Чырвонае Арміі павінна зрабіць рашучы пералом.

Поўнае правядзеньне ў жыцьцё пералічаных мерапрыемстваў будзе найлепшым узмацненьнем абароназдольнасьці краіны саветаў і баяздольнасьці нашай РСЧА.

Для практычнага ажыцьцяўленьня задачы па ваенізацыі працоуных мас сельскія саветы павінны ўлічыць наяўнасьць на іх тэрыторыі каманднa-палітычнага складу запасу.

Даручыць аднаму з іх, найбольш актыўнаму і добра палітычна пісьменнаму распрацаваць канкрэтны плян работы с/с па ваенізацыі працоўнага насельніцтва, выходзячы з сучасных задач і ўмоў сельсавету.

Закончыўшы распрацоўку гэтага пляну, вынесьці яго на разгляд мясцовых партыйных і савецкіх органаў, пасьля чаго склікаць пашыраную канфэрэнцыю усіх ячэяк асоавіяхіму, дэмабілізаваных чырвонаармейцаў, былых партызан і чырвонагвардзейцаў, камандны і палітычны склад запасу, актыў калгасьнікаў, дэлегатак жанчын і актыў моладзі для абгаварэньня гэтага пляну ў напрамку практычнага ажыцьцяўленьня яго.

Вылучаныя для складаньня гэтага пляну таварышы павінны прадугледзець у ім арганізацыю ў кожным саўгасе, калгасе і вёсцы ячэйкі асоавіяхіму і пры ёй вайсковых гурткоў.

Для кіраваньня працаю апошніх вылучыць мясцовых камандзіраў запасу, на якіх узлажыць адказнасьць за поўнае выкананьне праграм для гэтых гурткоў. Праграмы аб'вешчаны ў газэце „Савецкая Беларусь" ад 30 сьнежня 1930 г. і 12 студзеня 1931 г. і па меры апрацоўкі, іх будзе і ў далейшым зьмяшчацца ў гэтай газэце.

Для вучоту і кантролю сваечасовае яўкі кожнага члена гуртка на заняткі неабходна на першым арганізацыйным сходзе абраць старасту гуртка з найбольш актыўных і адданых вайсковай справе таварышоў.

Пажадана справу вылучэньня кіраўнікоў загадзя падрыхтаваць і ўрачыста абвясьціць яе на самой канфэрэнцыі, арганізаваўшы яе так, каб кожны вылучаемы быў захоплен энтузіязмам абароны краіны і тут жа абвясьціў сябе ўдарнікам і мабілізаваным на справу ня толькі выкладаньня вайсковых ведаў, але і ўсяе арганізацыйнае работы па ўцягненьню ў вайсковыя гурткі ўсяго здольнага да вайсковае работы працоўнага насельніцтва.

Для кантролю па ажыцьцяўленьні пляну ваенізацыі тут жа на канфэрэнцыі абраць штаб з 3—5 лепшых ударнікаў рабочых, калгасьнікаў, начальніцкага складу запасу і іншага савецкага актыву. Вылучанаму штабу паставіць задачу ў кожную дэкаду правяраць работу ня менш аднэй ячэйкі асоавіяхіму, а ў канцы кожнага месяцу падагульваць вынікі гэтае праверкі, рабіць адпаведныя вывады і выносіць іх на абгаварэньне пашыранае канфэрэнцыі, скліканьне

якой сельсаветы павінны прадугледзець у сваім пляне штомесячна.

Гэта заставіць адстаючыя ячэйкі падцягвацца і для зьліквідаваньня маючыхся ў іх недахопаў ужываць вопыт перадавых ячэяк і гурткоў.

Сельскія саветы павінны ўсямерна дапамагчы, каб кожная ячэйка асоавіяхіму адшукала адпаведную суму сродкаў для набыцьця дробна-каліберных стрэльбаў і неабходнай колькасьці да іх патронаў. Набыць усе гэта можна праз цэнтральны савет асоавіяхіму БССР.

Практыка паказала, што найбольшым заахвочваньнем вывучэньня вайсковых ведаў на вёсцы зьяўляецца стралковая справа. Кожны кіраўнік вайсковага гуртку павінен гэта ўлічыць і выкананьне праграмы пабудаваць так, каб заняткі гуртка канчаліся стральбою па 2-3 патроны на кожнага гуртуоўца з папярэднім растлумачэньнем усіх даных, датычачыхся прахадзімага практыкаваньня.

Неабходна дабіцца, каб на арганізацыйным сходзе кожны вайсковы гурток абвясьціў сябя ўдарным прыкладна па наступным пунктам:

а) акуратнаму бяз пропускаў наведваньню вайсковых заняткаў кожным членам гуртка;

б) точнае выкананьне ў час заняткаў загадаў камандзіра, якія накіраваны на большае атрыманьне палітычнай і вайсковай пісьменнасьці;

в) на поўнае ўсваеньне кожным членам гуртку праграмы навучаньня;

г) на лепшае правядзеньне збору сродкаў для дырыжабля-будаўніцтва і правядзеньне на гэту мэту спэцыяльных 1-2 суботнікаў;

д) кожнаму члену гуртка стаць падпісчыкам і сыстэматычным чытачом часопісу „Чырвонаармеец і Чырвонафлёцец“, а таксама прыняць актыўны ўдзел па большаму распаўсюджваньню гэтага часопісу сярод працоўных мас сваёй тэрыторыі;

е) набыць паасобку кожным членам гуртку, або калякытўна для гуртка“
“ шт. дробна-каліберных стрэльбаў і „ “ шт. сялянскага тыпу працівагазаў;

ж) быць ініцыятарамі і важакамі па арганізацыі барацьбы са шкоднікамі ў сельскай гаспадарцы і на сваім вучастку дапамагчы калгасам і паасобным бядняцка-серадняцкім гаспадаркам у час вясеньняе сяўбы арганізаваць пратручваньне насеньня і вапнаваньне глебы;

з) на сваім вучастку арганізаваць ня менш аднаго новага калгасу, або завербаваць у існуючы калгас ня менш прыкладна 15—20 гаспадарак да вясеньняй сяўбы і тым, хто яшчэ не ўступіў у калгас з членаў гуртка, уступіць.

Вос тыя аб'екты, якія, па нашаму, могуць раіцца вайсковым гурткам для абвяшчэньня сябе ўдарнікамі, але гэта ня значыць, што яны ня могуць зьмяняцца. Кожнаму гуртку прадастаўляецца права, выходзячы з мясцовых умоў, высоўваць новыя пункты, якія-б толькі служылі на большае ўзмацненьне абароназдольнасьці нашае краіны і баяздольнасьці Чырвонае Арміі.

Сельсаветы і ячэйкі асоавіяхіму павінны адшукаць сродкі і ў час заканчэньня праграмы лепшых ударнікаў вайсковых гурткоў прэміраваць, а найбольш здольных з іх і адданых вайсковай справе прадстаўляць к прыёму ў вайсковыя школы і ў школы грамадзянскай авіяцыі.

Праведзеная недаўна „Дэкада абароны“ паказала, што яна па ўсяму нашаму саюзу вылілася ў магутную дэманстрацыю гатоўнасьці працоўных мас да абароны краіны саветаў ад усіх інтэрвэнтаў звонку і варожых элемэнтаў ізнутры.

Гэту баявую гатоўнасьць рабочых мас і працоўнага сялянства сельскія саветы павінны штодзённа ўзмацняць і да юбілейнага дню XIII гадавіны Чырвонай Арміі работу ў гэтым напрамку паставіць так, каб праз арганізаваную калгасную працу, вывучэньне тэхнічнага аснашчэньня саўгасаў, калгасаў і МТС, разгортваньне палітычнай і культурнай работы выкаваць той сталёвы людзкі матар'ял, які заўсёды патрэбен будзе першай у сьвеце сацыялістычнай арміі. Сельскія саветы павінны выкарыстаць больш вольны зімовы час і работу па ваенізацыі працоўнага насельніцтва паставіць так, каб у калгасах, саўгасах і паасобных вёсках былі вызначаны спэцыяльныя дні для гэтае справы.

Кожны сельсавет і кожная ячэйка асоавіяхіма павінна памятаць, што на данным этапе лепшым узмацненьнем

баяздольнасьці Чырвонай Арміі, пабач з паказанаю падрыхтоўкаю кадраў, зьяўляецца пашырэньне аднаго з новых яе атрадаў дырыжабля-будаўніцтва. На гэту справу праз сацспаборніцтва неабходна ўзварушыць увесь савецкі актыў, усіх калгасьнікаў і адзінаасобнікаў і правесьці паміж імі збор сродкаў на пабудову дырыжабля.

На старонках нашага часопісу №9-10 за мінулы год вяскор т. Шымакоўскі ўнёс прапанову правесьці збор, зрабіць суботнікі і адлічэньні свайго заробку на пабудову дырыжаблю імя „Саветы Беларусі".

Гэту каштоўную прапанову сельсаветам да XIII гадавіны Чырвонай Арміі неабходна поўнасьцю рэалізаваць, давёўшы яе, вядома, у дабраахвотным парадку, да кожнага працоўнага праз вылучэньне на гэту справу аўтарытэтных асоб. Усе сабраныя такім чынам сумы да дню сьвяткаваньня XIII гадавога юбілею Чырвонай Арміі неабходна ўнесьці ў касу дзяржбанку ў сваім раёне на рахунак дырыжабля-будаўніцтва.

Для поўнага ажыцьцяўленьня усіх пералічаных мерапрыемстваў Юбілейныя дні XIII гадавіны РСЧА павінны быць пераломным момантам ва ўсей рабоце саветаў і асабліва па ўзмацненьню абароназдольнасьці нашай краіны і баяздольнасьці Чырвонай Арміі. Райвыканкомы павінны забясьпечыць поўнае кіраўніцтва працаю с/саветаў ня толькі ў гэтай галіне, але і наогул з тым, каб яны у адказ на ліхаманкавую падрыхтоўку ініцыятараў і натхніцеляў новае антысавецкае інтэрвэнцыі—зубраў французкага імпэрыялізму і ўсіх контр-рэвалюцыйных элемэнтаў унутры нашае краіны, рашуча ўзяліся за ўзмацненьне сваёй дзейнасьці па ваенізацыі працоўнага насельніцтва і завяршэньню пабудовы фундаменту сацыялістычнай эканомікі нашага саюзу, чотка праводзячы генэральную лінію нашае партыі ў штодзённай сваёй рабоце.

Вось галоўнае, што сельсаветы павінны зрабіць да сьвяткаваньня XIII гадавіны Чырвонае Арміі.

**Байкаш.**

---

# Да падрыхтоўкі і сьвяткаваньня 8-га сакавіка.

Міжнародны Жаночы Камуністычны дзень—8 сакавіка ў гэтым годзе будзе праводзіцца ва ўмовах вялізарнага размаху сацыялістычнага будаўніцтва, якое мае вялізарныя посьпехі, дзякуючы правільнаму кіраўніцтву камуністычнай партыі і рашучай барацьбе з капіталістычнымі элементамі. Гэта сьвяткаваньне будзе праходзіць ў новых ўмовах, калі разгорнутае сацыялістычнае будаўніцтва зьнішчае рэшткі капіталістычнай клясы, што выклікае шалёную нянавісьць клясавых ворагаў як унутры СССР, так і з боку імпэрыялістычных дзяржаў, рыхтуючых узброены напад на Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Складаныя задачы, якія стаяць перад партыяй і пралетарыятам па выкананьні плянаў сацыялістычнага будаўніцтва у трэцім рашаючым годзе пяцігодкі, па ўзмацненьні абароназдольнасьці краіны і баяздольнасьці Чырвонай Арміі, па інтэрнацыянальнаму выхаваньню працоўных і яшчэ большаму бязьлітаснаму змаганьню з контр-рэвалюцыйным нацдэмакратызмам, супроць шавінізмаў усіх колераў і, у першую чаргу, супроць валікадзяржаўнага расійскага шавінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, патрабуюць ад усіх партыйных і савецкіх органаў правядзеньня Міжнароднага Жаночага Камуністычнага дню—8 сакавіка пад лёзунгамі мабілізацыі актыўнасьці працоўных жаночых мас на выкананьне чарговых палітычных і гаспадарчых задач, намечаных апошнім аб'яднаным Пленумам ЦК і ЦКК УсеКП(б) і Пленумам ЦК КП(б)Б.

Падрыхтоўка да 8 сакавіка павінна праходзіць пад знакам самаправеркі выкананьня дырэктыў партыі і ўраду ў галіне ўцягненьня працоўных жанчын у сацыялістычнае будаўніцтва, вылучэньня работніц, батрачак, калгасьніц на кіруючую працу, бытавога разьневальненьня працоўнай жанчыны, шырокага масавага абгаварэньня вынікаў самаправеркі і

далейшых мерапрыемстваў па палепшаньні працы сярод жанчын, адначасова мабілізуючы ўвагу саміх работніц і працоўных сялянак на палепшаньне працы бытавых устаноў.

Работніцы ў складзе рабочае клясы Беларусі складаюць зараз 39 проц., у 1931 годзе мяркуецца павялічэньне работніц да 45 проц. агульнай колькасьці рабочых, таму зараз з асаблівай востратой высоўваюцца задачы разгортваньня бытавых устаноў. Неабходна ужо зараз намеціць канкрэтную сетку бытавых устаноў, унесяных у бюджэты савецкіх, гаспадарчых і каапэрацыйных арганізацый на 1931 г., каб падрыхтаваць іх адчыненьне к МЖКД—8 сакавіка. Бытавым камітэтам і сэкцыям з прыцягненьнем жанчын членаў саветаў, актыву работніц, калгасьніц, жон рабочых правесьці дасканалую праверку скарыстаньня бытавых фондаў у напрамку палепшаньня працы бытавых устаноў, прыстасаваньня да умоў работы, пашырэньня ужо існуючых бытавых устаноў шляхам прыцягненьня сродкаў грамадзкасьці і бацькоў.

Уся падрыхтоўка і правядзеньне 8 сакавіка сярод работніц павінна мабілізаваць актыўнасьць работніц на выкананьне прамфінпляну 3 рашаючага году пяцігодкі, на барацьбу за павышэньне якасьці прадукцыі, на ўздзел усей масы работніц ва ўдарніцтве і сацспаборніцтве. Неабходна шырока папулярызаваць сярод работніц задачы рабочае клясы ў правядзеньні вясеньняй пасеўнай кампаніі. Гарадзкім саветам, бытавым сэкцыям гарадзкіх саветаў неабходна праверыць работу прадпрыемстваў і ўстаноў у галіне падвышэньня кваліфікацыі работніц і перасоўваньня іх унутры прадпрыемства на больш кваліфікаваную работу.

Усю падрыхтоўчую работу арганізаваць так, каб у дзень сьвяткаваньня забясьпечыць уступленьне лепшых кадравых работніц ў партыю, вылучэньне лепшых ударніц на гаспадарча-кіруючую работу, прэміраваньне лепшых ударніц, стварэньне ударных брыгад з работніц і інш. У час падрыхтоўкі да сьвяткаваньня арганізаваць шырокую масавую работу сярод жонак рабочых па ўцягненьню іх як у прамысловасьць, так і ў работу па палепшаньню рабочага снабжэньня, каапэрацыі і па разьвіцьці бытавых устаноў пры жакт'ах.

Падрыхтоўка і правядзеньне 8 сакавіка на вёсцы павінна быць шчыльна ўязана з задачамі калектывізацыі, ўцягненьня працоўных сялянак у калгасы, шырокага растлумачэньня сутнасьці клясавага змаганьня на вёсцы, ліквідацыі кулацтва, як класы, на базе суцэльнай калектывізацыі і пасьпяховае выкананьне плянаў нарыхтовак, кантрактацыі і вясеньняй пасеўнай кампаніі Дзеля большага набліжэньня адзінаасобніц да калгасаў сельсаветам і праўленьням калгасаў неабходна арганізаваць сумеснае сьвяткаваньне Міжнароднага жаночага камуністычнага дню 8 сакавіка калгасьніц і адзінаасобніц, прыстасоўваючы да дню сьвята, прэміраваньне лепшых ударніц з калгасьніц, вылучэньне іх на гаспадарча-кіруючую работу ў асобныя галіны гаспадаркі калгасаў. Арганізаваць высоўваньне з боку калгасьніц сустрэчных плянаў кантрактацыі і вясеньняй сяўбы ў тых галінах, дзе пераважае жаночая праца: гародніцтва, пасевы карняплодаў і тэхкультур, жывёлагадоўля і т. д. У час падрыхтоўчай работы неабходна арганізаваць брыгады з актыву калгасьніц па рабоце сярод адзінаасобніц пад кіраўніцтвам парт'ячэйкі і саветаў, з мэтай іх уцягненьня ў калгасы і ў першапачатковыя сельска-гаспадаачыя вытворчыя таварыствы. Улічваючы неабходнасьць сгуртаваньня актыўнасьці ўноў абраных жанчын—членаў саветаў на выкананьне чарговых палітычных і гаспадарчых задач, раённым выканаўчым камітэтам неабходна будзе склікаць раённыя нарады жанчын—членаў саветаў для абгаварэньня дакладу аб міжнародным камуністычным жаночым дню, выніках работы саветаў і выканкомаў сярод працоўных жанчын у 1930 г. і намечаных мерапрыемствах у галіне палепшаньня працы і быту жанчын на 1931 год. Побач з гэтым неабходна правесьці ў дзень 8 сакавіка ўрачыстыя пленумы гарадзкіх, местачковых і сельскіх саветаў з дакладам аб МКЖД, выніках работы даных саветаў сярод працоўных жанчын і мерапрыемствах у гэтай галіне на далейшы час. Сьвяткаваньне ў школах, клю-

бах, нардамох, хатах-чытальнях адзначыць арганізацыяй ранішнікаў, вечароў гутарак, упрыгожваньнем будынкаў лезунгамі, плякатамі і г. д.

На пленумах і сходах, прысьвечаных МКЖД 8 сакавіка, павінна знайсьці свой поўны адбітак пытаньне абароны краіны, клясавае змаганьне пралетарыяту ў замежных капіталістычных краінах, поўнасьцю асьветляны пытаньні нацыянальнай палітыкі нашай партыі, асабліва сярод жанчын нацменшасьцяй, арганізоўваючы іх для барацьбы з імкненьнямі кулацкіх, нэпманаўскіх, клерыкальных элемэнтаў супроцьпаставіць адзіны нацыянальны фронт мерапрыемствам Савецкай улады.

8 сакавіка павінна быць праведзена пад знакам яшчэ большай актыўнасьці работніц і працоўных сялянак у выкананьні плянаў сацыялістычнага будаўніцтва 3-га рашаючага году пяцігодкі.

**Майзіт.**

---

## Задачы саветаў у галіне абароны інтарэсаў батракоў, батрачак і пастухоў.

Адным з атрадаў апоры партыі і савецкай улады на вёсцы зьяўляецца батрацтва і пастушаства, якое працуе па найму стала і сэзонна ў сельскіх гаспадарках. Гэтыя атрады, будучы найбольш распыленымі па вёсках, патрабуюць асаблівай увагі па абароне іх інтарэсаў, арганізацыі і палітычным выхаваньні іх. На сучасным этапе рэканструкцыі сельскай гаспадаркі камуністычная партыя і савецкая ўлада паставілі перад саветамі, як органамі дыктатуры пралетарыяту, задачу яшчэ з большай уважлівасцю ў сваёй штодзённай працы выконваць усе дырэктывы па абслугоўваньню батракоў, батрачак і пастушаства, сачыць за тым, каб наймальнікі не парушалі кодэксу законаў аб працы ў сэнсе выкананьня разьлікаў выплаты сацстрахаваньня, аховы працы, заключэньня працоўных дагавароў з батракамі і пастухамі і інш. Паступіўшыя з месц матар'ялы ўказваюць на шмат адмоўных зьявішч з боку паасобных саветаў у працы сярод батракоў і пастухоў. Былі выпадкі рэгістраваньня кабальных дагавароў нават пры грубым парушэньні кодэксу законаў аб працы з боку наймальнікаў кулакоў, альбо рабіліся ўступкі паасобным наймальнікам, якія зусім не заключалі ніякіх умоў. Меліся і такія выпадкі, што паасобнымі саветамі амаль зусім не забараняліся правы батракоў і пастухоў, дзякуючы таму, што гэтыя саветы ў большасьці, па сваёй нядбайнасьці ня чыталі законаў і загэтым не знаёмы з законадаўствам аб абароне інтарэсаў батракоў і пастухоў. Усё гэта зьяўляецца галоўнаю прычынаю, што сельсаветы ня цікавяцца справамі батракоў і наогул беднаты.

Новае палажэньне пра сельскія саветы, зацьверджанае Прэзыдыумам ЦВК БССР 21-га красавіка 1930 г. ставіць перад сельскімі саветамі задачу на большшае ўзбраеньне сьвядомасьцю і ўменьнем для перабудовы вёскі шляхам сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, на атрыманьне большай здольнасьці па арганізацыі батрацтва і беднасьці па арганізацыі батрацтва і бяднацкай масы ў цесным саюзе з серадняком на барацьбу з кулацтвам пры правядзеньні гэтай перабудовы.

У сучасны момант мы маем некаторыя посьпехі ў рабоце сярод батратрацтва і беднаты (каапэраваньне, уцягненьне ў калгасы, павялічэньне гаспадарча-матар'яльнай дапамогі па лініі КСУ, узрост актыўнасьці і ўдзел у гаспадарча-палітычных кампаніях), але ўсё гэта амаль зусім не паляпшае таго нездавальняючага становішча работы сярод батрацтва і беднаты, якое назіраецца ў большасьці сельсаветаў і яскрава сьведчыць аб недаацэнцы значэньня сыстэматычнай і плянавай арганізацыі працы сярод батракоў і беднякоў з боку шэрагу саветаў.

Недаацэнка і пасыўнасьць у рабоце з батрацтвам і беднатой зьяўляецца адной з шкодных праяў дробна-буржуазнай стыхіі і дапамогай кулацтву. Батрацка-

бядняцкія масы апрача ўсяго адзначанага патрабуюць ад саветаў весьці ўзмоцненую барацьбу супроць дробна-буржуазнай ідэалёгіі, як небясьпечнае ў даных умовах. Толькі чужыя дыктатуры пралетарыяту элемэнты могуць ігнараваць гэту караную задачу сыстэматычнай арганізацыі сярод батрацтва і беднаты на вёсцы палітвыхаваўчай работы.

Пры разгортваньні гэтай работы сярод батрацтва і беднаты савецкія арганізацыі павінны выходзіць з тага, што батрацтва і бедната зьяўляюцца той сілай, на каторую павінны апірацца саветы і сумесна з імі весьці рашучую барацьбу супроць кулацтва, якое стараецца ўнесьці разлад паміж паасобнікамі і калгаснікамі, каб узяць пад свой уплыў адзінаасобніка—батрака і бедняка. Саветам патрэбна ня толькі абараняць непасрэдна інтарэсы батракоў і беднякоў, але і садзейнічаць умацаваньню саюзу рабочае клясы пры апоры на батрака і бедняка з серадняком.

Саветам неабходна актывізаваць усё батрацтва і беднату праз правядзеньне сходаў беднаты, нарад груп беднаты, папярэдняга абгаварэньня з імі практычных пытаньняў і ўдзел іх у гаспадарча-палітычных кампаніях.

Трэба памятаць, што ў падрыхтоўцы да вясеньняй пасеўнай кампаніі, а таксама і пры правядзеньні самой вясеньняй сяўбы мы сустрэнем варожыя выступленьні кулацтва, якое будзе імкнуцца перашкодзіць бальшавіцкай вясьне. Адгэтуль саветы павінны павесьці яшчэ больш рашучую барацьбу з усімі варожымі нам элемэнтамі і, асабліва кулацтвам, яшчэ больш рашуча змагацца за выкананьне пастаноў партыі і ўраду, паставіўшы перад сабой задачу пагалоўнага ўцягненьня ў гэту работу батрацка-бядняцкіх мас, маючы на ўвазе заканчэньне ў асноўным калектывізацыі да канца пяцігодкі.

Вось асноўныя задачы саветаў у сэнсе работы з батрацтвам і беднатой.

**Носка.**

---

##Ператворым групы беднаты ў арганізатараў калгаснага будаўніцтва.

Посьпехі партыі ў справе калектывізацыі і выкананьня гаспадарча-палітычных задач у вёсцы, ужо далі на практыцы свае рэальныя вынікі ва ўзмацненьні і пашырэньні сацыяльнай базы і стварэньні новай апоры савецкай улады на вёсцы ў асобе калгасьніка. Але гэта не гаворыць за тое, што партыя павінна адмовіцца ад работы з беднатой. Наадварот, разгорнутыя тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы патрабуюць яшчэ большага ўзмацненьня работы з беднатой.

Гэта тлумачыцца, папершае, тым, што мы яшчэ сёньня маем пераважную частку працоўнага сялянства, якое не ўступіла яшчэ ў калгасы, і падругое, што зараз, ажыцьцяўляючы лёзунг ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі мы знаходзімся на этапе надзвычайна разгорнутай клясавай барацьбы, калі кулацтва імкнецца, ў апошнія хвіліны свайго існаваньня, падабраць пад свой ўплыў больш адсталую частку бядняцка-серадняцкага сялянства і супроцьпаставіць іх мерапрыемствам партыі ў перабудове сельскай гаспадаркі, на аснове пабудовы саўгасаў і калгасаў.

Хто гэтага сёньня ня можа і ня хоча разумець, той яскрава стаповіцца на шлях правага апартунізму і дапамогі клясаваму ворагу—кулаку.

На жаль, гэтыя яскравыя паказальнікі ў шэрагу раённых арганізацый і асабліва савецкіх, яшчэ недастаткова зразумелі таго палітычнага зьместу ў пытаньні ўзмацненьня работы з беднатой, які яму надаецца партыяй.

Мы маем той факт, што значная частка раённых выканаўчых камітэтаў да сёньняшняга дню ня лічыла сваім абавязкам удзельнічаць і дапамагаць у рабоце груп беднаты пры сельсаветах і іншых выбарчых органах на вёсцы, думаючы, што гэта работа поўнасьцю

ўскладзена на партыйныя ячэйкі, якія і павінны за яе адказваць.

Вось характэрныя адказы некаторых РВК на запытаньне ЦВК БССР, што імі зроблена ў выкананьне пастановы Прэзыдыуму апошняга ад 15/VIII-30 г.

Хоцімскі РВК паведамляе, што „групы бедноты пры с/с складзены і з імі праводзяць працу партыйныя ячэйкі“.

Бешанковіцкі РВК паведамляе, што „пастанова Прэзыдыуму ЦВК ад 15/VIII 1930 г. аб працы з беднатой была заслухана на Прэзыдыуме РВК 4-га кастрычніка 1930 г.“.

Як лічыць гэтыя адказы, калі не фармальна бюракратычнымі, якія яскрава малююць тое становішча, што шэраг раённых савецкіх органаў не займаюцца пытаньнямі работы з беднатой і нават ня лічаць гэта сваім абавязкам.

Праведзеныя зараз раённыя канфэрэнцыі груп бедноты поўнасьцю пацьвярджаюць правільнасьць апошняй пастановы ЦК КП(б)Б аб тым, што ўзмацненьне работы груп бедноты павінна заняць галоўнае месца ва ўсёй рабоце вясковых арганізацый, і што розныя гутаркі і размовы аб адмаўленьні і паслабленьні работы з беднатой, ёсьць ня інакш, як спробы клясавага ворага—кулака і яго агента правага апартуністага адцягнуць увагу бядняцка-серадняцкага сялянства ад вырашэньня асноўных задач партыі на вёсцы.

Зусім правільна, калі на канфэрэнцыях крытыка была накіравана на слабасьць і адсутнасьць дапамогі і работы з беднатой у шэрагу месц з боку партыйных і асабліва савецкіх і каапэрацыйных арганізацый.

Апартуністы права-„лявацкага“ блёку, выконваючы па сутнасьці абодвы кулацкі сацыяльны заказ, распаўсюджваюць розныя чуткі, што „групы бедноты пры калгасах не патрэбны“, аб чым як быццам сама партыя кажа і што „зараз у калгасах бедноты няма“ і шэраг іншых.

Нельга сказаць, што гэтыя апуртуністычныя размовы заўсёды атрымоўваюць руйнуючы адпор з боку некаторых партыйных, савецкіх і каапэрацыйных арганізацый.

На пленуме Чэрвеньскага Райкому сакратар ячэйкі Сіцкі выступіў з прамовай, што зараз у пытаньнях работы з беднатой няма яскравасьці і невядома як працаваць. Гэтае права-апартуністычнае выступленьне не атрымала дастатковага адпору.

Трэба сказаць, што правыя апартуністыя толькі тым і адрозьніваюцца ад іншых ухілістых, што яны ня бачаць і ня хочуць бачыць таго сацыяльнага зруху і зьместу той клясавай барацьбы, якая зараз маецца на вёсцы.

Шэраг партыйных ячэяк і сельсаветаў проста адхіляюцца праводзіць работу з беднатой, спасылаючыся на розныя аб'ектыўныя прычыны—перагрузка іншай працай і г. д.

Канфэрэнцыі яскрава паказалі, што ў шэрагу месц батрацтва і бедната, арганізаваны ў групы бедноты пры сельсаветах па сутнасьці фармальна.

Падчас батрацтва і бедната знаходзіцца ў загоне. Не прыцягваецца да практычнага вырашэньня розных гаспадарча-палітычных задач.

Прапановы груп бедноты, сярод якіх, бязумоўна, ёсьць каштоўныя, ня выконваюцца.

Сродкі, асыгнаваныя для дапамогі беднаце, поўнасьцю не скарыстоўваюцца.

У шэрагу месц адсутнічае вучот, у выніку чаго маюцца факты засьмечанасьці груп бедноты.

Ніякая паліт - выхаваўчая работа сярод бедноты і батрацтва не праводзіцца.

Сельскія саветы не ставяць перад сабой задачу згуртаваньня батрацтва і бедноты вакол сваёй работы, як адзінага надзейнага сродку ў пасьпяховасьці выкананьня мерапрыемстваў партыі на вёсцы; у шэрагу сельсаветаў зусім адсутнічаюць групы бедноты.

Ня гледзячы на шматлікія і яскравыя пастановы партыі і ўраду, мы на сёньняшні дзень ня маем яшчэ належнага пералому ў рабоце з беднатою.

Усё яшчэ дзе-ні-дзе замест рашучай барацьбы з апартуністычнай недаацэнкай у рабоце з беднатой, мы маем выпадкі патураньня з боку асобных раённых арганізацый і сельсаветаў.

Дзеля таго, каб даць яскравы малюнак і адказ права-апартуністычным развапжаньням у недаацэнцы работы сярод

беднаты, прывядзем два характэрныя параўнаньні.

У Лепельскім раёне пасьля масавага адліву з калгасаў, пад кіраўніцтвам райкому КП(б)Б была склікана раённая канфэрэнцыя груп беднаты, якая намеціла шэраг практычных мерапрыемстваў у рабоце з беднатой. Праз два месяцы райком КП(б)Б склікае нараду сакратароў партыйных ячэек, якая намячае далейшыя задачы работы. Пасьля некалькіх тыдняў зноў склікаецца раённая канфэрэнцыя груп беднаты, якая ужо падагуліла вынікі праведзенай работы і намеціла новыя задачы ў рабоце з беднатой.

Пры ўсіх калгасах, с/саветах і розных арганізацыях былі арганізаваны групы беднаты. Работа была пастаўлена на належную вышыню. Ніводная палітычна-гаспадарчая задача не вырашалася бяз удзелу груп беднаты. У рабоце сыстэматычна існаваў кантроль і праверка выкананьня гэтай работы.

Якія мы маем вынікі гэтай работы?

Калектывізавана бядняцка-серадняцкіх гаспадарак звыш 38 проц. Плян рэалізацыі пазыкі выканан на 106,8 проц., плян мабілізацыі сродкаў выканан на 90,3 проц. Разьмеркаваньне ўраджаю праведзена амаль па ўсім калгасам.

Вось рэальныя вынікі штодзённай сыстэматычнай работы сярод асноўных мас сялянства і асабліва сярод батрацтва і беднаты. Работа з беднатой у Лепельскай арганізацыі была пастаўлена ў цэнтры увагі.

Возьмем Гарадокскую парт'арганізацыю.

Партыйнае кіраўніцтва раёну і савецкі апарат па сутнасьці скаціліся ў права-апартуністычнае балота.

Райком КП(б)Б, не гаворачы ўжо аб РВК, на працягу апошніх 6-7 месяцаў ня толькі не даваў ніякіх дырэктыў, не дапамагаў у практычнай рабоце груп беднаты, але нават і ня ставіў гэтага пытаньня на абгаварэньне свайго бюро.

У выніку работа с беднатой знаходзілася ў заняпадзе. Не гаворачы аб тых групах беднаты пры сельсаветах, якія існуюць на паперы, у шэрагу месц яны адсутнічаюць.

У большасьці парт'ячэяк і с/саветах замест узмацненьня работы з беднатой займаліся рознымі апартуністычнымі разважаньнямі, што зараз няма часу займацца з беднатой. Недаацэнка ролі ўдзелу беднаты ў правядзеньні гаспадарча-палітычных кампаній і г. д.

Якія мы маем вынікі гэтай апартуністычнай работы?

Калектывізавана бядняцка-серадняцкіх гаспадарак толькі 6,7 проц.

Плян рэалізацыі пазыкі выканан на 78 проц., плян хлебанарыхтовак—на 85 проц., мабілізацыя сродкаў — на 69 проц. Разьмеркаваньне ўраджаю ні ў водным калгасе не праведзена. Вось гэта апартуністычныя, па сутнасьці, вынікі.

Гэтыя яскравыя паказальнікі параўнаньня пацьвярджэньня не патрабуюць.

Можна прывесьці яшчэ шэраг такіх параўнаньняў, якія таксама будуць гаварыць только адно, што там дзе работа з беднатой і наогул з бядняцка-серадняцкімі і калгаснымі масамі сялянства пастаўлена на належную вышыню, дзе ўсе задачы і дырэктывы партыі і ўраду вырашаюцца пры шырокім удзеле бядняцка-серадняцкіх мас, дзе работа груп беднаты пастаўлена, як неадлучная частка ўсей нашай партыйнай, савецкай, прафсаюзнай і каапэрацыйнай работы, дзе адбіваецца сыстэматычнае партыйнае і савецкае кіраўніцтва групамі беднаты, мы маем пасьпяховае выкананьне гаспадарча - палітычных задач і задач сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі.

Кожны камуніст, кожны савецкі працаўнік павінен сабе ўявіць, што як будзе пастаўлена работа груп беднаты на належную вышыню, як будзе згуртавана батрацтва, бедната, калгасьнікі і серадцякі вакол усёй нашай работы, ад гэтага будуць залежаць нашы посьпехі на ўсіх франтох нашага сацыялістычнага будаўніцтва.

Зараз перад партыйнымі, савецкімі, каапэрацыйнымі і іншымі раённымі арганізацыямі павінна стаць задача шырокай праверкі становішча работы груп беднаты. Ператварыць работу гэтых груп у сыстэматычную штодзённую работу ўсей беднаты, праверыць як выконваюцца прапановы беднаты і як бедната, прымацаваная да розных арганізацый уцягваеццца ў вырашэньне розных задач.

Усяму гэтаму завесьці сталы вучот як у сельсаветах, так і ў РВК, мабілізуючы шырокую грамадзкую думку вакол работы груп беднаты і даючы бязьлітасны адпор кулацкай агітацыі і права-апартуністычным разважаньням у недаацэнцы работы з беднатой.

Кожная парт'ячэйка, кожны сельскі савет павінен добра памятаць, што ў трэцім рашаючым годзе пяцігодкі трэба працаваць ня так, як працавалі ў мінулым.

Парт'ячэйкі і сельсаветы, як непасрэдныя кіраўнікі, арганізатары і выканаўцы павінны ў цэнтр увагі ўсёй сваёй работы паставіць шырокае разгортваньне паліт-выхаваўчай і культурна-масавай работы сярод бядняцка-серадняцкіх мас і асабліва сярод батрацтва і беднаты, ператварыўшы групы беднаты ў магутныя вагары калгаснага будаўніцтва.

Групы беднаты павінны зараз разгарнуць работу па падрыхтоўцы і правядзеньні другой бальшавіцкай вясны.

Як будзе мабілізавана батрацтва, бедната, калгасьнікі і серадняцтва на ажыцьцяўленьне дырэктыў нашай партыі, на барацьбу з кулацтвам і ліквідацыю яго, як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі, на барацьбу з адхіленьнямі ад генэральнай лініі партыі, ад гэтага будуць залежаць нашы далейшыя посьпехі на фронце сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі.

**Пяцярэнка.**

---

# Реканструкцыя сельскай гаспадаркі і задачы сельсаветаў у трэцім рашаючым годзе пяцігодкі.

Апошні пленум ЦК КП(б)Б адзначыў: „Другі год пяцігодкі зьявіўся годам новых і буйнейшых дасягненьняў партыі і рабочае клясы ў справе сацыялістычнага будаўніцтва. Гэтыя вялізарнейшыя посьпехі (асабліва па рэканструкцыі сельскай гаспадаркі) дасягнуты у выніку правільнага правядзеньня генэральнай лініі партыі на індустрыялізацыю краіны, у выніку разьвіцьця буйнай індустрыі ў першую чаргу і тым самым забесьпячэньня тэхнічнай базы для сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, у выніку бязьлітаснай барацьбы супроць кулацтва“.

Важнейшай задачай, якая зараз стаіць у справе вырашэньняў пытаньняў рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, гэта заканчэньне ў асноўным калектывізацыі да канца пяцігодкі.

У адпаведнасьці з гэтай асноўнай задачай і павінна праводзіцца ўся работа. Задачай 1931 году як трэцяга рашаючага году пяцігодкі ў справе рэканструкцыі сельскай гаспадаркі БССР зьяўляецца:

1. Давесьці разьмер калектывізацыі да канца 1931 году да 45 проц. агульнай колькасьці бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР.

2. Пры максымальным павялічэньні пасеўных плошчаў у саўгасах, калгасах і бядняцка-серадняцкіх адзінаасобных гаспадарках як за кошт неасвоеных зямельных плошчаў, так і за кошт скарачэньня вольных папараў, забясьпечыць павялічэньне ураджайнасьці збожжавых культур у савецкіх гаспадарках да 12 проц., у калгасах да 10 проц. і ў індывідуальных гаспадарках да 8 проц., а па лёну—на 15 проц. і бульбе—10 проц.

3. У справе жывёлагадоўлі—павялічэньне пагалоўя буйнай рагатай жывёлы на 26,6, проц. у тым ліку кароў на 5,7 проц., сьвіней—на 50 проц., г ўсяе жывёлы ў пераводзе на буйную рагатую жывёлу на 8 проц. У частцы прадукцыйнасьці жывёлы праз спэцыяльныя мерапрыемствы па кармленьні і ўтрыманьні жывёлы павялічыць удойлівасьць кароў у сярэднім на 10 проц., а ў спэцыялізаваных малочных жывёлагадоўчых гаспадарках аграмаджанага сэктару ня менш як на 20 проц.

У мэтах забесьпячэньня поўнага выкананьня задач, якія стаяць у справе рэканструкцыі сельскай гаспадаркі ў трэцім рашаючым годзе пяцігодкі, на гэтую справу мяркуецца выдаткаваць

каля 238,8 мільёнаў рублёў, з якіх на машынізацыю сельскай гаспадаркі каля 30 мільёнаў рублёў, за кошт якіх мяркуецца завесьці у дадатак да маючыхся ўжо у БССР 3.445 трактароў, а таксама вялізарную колькасьць і іншых сельскагаспадарчых машын.

Аднак, самі па сабе тыя вялікія сродкі якія адпускаюцца дзяржавай на справу рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, ня змогуць цалкам забясьпечыць ажыцьцяўленьня высунутых задач, калі на гэта ня будуць мабілізаваны рэсурсы шырокіх працоўных мас і калі гэтыя масы ня будуць усю сваю работу праводзіць ударным парадкам тым болей, калі гэта мабілізацыя ня прыме масавага характару зараз-жа, бо весеньняя сяўба, якая павінна забясьпечыць да 30 проц. калектывізацыі усіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, ужо набліжаецца.

Апошні Пленум ЦК КП(б)Б паставіў як асноўную задачу работы –„павялічэньне тэмпаў калектывізацыі. Падрыхтоўка і правядзеньне надыходзячай вясеньняй пасеўнай кампаніі павінна адбыцца пад знакам баявой мабілізацыі на яе правядзеньне і арганізацыю новага больш магутнага масавага прыліву бядняцка-серадняцкіх мас у калгасы пад знакам рашучай барацьбы з кулаком, якія зьяўляецца галоўным ворагам калектывізацыі“.

На чале работы па ажыцьцяўленьні задач рашаючага трэцяга году пяцігодкі у справе рэканструкцыі сельскай гаспадаркі павінны стаць органы дыктатуры пралетарыяту на вёсцы—сельскія саветы. Толькі правільна наладжаная работа сельскіх саветаў, рукавадзімых камуністычнай партыяй зможа ажыцьцявіць паказаныя задачы.

Між тым, значная частка сельскіх саветаў, асноўнай задачай якіх зьяўляецца сацыялістычная перабудова сельскай гаспадаркі шляхам калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, гэтай справай амаль што не займаюцца зусім. Пры чым, горш за ўсе гэта тое, што некаторыя сельскія саветы справу калектывізацыі нават ня лічаць сваёй справай. Справа калектывізацыі, па іх думцы, гэта справа партыйных ячэяк, а ня справа сельскіх саветаў, пры чым, бываюць выпадкі, калі паасобныя члены сельскіх саветаў выступаюць супроць калектывізацыі і калгасаў, а сельсаветы нават ня цікавяцца гэтымі „актыўнымі“ сваімі членамі і часта цалкам плятуцца ў хвасьце іх.

Вельмі часта праяўляюцца факты адмоўнага парадку ў калектывізацыі і таму, што сельскія саветы ня прымаюць ніякіх крокаў да ўцягненьня ў гэту работу актыву і не вядуць растлумачальнай работы аб значэньні калектывізацыі і папулярызацыі сярод гэтага актыву тых мерапрыемстваў, якія вызначаюцца партыяй і савецкай уладай у справе рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Большасьць сельскіх саветаў амаль што ня выносяць на свае пленумы і прэзыдыумы пытаньняў аб калектывізацыі, а калі некаторыя з іх выносяць, дык толькі ў агульнай пастанoўцы, а не пад пунктам погляду практычнага ажыцьцяўленьня яе ва ўмовах сельскага савету праз наладжваньне работы саўгасаў, калгасаў, якія існуюць на іх тэрыторыі і г. д.

Нават тыя сельскія саветы, на тэрыторыі якіх маюцца буйныя саўгасы і калгасы ня уцягваюць ў сваю работу рабочых саўгасаў і калгасьнікаў. Усе гэта зьяўляецца галоўнаю прычынаю таго, што с/саветы ня выносяць на абгаварэньне працоўных мас пытаньняў калектывізацыі і практычнага ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў па наладжваньні работы ў саўгасах і калгасах, зьнішчэньня безгаспадарчасьці, рвацкіх настрояў і г. д.

Зараз мы маем надзвычайна мала сельскіх саветаў, ў якіх зусім ня было калгасаў. Больш за ўсё мы маем такія сельскія саветы, на тэрыторыі якіх маюцца па 2-3 калгасы і некалькі саўгасаў. Здавалася-б, што кіруючая роля ў калгасным будаўніцтве гэтых сельскіх саветаў, у сувязі з пашырэньнем іх правоў з моманту ліквідацыі акруг ўжо павінна быць на належнай вышыні. Між тым, гэта роля на сёньня зусім недастатковая. Некаторыя сельскія саветы часта падпадаюць пад уплыў кіруючых органаў калгасаў і ператвараюцца ў падсобны ворган апошніх, у выніку чаго не сельсавет кіруе калгасамі, а калгасы сельскім саветам.

Большасьць сельскіх саветаў не вывучае сацыяльнага складу калгасьнікаў і таму часта ў калгасы пралазяць кулакі, якія стараюцца сваёй дзейнасьцю дыскрэдытаваць ня толькі паасобныя калгасы, а нават часта самую ідэю калектывізацыі, а сельсаветы на гэтыя зьявішчы своечасова не рэагуюць і не вядуць жорсткай барацьбы за абарону і ажыцьцяўленьне правільнай клясавай лініі, накіраванай у бок замацаваньня калгасаў і ачысткі іх ад варожых элемэнтаў.

Большасьць сельскіх саветаў яшчэ да гэтага часу пытаньнямі вясеньняй сяўбы амаль што не займаюцца. Вось тыя недахопы, якія не павінны мець месца ў далейшай рабоце сельскіх саветаў.

Неабходна, каб сельскія саветы зараз-жа разгарнулі масавую работу сярод саўгаскіх рабочых, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас адзінаасобнікаў па абгаварэньню плянаў вясеньняй сяўбы, прычым гэта работа павінна праводзіцца ў напрамку арганізацыі новага масавага прыліву ў калгасы бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, папулярызацыі мерапрыемстваў кампартыі і савецкай ўлады па рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і мабілізацыі шырокіх працоўных мас на выкананьне задач, высунутых трэцім рашаючым годам пяцігодкі, а таксама накіраваньня актыўнасьці гэтых працоўных мас на жорсткую барацьбу з кулацтвам і іх агентамі рознымі ўхілістымі ад генэральнай лініі партыі. Побач з гэтым с/саветы павінны мабілізаваць усе працоўныя масы на выкананьне баявых тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва і атрыманьне лепшых якасных паказчыкаў.

Неабходна таксама зараз-жа разгарнуць работу па ўзмацненьню існуючых калгасаў, шляхам папаўненьня іх новымі членамі за кошт уцягненьня бядняцка-серадняцкай часткі вёскі, шляхам арганізацыі і праверкі работы ў калгасах і асабліва па падрыхтоўцы да вясеньняй сяўбы і інш.

Ажыцьцяўляючы гэту работу, сельскія саветы з мэтай папулярызацыі калгаснага будаўніцтва павінны на кожным пасяджэньні свайго прэзыдыуму і пленуму заслухоўваць даклады калгасаў аб іх дзейнасьці, выносячы гэтыя прэзыдыумы і пленумы ў паасобныя вёскі і калгасы.

Толькі што закончана перавыбарчая кампанія сельскіх саветаў, якая значна палепшыла сацыяльны склад сельскіх саветаў, аднак, гэта не адзначае, што ў сельскія саветы не пралезьлі клясавыя ворагі. У гэтым напрамку, як і раней павінна вясьціся ўпартая работа па ачыстцы саветаў ад усіх прымазаўшыхся элемэнтаў.

Толькі ў жорсткай барацьбе з кулацтвам пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі сельсаветы змогуць ператварыцца ў сапраўдныя органы дыктатуры пралетарыяту на вёсьці і цалкам забясьпечыць пасьпешнае правядзеньне у жыцьцё тых задач, якія стаяць у трэцім рашаючым годзе пяцігодкі ў справе рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і здолеюць з посьпехам правесьці другую бальшавіцкую вясеньнюю пасеўную кампанію і стаць сапраўды на чале калгаснага будаўніцтва.

**Р—ч.**

---

## Роля насьценгазэты ў працы сельсаветаў.

Шырока разгорнутае наступленьне сацыялізму па ўсяму фронту прывяло да актывізацыі антысавецкіх элементаў у горадзе і асабліва на вёсцы. Кулакі, царкоўнікі ўсіх рэлігій і ўся іншая зграя варожых пралетарыяту элемэнтаў праз сваіх агентаў—падкулачнікаў і клерыкалаў пачалі за апошні час вельмі ўмела адурманьваць працоўныя сялянскія масы шляхам распаўсюджваньня розных чутак, усе вастрыё якіх цалкам накіравана супроць мерапрыемстваў партыі і савецкае улады.

Уся гэтая зграя, каб сцыніць магутны новы прыліў у калгасы бядняцка-серадняцкіх мас, амаль па ўсіх раёнах распаўсюджвае чуткі аб тым, што вясною будзе вайна і што сюды прыдуць

палякі і будуць катаваць усіх калгасьнікаў. У некаторых мясцох кулакі і паны даюць заданьні падкулачнікам уступаць у калгасы і падрываць іх знутры. У другіх мясцох арганізоўваюць зладзейскія шайкі для абкрадваньня актывістых беднякоў і серадняков, асабліва ў той момант, калі гэтыя актывістыя выконваюць якую-небудзь грамадзкую работу. Нават пускаюць і такія бязглуздыя чуткі, што ўсіх уступіўшых у калгас маладых мужчын пагоняць на Данбас (Сялецкі с/с Грэскага раёну).

Вопыт работы на мясцох паказвае, што там, дзе вёска знаходзіцца ў палоне такіх чутак, надзвычайна цяжка праводзіць у жыцьцё важнейшыя мерапрыемствы савецкае ўлады, хоць значная частка працоўнага сялянства і бачыць у іх сваю карысьць.

Гэтыя выпадкі бываюць толькі ў тых сельсаветах, дзе слаба арганізавана масавая работа з беднатой і наогул з актывам.

Для супроцьпастаўленьня гэтай агіднай рабоце клясавага ворага сельскія саветы павінны мабілізаваць усе маючыяся ў сельсавеце культурныя сілы і савецкі актыў.

Адной з сапраўдных форм масавай прапаганды на вёсцы зьяўляецца насьценгазэта, вакол якой і неабходна згрупаваць гэтыя сілы.

Тым сельсаветам, дзе выданьне насьценгазэт яшчэ неарганізавана, безадкладна дагаварыцца з мясцовымі партыйнымі ячэйкамі, а дзе гэтакіх няма, з райпалітінспэктарамі і арганізаваць іх пры сельсавеце, калгасах і саўгасах. Абавязкі па арганізацыі работы ў гэтай галіне ўзлажыць на культурна-сацыяльныя камісіі пры с/с, вылучыўшы ў іх адпаведную асобу, на якую ўзлажыць адказнасьць як за арганізацыю, так і за зьмест выпускаемай газэты.

Для кіраўніцтва работаю насьценгазэты неабходна абраць рэдкалегію з з ліку сьценкораў і прадстаўнікоў мясцовых партыйных, камсамольскіх і прафсаюзных арганізацый.

Работу насьценгазэты наладзіць так, каб яна сваечасова і поўнасьцю асьвятляла ход работы сельсавету. Тут-жа павінна шырока выстаўляцца прыкладная работа лепшых ударнікаў—членаў сельсавета, а таксама жорстка ганьбіцца і ўсе тыя, хто адлыньвае ад работы. Побач з гэтым насьценгазэта праз мабілізацыю сьценкораў беднякоў, батракоў, калгасьнікаў і рабочых саўгасаў павінна сваечасова выкрываць усе шкодныя махінацыі кулацтва і яго агентаў і перанесьці ўвесь агонь на барацьбу з гэтымі махінацыямі.

Адно з важнейшых і пачэсных месц у насьценгазэце павінна быць адведзена рабоце сельсавета па калектывізацыі сельскае гаспадаркі і перабудове быту працоўнага сялянства.

Паставіўшая такім чынам работу насьценгазэта пры сельсавеце, калгасе і саўгасе зьявіцца адным з магутных рычагоў па арганізацыі і накіраваньні актыўнасьці ўсёй савецкай грамадзкасьці на барацьбу з бязьдзейнасьцю як паасобных членаў, так і сельсавета ў цэлым з аднаго боку і ўсімі махінацыямі варожых элемэнтаў з другога.

Вывешаная на відным месцы у канцылярыі сельсавету, або калгасе, ці хаце-чытальне насьценгазэта прынясе вялізарнейшую карысьць па-першае ўсяму працоўнаму сялянству тым, што вырве яго з палону розных шкодных чутак і будзе ў асноўным накіроўваць іх думкі і прыватныя гутаркі вакол тых тэм, якія будуць асьвятляцца ў гэтай газэце і па другое самому сельсавету тым, што ён сваечасова будзе выяўляць усе балючыя месцы ў сваёй працы.

Для больш поўнага асьвятленьня ў насьценгазэце жыцьця ўсіх паселішч сельсавету неабходна абавязаць усіх членаў с/с, яго камісій і вытворчых нарад сыстэматычна даваць матар'ялы рэдкалегіі, якая апрача гэтага павінна паступова ўцягваць у шэрагі селькораў насьценгазэты ўдарнікаў—калгасьнікаў, рабочых саўгасаў, лепшых беднякоў і актывістых серадняков.

Для тэхнічнага афармленьня насьценгазэты сельсаветы ці рэдкалегіі могуць дагаварыцца з мясцовымі школамі аб выкананьні гэтае работы сілаю вучняў старэйшых груп. Агульнае кіраўніцтва працаю насьценгазэт і практычную дапамогу па арганізацыі насьценгазэт па ўсім сельсаветам БССР павінны ўзяць на сябе раённыя газэты.

Усім сельсаветам, рэдкалегіям і сацыяльна-культурным камісіям пры сельсаветах трэба добра памятаць, што насьценгазэты заваюють сабе аўтарытэт сярод працоўнага сялянства толькі тады, калі яны павядуць жорсткую барацьбу з усякімі непаладкамі на вёсцы, будуць рашуча змагацца з клясавым ворагам кулаком і яго агентамі і стануць сапраўднымі ініцыятарамі па арганізацыі новага калгаснага прыліву для далейшага разгортваньня суцэльнае калектывізацыі сельскае гаспадаркі і на гэтай базе канчатковай ліквідацыі кулацтва як клясы.

Б.

---

## Праваапартуністычная практыка ў рабоце Сьвіслацкага РВК.

На тэрыторыі Сьвіслацкага раёну маюцца прамысловыя прадпрыемствы, якія маюць даволі значнае дзяржаўнае значэньне, як завод „Спартак“ і „Кастрычнік“, дзе занята больш 900 чалавек рабочых.

Здавалася-б, што наяўнасць на тэрыторыі раёну такіх прамысловых прадпрыемстваў павінна была-б прыцягнуць да сябе ўвагу кіраўніцтва раёну ў пастаноўцы работы на гэтых прадпрыемствах. Між тым, гэта увага адсутнічае і, як вынік, на прадпрыемствах работа па выкананьні прамфінпляну, паляпшэньні якасьці прадукцыі і зьніжэньні сабекошту пастаўлена дрэнна.

Сацыялістычнамі мэтадамі працы на прадпрыемствах як-та сацспаборніцтва, ударніцтва і г. д. ахоплена значная колькасьць рабочых, з боку якіх уносіцца цэлы шэраг прапаноў аб палепшаньні вытворчасьці. Аднак, гэтыя мэтады работы праходзяць неарганізаваным парадкам. Фабком і парт'ячэйка гэтым пытаньнем амаль што не займаюцца.

У апошні час на заводзе „Кастрычнік“ наглядаюцца перабоі ў рабоце заводаў з-за адсутнасьці сыр'я, якое сваечасова ня было нарыхтавана. У выніку, у сярэднім за 11 месяцаў прамфінплян заводам па выпуску прадукцыі выканан только на 91, 3 проц., а па зьніжэньні сабекошту даў ня толькі зьніжэньне 13 проц., як гэта было запраэктавана па пляну, а павялічэньне каля 5 проц., пры чым на працягу, амаль, што усяго 1930 году завод як па выпуску прадукцыі, так і па зьніжэньні сабекошту ня толькі не павялічаў тэмпаў, а нават іх паменшаў. Так, у кастрычніку месяцы 1929 году было выпушчана прадукцыі, згодна месячнага пляну на 104, 84 проц., а у жніўні месяцы 1930 году плян выканан толькі на 78, 7 проц. Зьніжэньне сабекошту у пляне было запраэктавана 13, 69 проц. да жніўня месяца зьніжана было сабекаштоўнасьць усяго толькі на 5, 61 проц., а ў жніўні сабекаштоўнасьць узрасла на 9, 47 проц. супроць гадавога пляну.

На заводзе „Спартак“ такі-ж самы малюнак як і па выкананьню пляну, так і па зьніжэньню сабекаштоўнасьці.

Прычынамі гэтага зьяўляецца з аднаго боку тое, што на заводзе адсутнічае працдысцыпліна і з другога боку, што адміністрацыя заводу не змагла арганізаваць належным чынам рабочых і мабілізаваць іх на выкананьне прамфінпляну, пры чым часта праяўляла грубыя, бюракратычныя адносіны, а парт'ячэйка і фабком займаючыся дробязамі, не аказалі належнай дапамогі адміністрацыі ў выкананьні гэтай работы. Займаючыся часта работай барацьбы з прагуламі, фабком замест разгортваньня самакрытыкі вакол гэтага недапушчальнага зьявішча і наладжваньня масавай палітычна-выхаваўчай работы сярод рабочых і завастрэньня ўвагі апошніх на пытаньнях практычнага выкананьня прамфінпляну, запісваў на чорную дошку па 37 „прагульшчыкаў“, запамятоўваючы пры гэтым, як відаць, запісаць сюды сябе за тое, што ён нічога не зрабіў у напрамку папярэджаньня прагулаў, якіх за 11 месяцаў было 892 дні. Як вынік, прамфінплян недавыканан на даволі значны процант.

У пытаньнях калгаснага будаўніцтва справа абстаіць таксама ня зусім добра. Большасьць сельсаветаў у свой час была абвешчана сельсаветамі суцэльнай калектывізацыі. У гэтых сельскіх саветах было дапушчана надзвычайна шмат „лявацкіх“ загібаў, выпраўленьне якіх прывяло да распада цэлага шэрагу калгасаў. Так, у Сялібскім сельсавеце, дзе раней існавала 6 калгасаў, засталося толькі 2, Віркаўскім з 3-х засталося 2 калгасы, а ў Ліпенскім сельскім савеце не засталося ні воднага, пры чым ня было ніводнага сельскага савету, у якім бы ня было развалу калгасаў, альбо масавага выхаду з апошніх. У некаторых сельскіх саветах мела месца арганізацыя лжекалгасаў (Ліпенскі сельсавет).

Калгасы засьмечаны кулацкімі элемэнтамі. У калгасе „Чырвоны Рольнік“ маецца 6 кулацкіх гаспадарак, з якіх нехта Гушча Янка да ўступленьня ў калгас меў 40 дзесяцін зямлі, Шаміловіч—20 дз. і г. д. Пры чым гэтыя гаспадаркі раскулачаны і, ня глядзячы на гэта, прыняты у калгас. У выніку—калгас цалкам знаходзіцца пад уплывам кулацтва, якое праводзіць работу на развал калгасу і дыскрэдытацыю, наогул, ідэі калектывізацыі, а раённыя ўстановы ня прымаюць мер да ачысткі калгасу ад варожых элемэнтаў.

Да гэтае пары ў калгасе „Чырвоны Рольнік“ збожжа не абмалочана і калгас сваіх абавязкаў перад дзяржавай ня выканаў нават і на 1 проц., бо ня здаў дзяржаве ні фунта з маючыхся ў яго таварных лішкаў.

Інвэнтарызацыя маемасьці ў калгасе не праведзена і, як вынік, калгассэкцыя лічыць, што калгасу пры раскулачваньні перададзена маемасьці на 33 тысячы рублёў, а па дакумэнтах калгасу гэтай маемасьці лічыцца усяго толькі на 13.000 рублёў, а на астатнюю маемасьць ніякіх дакумэнтаў ня маецца і зразумела, што ня маецца і маемасьці на 20.000 рублёў. Гэта маемасьць разбазарана кулакамі, якія залезьлі у калгас для таго, каб разваліць калгас знутры.

На зробленыя заўвагі аб недахопах у калгасе „Чырвоны Рольнік“, райвыканком і калгассэкцыя адказваюць так, „што вы, нам паказваеце на „Чырвоны Рольнік“, калі па нашаму раёну такіх калгасаў маецца 5 і адразу наладзіць работу ва ўсіх калгасах нельга“.

Раённыя кіруючыя органы недаацанілі значэньня разьмеркаваньня ўраджаю ў калгасах, як аднаго з галоўных мерапрыемстваў замацаваньня калгаснага будаўніцтва і на падставе гэтага не правялі папулярызацыі дасягненьняў калгасаў з мэтай арганізацыі новага масавага прыліву ў калгасы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Гэта пацьвярджаецца тым, што з 26 калгасаў якія маюцца ў раёне, ураджай разьмяркован толькі ў 2-х і калгасьнікі такіх калгасаў на сёньня ня ведаюць разьмер свайго гадавога заробку ў калгасах.

Пры такім становішчы зусім не зьдзіўляе той факт, што ў калгасах раёну маюцца рвацкія настроі, сабезаўшчына і г. д. Калгасьнікі з такімі шкоднымі настроямі свой заработак са значным перавышэньнем ўжо выбралі авансамі, а сапраўдныя калгасьнікі за сваю працу нічога яшчэ не атрымалі і да гэтае пары.

Арганізацыйная работа ў калгасах пастаўлена надзвычайна дрэнна. Складаньне вытворчых плянаў калгасаў і плянаў вясеньняй сяўбы, якая павінна забясьпечыць ня менш 30 проц. калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак яшчэ не распачата.

Сацыялістычныя мэтады і формы работы ў калгасах амаль ня ўжываюцца. Некаторыя калгасы заключылі соцумовы з іншымі калгасамі, але справа далей складаньня гэтых умоў не пасунулася.

Палітычна-гаспадарчыя кампаніі па раёну праходзяць дрэнна. Плян хлебанарыхтовак на 9/І-1931 году выканан усяго толькі на 62 проц., пры чым, аб праходжэньні гэтай кампаніі ў паасобных сельскіх саветах, РВК зусім ня ведае і, як відаць, гэтай справай зусім ня кіруе. Асабліва гэта мела месца ў час перавыбараў саветаў. Замест таго, каб мабілізаваць бядняцка-серадняцкія масы на поўнае выкананьне заданьняў у час перавыбараў гаспадарча-палітычныя кампаніі былі пакінуты на самацёк.

Барацьба з кулацтвам, якое прымае ўсе меры да зрыву заданьняў, РВК і сельсаветамі не вядзецца, пры чым маюцца выпадкі патураньня кулакам у выглядзе дачы палёгкі за кошт серадняка. Дача цьвёрдых заданьняў замест кулацка-

заможным гаспадаркам у значнай частцы была даведзена да серадняцкіх гаспадарак. Напрыклад, Шкурын Іван, які плаціць падатку 9 р. 15 кап. і мае зямлі 4,8 дзесяцін, атрымаў цьвёрдае заданьне па хлебу 40 пудоў і бульбе 200 пудоў, а Шкурын Максім, які плаціць падатку 74 р. 18 кап. і мае 16,9 дзесяцін зямлі, атрымаў цьвёрдае заданьне ўсяго толькі па збожжу—20 пуд. і па бульбе 100 пуд., альбо Зіновенка Якуб, які мае зямлі 4,9 га і падатку плаціць 10 р. 35 кап., атрымаў цьвёрдае заданьне па збожжу—50 пуд. і бульбе 200 пудоў., а Шкурын Міхась, які мае 10 дзесяцін зямлі і плаціць падатку 75 р. 98 кап., цьвёрдае заданьне атрымаў усяго толькі па збожжу 15 пуд. і па бульбе 100 пуд. і г. д. Толькі па аднаму Градзянскаму сельскаму савету маецца такіх каля 38 выпадкаў. Па іншых сельсаветах справа абстаіць ня лепш.

Гэтыя факты з усёй яскравасьцю гавораць аб блізарукасьці раённага кіраўніцтва, якое дзякуючы сваёй права-апартуністычнай практыцы, ня бачыць у раёне кулакоў і дапушчае выкрыўленьне клясавай лініі, даводзячы цьвёрдыя заданьні да серадняцкіх гаспадарак.

У адносінах сельска-гаспадарчага падатку, страхоўкі, самаабкладаньня і асабліва мабілізацыі сродкаў справа абстаіць таксама дрэнна. Самаабкладаньне па некаторых сельскіх саветах узыскана ўсяго толькі на 26 проц. (Градзянскі сельскі савет), а сельгаспадатак 80—85, страхоўка—53 проц. і г. д. Рэалізацыя пазыкі „Пяцігодка ў чатыры гады“ у некаторых сельскіх саветах выканана толькі на 11 проц. (Востраўскі сельсавет).

Вось, балянс дзейнасьці Сьвіслацкага РВК, які патрабуе падрабязнага вывучэньня і аналізу з боку адпаведных органаў для таго, каб выправіць усе тыя прарывы, якія дапушчаны як у паасобных сельскіх саветах, так і ў раёне ў цэлым.

Неабходна, каб раённыя арганізацыі зараз-жа заняліся выпраўленьнем паказаных недахопаў і зьнішчылі тыя прарывы, якія яны дапусьцілі па сваёй права-апартуністычнай блізарукасьці.

**М. А. Рабцэвіч.**

---

## Узор нікудышнай работы.

(*Чэрыкаўскі гарсавет*).

Рэканструкцыя ўсяе народнае гаспадаркі, шырока разгорнутае сацыялістычнае будаўніцтва, суцэльная калектывізацыя і, на аснове яе, канчатковая ліквідацыя кулацтва як клясы, рашуча паставілі перад гарсаветамі задачу карэннай перабудовы іх работы ў такім напрамку, каб новыя формы і мэтады яе забясьпечылі пагалоўнае ўцягненьне ў работу гарсавету ўсёй рабочай масы.

Гэтыя новыя формы і мэтады арганізацыйна-масавай работы, як паказаў вопыт, набліжаюць гарсавет да кіраўніцтва вытворчасьцю, да кіраўніцтва ўсяго гаспадарча-палітычнага і культурнага жыцьця гораду, да кіраўніцтва па ўзмацненьні вядучай ролі пралетарыяту пры правядзеньні суцэльнай калектывізацыі сельскай гаспадаркі і да кіраўніцтва па далейшай актывізацыі пралетарыяту для выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады праз арганізацыю сацспаборніцтва, ударніцтва і іншых сацыялістычных мэтадаў работы.

Як-жа справіўся з выкананьнем гэтых задач Чэрыкаўскі гарсавет?

Прадстаўленая ў ЦВК статыстычная справаздача аб арганізацыйна-масавай рабоце за 1930 год гэтага гарсавету выразна гаворыць, што даны гарсавет з выкананьнем задачы па перабудове сваёй работы, ў адпаведнасьці з запатрабаваньнямі сучаснага пэрыяду, ня справіўся. У гэтай галіне работы Чэрыкаўскі гарсавет мае вялізарныя прарывы.

Аб апошнім сыгналізуюць наступныя даныя. Чэрыкаўскі гарсавет за 1930 год правёў 10 пленумаў, у якіх прымала ўдзел 317 членаў і кандыдатаў гарсавету, у тым ліку 93 жанчыны. У сярэднім на кожным пленуме прысутнічала (з акругленьнем) 32 члены гарсавету, ў тым ліку 9 жанчын, што складае ў адносіне да агульнага ліку абраных у гарсавет чле-

наў—67,9 проц. Сярэдняя яўка жанчын—членаў гарсавету на кожным пленуме дасягала толькі 56,2⁰/₀.

Ня лепш абстаяла справа з залучэньнем у працу пленумаў іншага гарадзкога актыву. У сярэднім на кожным пленуме ўдзельнічала (з акругленьнем) 40 чал., у тым ліку 8 жанчын. Плян склікаńьня пленумаў выканан толькі на 83,3⁰/₀. Амаль такое-ж становішча і з работай прэзыдыуму, а за гэтым мы пералікам фактаў па гэтай форме арганізацыйна-масавай работы займацца ня будзем. На 10 пленумах гарсавету разгледжана 21 пытаньне, з якіх 2 аб выкананьні прамфінпляну, 2 аб рабочым забясьпечаньні і грамадзкім харчаваньні, камунальна-жыльлёвае і дабрабыту і рэшта дробныя пытаньні, якія нават не знайшлі месца ў пераліку справаздачы гарсавету.

Гарсавету падпарадкавана 13 прадпрыемстваў і ўстаноў. Гарсавет на сваіх пасяджэньнях заслухаў 21 даклад аб становішчы гэтых прадпрыемстваў і ўстаноў, прычым папярэднія абсьледаваньні зроблены толькі па 8 прадпрыемствах і ўстановах. Нарад актыву гарсаветам праведзена 30, з якіх 3 жаночага і 27—іншых. Пры гарсавеце існавалі наступныя сэкцыі: фінансава-бюджэтная, камунальна-жыльлёвая, народнай асьветы, аховы здароўя, РСІ, адміністрацыйна-прававая і каапэрацыйная.

Сэкцыі-ж па палепшаньні працы і быту жанчын, прамысловае і калгаснага будаўніцтва зусім ня былі арганізаваны. У існаваўшых сэкцыях было 64 члены, з якіх членаў гарсавету—44, жанчын у сэкцыях было толькі 9. Сацыяльны склад сэкцыі: рабочых—13, сялян—20, служачых—17, саматужнікаў—10 і іншых—4. У ліку сялян калгасьнікаў было толькі—1. Як відаць, сацыяльны падбор сэкцый быў нездавальняючы. Усе сэкцыі зрабілі за год толькі 20 пасяджэньняў, вырашылі 64 пытаньні і абсьледавалі 8 прадпрыемстваў і ўстаноў. Лепш працавала адміністрацыйна-прававая сэкцыя, яна зрабіла 8 пасяджэньняў і вырашыла 24 пытаньні, і амаль зусім не працавалі каапэрацыйная, народнай асьветы і камунальна-жыльлёвая.

Характэрным у рабоце сэкцый і гарсавету зьяўляецца тое, што гарсавет 37 разоў заслухоўваў даклады сэкцый і ніяк ня мог разварушыць іх спячку. Так, напрыклад, сэкцыя нарасьветы за год ледзь „выціснула“ адно пасяджэньне да і то на ім з 13 членаў прысутнічала толькі 6 чал. Вырашыла яна 2 пытаньні. Правядзеньне ўсеагульнага навучаньня і палітэхнізацыі школ гэтая сэкцыя ня лічыла сваім абавязкам, з прычыны чаго вакол гэтых надзвычайна важных і адказных галін працы амаль не арганізавана грамадзкасьць.

Гарсавет-жа заслухоўваў гэтую сэкцыю 8 разоў. Такое-ж становішча назіралася з камунальна-жыльлёвай і каапэрацыйнай сэкцыямі. Першую гарсавет заслухоўваў 5, а другую—6 разоў, тады калі яны за год таксама зрабілі толькі па аднаму пасяджэньню. Усё гэта гаворыць, што гарсавет не павярнуўся тварам да перабудовы сваёй работы для таго, каб у штодзённай практычнай працы апірацца на рабочыя калактывы і калгасныя масы, паднімаючы іх актыўнасьць, ініцыятыву і творчы энтузіязм на барацьбу за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

Заслухоўваньне дакладаў бязьдзейнічаючых сэкцый па некалькі разоў і непрыняцьце рашучых мер да наладжваньня іх работы, а таксама і дакладаў іншых прадпрыемстваў без папярэдняга абсьледваньня іх работы сэкцыямі, зьяўляецца горшым відам апартунізму на практыцы і праяўленьнем у агіднай форме бюракратызму. Адсутнасьць у гарсавеце сэкцыі прамысловасьці, калгаснага будаўніцтва і па палепшаньні працы і быту жанчын яскрава гавораць аб недаацэнцы з боку гарсавету гэтых галін працы. Гарсавет лічыў, што вакол гэтых надзвычайна важных і адказных галін працы можна і не разгортваць арганізацыйна-масавай работы, а справу па разгортваньні сацыялістычнай прамысловасьці, справу па арганізацыі новага масавага прыліву ў калгасы і справу шырокага ўцягненьня ў сацыялістычнае будаўніцтва працоўных жаночых мас—лепш пакінуць на шляху самацёку. Гэтую ацэнку працы гарсавету можна пацьвердзіць яшчэ і тымі фактамі, што на пленумах яго ўдзельнічала ў сярэднім толькі 67,9⁰/₀ членаў гарсавету, і асабліва нязначная колькасьць членаў гарсавету жанчын—56,2⁰/₀ і іншага гарадзкога актыву, а

таксама і тое, што гарсавет за год ня вынес ні на пленум ні на прэзыдыум пытаньня аб дапамозе сельсаветам у справе калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Пытаньні-ж аб выкананьні прамфінпляну і рабочым забясьпечаньні, як быццам і абгаварваліся два разы на пленумах, але гэта абгаварэньне ня было арганічна зьвязана з вытворчымі задачамі тых рабочых калектываў, якія павінны былі непасрэдна выконваць гэтыя задачы, бо гэта абгаварэньне праходзіла ў клюбе гарсавету, а не на прадпрыемствах.

Даклады аб выкананьні прамфінпляну абгаварваліся фармальна, бо ня было арганізавана адпаведнай сэкцыі, якая занялася-б масавай прапрацоўкай гэтага пытаньня і арганізацыяй для выкананьня яго сацыялістычных мэтадаў працы. Мы лічым, што такое становішча работы Чэрыкаўскага гарсавету інакш нельга назваць, як праяўленьнем правага апартунізму на практыцы і нежаданьнем перабудаваць арганізацыйна-масавую работу ў адпаведнасьці з сучаснымі запатрабаваньнямі.

Райвыканкому і іншым кіруючым арганізацыям гораду неабходна безадкладна дапамагчы новаму складу гарсавету арганізаваць і накіраваць узрослую актыўнасьць працоўных мас гораду, пераводзячы яе на мову рэальных паказчыкаў: росту прамысловай прадукцыі, павышэньня якасьці яе, зьніжэньня сабекошту, выкананьня прамфінпляну, павышэньня рэальнай зарплаты рабочых і інш. Усю гэту работу неабходна пабудаваць так, каб ня толькі ўсе члены гарсавету але і ўся рабочая маса і наогул працоўныя гораду прымалі самы актыўны і практычны ўдзел у савецкім будаўніцтве.

Усе гэтыя задачы будуць больш пасьпяхова вырашаны тады, калі гарсавет установіць сыстэматычную жывую сувязь з рабочымі масамі. Да галоўных мерапрыемстваў па ўстанаўленьні гэтай сувязі адносяцца: правядзеньне прэзыдымаў і пленумаў гарсавету на прадпрыемствах і ў рабочых клюбах; ажыўленьне дзейнасьці ўсіх сэкцый і пераносеньне іх работы на выбарчыя вучасткі, дзе неабходна праводзіць пленумы сэкцый з закліканьнем на іх рабочых і іншых працоўных мас, арганізаваўшы паміж усімі сэкцыямі сацспаборніцтва і ўдарніцтва; правядзеньне на прадпрыемствах вечароў пытаньняў і адказаў па ўсіх галінах, устанавіўшы за правіла, каб усе падлягаючыя разгляду ў гарсавеце закранутыя на гэтых вечарох пытаньні, вырашаліся не пазьней, як у дэкадны тэрмін; арганізаваць на прадпрыемствах, дзе маецца ня менш 3-х членаў гарсавету, дэпутацкія групы; стварэньне з членаў гарсавету і іншага рабочага актыву рабочых брыгад для праверкі праз кожныя тры месяцы выкананьня пастаноў прэзыдыуму і пленумаў гарсавету, а таксама і яго сэкцый паасобнымі выканаўцамі і ўстановамі; штомесячна праводзіць пашыраныя нарады бюро ўсіх сэкцый для прапрацоўкі мэтадаў ажыцьцяўленьня паасобных мерапрыемстваў сацыялістычнага будаўніцтва; на кожным трэцім пасяджэньні прэзыдыуму або пленуму заслухоўваць даклады сэкцый аб іх дзейнасьці і практычна дапамагаць тым сэкцыям, якія ня змогуць паставіць сваю работу на належную ступень.

Побач з гэтым неабходна скарыстаць вопыт Харкаўскага гарсавету ў справе перадачы некаторым сэкцыям апэрацыйных правоў праз аддачу пад іх загадваньне і кіраўніцтва асобных галін гаспадаркі гораду.

Гэта перадача дасьць магчымасьць прэзыдыуму гарсавету аслабаніцца ад разгляду другарадных пытаньняў і сканцэнтраваць больш увагі на вырашэньні прынцыповых пытаньняў і агульнага кіраўніцтва сацыялістычным будаўніцтвам у горадзе. Другі станоўчы бок гэтай перадачы заключаецца ў тым, што яна дасьць магчымасьць уцягваць у практычную работу па кіраўніцтву гаспадарчымі і сацыяльна-культурнымі ўстановамі гораду ня толькі ўсіх членаў і кандыдатаў гарсавету, але і найбольш актыўнейшых выбаршчыкаў. Вось комплекс галоўнейшых мерапрыемстваў, якія, па нашай думцы, неабходна ўжыць новаму складу Чэрыкаўскага гарсавету для ліквідацыі прарываў папярэдняга складу.

Б. М. С.

**Давядзеньне плянаў і ссыпка насеньня—адны з асноўных мер у падрыхтоўцы да другой бальшавіцкай вясны.**

# Добра ўзброенымі сустракаюць другую бальшавіцкую вясну.

Улічваючы асаблівую важнасьць падрыхтоўкі і правядзеньня другой бальшавіцкай вясны, Чашніцкі райвыканком арганізаваў эстафэту, для работы якой вызначыў канкрэтны плян маршрутаў. На апошніх і застанаўліваюся.

**Узмацненьне і пашырэньне сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі і вытворчае каапэраваньне.**

Першым пунктам гэтага маршруту предугледжваецца скančэньне разьмеркаваньня ўраджаю 1931 г. у калгасах і забясьпечаньне сваечасовага складаньня справаздачы калгасаў.

Другім пунктам маршруту—разгортваньне шырокай работы навакол перавыбараў калгасаў і арганізацыя новага масавага прыліву ў калгасы. Арганізацыя ў калгасах і па вёсках ініцыятыўных груп па вярбоўцы новых членаў у калгасы і арганізацыі новых калгасаў, увязваючы гэту працу з шырокай справаздачнасьцю калгасаў перад бядняцка-серадняцкімі масамі вёскі.

Далей—даручана эстафэце праверыць, як арганізавана праца і вучот у калгасах (тарыфікацыя, зьдзельшчына ды інш.). Праверыць кіраўніцтва і ўдзел сельсаветаў у арганізацыі калгасаў, асабліва ў арганізацыі новага прыліву ў калгасы. Ахапіць вытворчым каапэраваньнем у асноўным усе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі, якія яшчэ да гэтага часу не ўвайшлі ў калгасы і апошняе разгарнуць работу па арганізацыі бытавых устаноў, як дзіцячых ясьляў, пляцовак, адчыненьне сталовак і г. д.

**Пашырэньне засеўных плошчаў пад яравымі культурамі.**

Гэты маршрут таксама прадугледжвае значную работу, як выяўленьне малапрадукцыйных сухадолаў, выганаў, а таксама і залежаў і прыняцьце адпаведных захадаў да іх распашкі. Арганізацыя раскарчоўкі хмызьнякоў і інш. для распашкі і засеву апошніх. Арганізацыя мэліярацыйных работ з мэтаю пашырэньня яравога кліну і правядзеньня шырокай работы па скарачэньню папару, дабіўшыся поўнага выкананьня плянаў па заняцьцю папару пад яравыя культуры.

**Падняцьце ўраджайнасьці.**

Прыняць усе захады да поўнага забясьпечаньня засеву гатунковым насеньнем у калгасах і асобных паселішчах суцэльнымі масывамі. Праверыць падрыхтаванасьць зернаачышчальных пунктаў і ступень іх нагрузкі. Арганізацыя бесперапыннай работы гэтых пунктаў з тым, каб забясьпечыць 100 проц. ачыстку насеньня і прыняцьце захадаў да арганізацыі пратручваньня насеньня.

У мэтах папулярызацыі прымяненьня радковага засеву мяркуецца арганізаваць работу па шырокаму ўжываньню і поўнаму скарыстаньню гэтага севу. Разгарнуць шырокую работу па збору попелу і прасоўваньню завозных штучных угнаеньняў у калгасы і паселішчы. Максымальнае скарыстаньне маючагася торфу для ўгнаеньня глебы і арганізацыя сваечасовай дастаўкі вапны для поўнага выкананьня пляну па вапнаваньні глебы.

Акрамя ўсяго гэтага, маршрутам эстафэты па падняцьцю ўраджайнасьці предугледжваецца арганізацыя шэрагу мерапрыемстваў па палепшаньню сенажацяй (расьцяробка хмызьнякоў, зьнішчэньне куп'я і моху, перапашка і засеў травамі).

**Ажыцьцяўленьне мерапрыемстваў па спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі.**

Мяркуецца правесьці шырокую работу па пашырэньню засеваў ільну і канапель з тым, каб поўнасьцю выканаць

плян засеву гэтых культур. Разгортваньне работы па будаўніцтву ільноапрацовачных пунктаў і прыняцьце захадаў да забясьпечаньня засеву плошчы ільну гатунковым насеньнем.

### Жывёлагадоўля.

Праверка і забясьпечаньне калгасаў і паселішч цягавой рабочай сілай, а таксама правядзеньне рашучай барацьбы з забоем коняй. Праверыць падрыхтоўку спэцыялізаваных гаспадарак да прыёмкі прадукцыйнай жывёлы (памяшканьні і корм). Будзе разгорнута работа па 100 проц. вырашчваньню маладняку і сачыць за выкананьнем пастановы аб забароне забою жывёлы, а таксама зьвярнуць асаблівую ўвагу на арганізацыю злучных пунктаў.

Правесьці адпаведныя мерапрыемствы па стварэньню кармовай базы (засеву траў, корняплодаў, сілосных культур і арганізацыя штучных выпасаў). Разгарнуць работу па падрыхтоўцы да будаўніцтва скотнікаў, сьвінарнікаў і сілосных установак. Прыняць меры да арганізацыі малочнай сеткі (маслабойных заводаў, сьліўкааддзяліцельных і зьліўных пунктаў) і апошняе—арганізаваць праверку выдаткаваньня кармоў, устанавіўшы адпаведныя нормы кармленьня.

### Стварэньне насенных фондаў і рамонт с.-г. інвэнтару.

Праверка забясьпечанасьці калгасаў і бядняцка-серадняцкіх гаспадарак насеньнем. Разгарнуць работу па стварэньню насенных фондаў, а таксама і страхавых фондаў. Гэтым маршрутам прадугледжваецца і такое мерапрыемства, як арганізацыя праверкі вучоту сельскагаспадарчага інвэнтару і выяўленьне такога інвэнтару, які патрабуе таго ці іншага рамонту. Арганізаваць работу рамонтных майстэрняў з тым, каб поўнасьцю забясьпечыць рамонт сельскагаспадарчага інвэнтару.

### Масавая работа, якая накіроўваецца на выкананьне пляну вясновага севу.

Эстафэта ставіць сваёй задачай правесьці шырокую работу сярод калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі за пасьпяховае выкананьне пляну вясновага засеву, мабілізуючы іх на шырокую барацьбу з кулацтвам і права-апартуністычнай стаўкай на самацёк, пры гэтым не дапускаць замены сапраўднай арганізацыі мас мерамі адміністраваньня і запужваньня.

Шырока разгарнуць работу па давядзеньню плянаў засеву да калгасаў, паасобных паселішч і бядняцка-серадняцкіх двароў, наладзіўшы шырокае абгаварэнньне гэтых плянаў з тым, каб атрымаць сустрэчныя пляны.

У мэтах стварэньня адпаведных кадраў будзе праведзена работа па падбору калгасьнікаў на сельскагаспадарчыя курсы.

Будуць прыняты меры да таго, каб прасунуць у калгасы і паасобныя паселішчы розныя кнігі і газэты пад такім лёзунгам: „Адна газэта на два двары“. Мяркуецца перабудаваць работу хат-чытален і чырвоных куткоў у напрамку выкананьня плянаў вясеньняга засеву.

Будзе праведзена праверка школ, лікпунктаў і іншых культасьветных устаноў, наколькі яны прыстасавалі сваю работу па выкананьню пляну вясновай засеўнай кампаніі.

Уся работа па падрыхтоўцы да другой бальшавіцкай вясны будзе праводзіцца пад знакам шырокага разгортваньня сацспаборніцтва, ударніцтва, грамадзкага буксіру, сустрэчных плянаў, крытыкі і самакрытыкі.

Вось, як Чашніцкі Райвыканком парашыў правесьці эстафэту, прысьвечаную правядзеньню другой бальшавіцкай вясны. Трэба каб другія райвыканкомы пасьледавалі прыкладу Чашніцкага раёну і распрацавалі па сваіх раёнах пляны эстафэты.

С. Лодысеў.

**Правільная арганізацыя працы—важнейшая зброя ў барацьбе за ўздым калектывізацыі і падрыхтоўкі да пасеўнай кампаніі.**

## Грамадзкія арганізацыі сьпяць.

*(Бягомльскі раён).*

Грамадзкія арганізацыі Бярэзінскага сельсавету сьпяць непрабудным сном, а сельсвет і мясцовыя кіруючыя органы нават не зьбіраюцца іх разбудзіць і разварушыць працу.

Ячэйка АСО нават ня мае сталага вучоту сваіх членаў. Запазычанасьць па членскіх узносах маецца каля 60 рублёў (нават ёсьць выпадкі няўзносу за некалькі год). Зусім не праводзіліся вайсковыя заняткі. Ніякай растлумачальнай працы сярод насельніцтва ячэйка не праводзіць. А сакратаром ячэйкі зьяўляецца партыец, нават партызан—Мацкевіч Андрэй, але ён апраўдваецца тым, што няма часу, бо заняты гандлем у мясцовай каапэрацыі...

Ня гледзячы на тое, што камандзір запасу тав. Сяцко Міхась ужо некалькі разоў падганяў кіраўнікоў ячэйкі АСО ўзяцца за працу, разварушваў як сельсавет, так і парт'ячэйку, але маецца толькі злачыннае ўвільваньне ад такой адказнай працы і аднекаваньне адказных працаўнікоў сельсавету.

А ўжо аб працы ячэяк МОПР'у, Чырвонага Крыжу і гаварыць ня прыходзіцца, яны толькі лічацца на паперы.

Ды і наогул праца грамадзкіх арганізацый па Бягомльшчыне знаходзіцца ў самым горшым заняпадзе і ня носіць масавага характару, а толькі ў некаторых мясцох ідзе самацёкам.

Усе гэта зьяўляецца горшым відам правага апартунізму на практыцы. Райвыканком і сельсаветы нават не падумалі, каб заслухаць на сваіх прэзыдыумах даклады той ці іншай дабраахвотнай арганізацыі, абсьледваць іх працу і даць належныя кіруючыя паказаньні ў напрамку далейшай працы.

**Канаплянік.**

---

## За большае залучэньне ў работу саветаў працоўных мас.

Вялізарнейшы рост сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне і цяжкасьці гэтага будаўніцтва ставяць з асаблівою вастратою пытаньне аб карэннай перабудове працы саветаў у напрамку забясьпечаньня яшчэ большых тэмпаў сацыялістычнага наступленьня па ўсяму фронту і перамогі ўсіх цяжкасьцяй і перашкод.

Практычную і тэорэтычную дапамогу саветам у ажыцьцяўленьні гэтых задач у выразнай форме будзе аказваць у 1931 г. часопіс Прэзыдыуму ЦВК БССР „Саветы Беларусі“ праз шырокае асьвятленьне на сваіх старонках новых мэтадаў працы саветаў, арганізацыйнага і практычна-дзелавога вопыту іх працы на базе марксыцка-ленінскай тэорыі ў пытаньнях савецкага будаўніцтва. Рэдакцыя часопісу зьвярнулася з просьбаю да членаў Беларускага таварыства марксыстых работнікаў савецкага будаўніцтва і права стаць сталымі карэспандэнтамі, на што яны чула адгукнуліся і будуць дапамагаць рэдакцыі ў больш папулярнай форме даваць кіруючыя артыкулы па ажыцьцяўленьні чарговых задач сацыялістычнага будаўніцтва і важнейшых палітычна-гаспадарчых пытаньняў бягучай працы ў праводзімых кампаніях. Як відаць з вышэйсказанага часопіс паставіў мэтай кожнага працаўніка савецкага апарату, кожнага савецкага актывістага ўзброіць марксыцка-ленінскай тэорыяй для клясава-вытрыманага кіраўніцтва і практычнага ўдзелу ў сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі. Адсюль задача кожнага сельсавета, райвыканкома і гарсавета стаць ня толькі падпішчыкам часопісу, а і вылучыць карэспандэнтаў, якія-б для абмену вопытам працы штомесячна пісалі ў часопіс на адну з пералічаных у гэтым нумару прыкладных тэм. Шырокае ўцягненьне ў працу саветаў рабочых мас, калгасьнікаў і наогул працоўнага сялянства, а таксама большай актывізацыі іх будзе лепш магчыма, калі ўсе гэтыя працоўныя масы будуць чытаць і пісаць у часопіс „Саветы Бе-

ларусі“ свае прапановы і заўвагі ў галіне савецкага будаўніцтва, а таксама аб лепшых прыкладах працы і недахопах мясцовых савецкіх органаў.

Кожны райвыканком, гарадзкі, местачковы і сельскі савет, які паставіў перад сабою мэту ўцягнуць у сваю працу ўсё працоўнае насельніцтва і падвысіць актыўнасьць іх павінен праз свае культкамісіі і сэкцыі на працягу лютага і сакавіка м-цу распаўсюдзіць, як можна больш, свой часопіс сярод працоўных мас, завербаваўшы падпішчыкамі на яго ўвесь савецкі актыў з тым, каб гэты часопіс стаў настольным дапаможнікам у рабоце ня толькі кожнага савецкага працаўніка, але і спраўчнікам кожнага актывістага і працоўнага па ўсім галінам савецкага будаўніцтва. У якасьці практычных мерапрыемстваў па ажыцьцяўленьні ўсяго пералічанага мы высоўваем на люты і сакавік месяц перад саветамі прапановы завербаваць:

а) ня менш 10 гадавых падпішчыкаў і 2 сталых карэспандэнтаў на кожны сельсавет;

б) ня менш 15 гадавых падпішчыкаў і 3 сталых карэспандэнтаў на кожны райвыканком;

в) ня менш 20 гадавых падпішчыкаў і 4 сталых карэспандэнтаў на кожны гарсавет.

Падпіску на часопіс і сьпіс карэспандэнтаў прысляць у рэдкалегію да 1-га сакавіка па адрасу: Менск, ЦВК.

Б. М.

# ПАСТАНОВЫ УРАДУ БССР

## Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР

### Пра адзнакі кулацкіх гаспадарак.

У адпаведнасьці з пастановаю ЦВК і СНК СССР за 23 сьнежня 1930 г. „Пра абкладаньне кулацкіх гаспадарак адзіным сельскагаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку“ (газ. „Известия ЦИК СССР и ВЦИК“ 1930 г. № 354), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляюць:

1. Устанавіць наступныя адзнакі кулацкіх гаспадарак, па якіх яны абкладаюцца сельскагаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку:

а) калі ў гаспадарцы сыстэматычна ўжываецца нанятая рабочая сіла для сельскагаспадарчых работ больш 30 рабочых дзён у год.

Па гэтай адзнацы не абкладаюцца сельскагаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку гаспадаркі, якія ўжываюць нанятую рабочую сілу і больш 30 рабочых дзён у год альбо ня больш аднаго сталага рабочага пры наступных акалічнасьцях: хвароба, мабілізацыя, прызыў у РСЧА, выбары на грамадзкую пасаду, якая патрабуе адрыву ад гаспадаркі, удовы з малымі дзецьмі на ўвесь час данага становішча гаспадаркі, а таксама гаспадаркі, члены якіх адыходзяць на сэзонную работу, а гаспадарка з гэтае прычыны ўжывае на пэрыяд адыходу на сэзонную работу нанятую рабочую сілу, ня больш аднаго рабочага;

б) калі ў сельскай гаспадарцы ёсьць саматужна-прамысловае прадпрыемства і ў ім ужываецца незалежна ад размеру нанятая рабочая сіла.

Не абкладаюцца сельскагаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку тыя гаспадаркі, саматужна-прамысловыя прадпрыемствы якія па асаблівых умовах вытворчасьці ўжываюць ня больш аднаго дарослага рабочага, або двох вучняў (напрыклад, малатабоец у каваля);

в) калі ў гаспадарцы ёсьць млын незалежна ад колькасьці паставаў, маслабойка, крупадзёрка, просадзёрка, воўначоска, воўнабітка, цёрачнае прадпрыемства, сушня бульбы, садавіны ці гароднiны або іншае прамысловае прадпрыем-

ства пры ўмове ўжываньня ў пералічаных прадпрыемствах або мэханічнага рухавіка, або сілы ветру ці вады, або конскай цягавай сілы, або калі гэтыя прадпрыемствы працуюць пераважна на скупліваемай сыравіне.

Калі ў гаспадарцы ёсьць адно з пералічаных прадпрыемстваў без мэханічнага рухавіка, дык гэта зьяўляецца адзнакай для індывідуальнага абкладаньня пры ўмове, калі даход з гэтага прадпрыемства складае больш неабкладаемага сельскагаспадарчым падаткам мінімуму даходу.

Калі-ж у гаспадарцы ёсьць некалькі з пералічаных прадпрыемстваў, дык гэта зьяўляецца адзнакай для індывідуальнага абкладаньня хаця у даных прадпрыемствах і няма паказаных вышэй умоў;

г) калі гаспадарка мае або арандуе прамысловае прадпрыемства, якім эксплёатуе насельніцтва праз здачу тых або іншых работ на дом або праз здачу гэтага прадпрыемства ў арэнду ці субарэнду;

д) калі гаспадарка здае ў наём сельскагаспадарчыя машыны з мэханічным рухавіком альбо за плату праводзіць работу з гэтымі машынамі для іншых гаспадарак, а таксама калі гаспадарка эксплёатуе с.-г. машыны і без мэханічнага рухавіка але даход ад эксплёатацыі гэтых машын перавышае неабкладаемы сельскагаспадарчым падаткам мінімум даходу;

е) калі гаспадарка дае ў карыстаньне ваколічнаму насельніцтву рабочую жывёлу на умовах, прызнаных раённай падатковай камісіяй кабальнымі;

ж) калі гаспадарка арандуе зямлю на ўмовах, прызнаных раённай падатковай камісіяй кабальнымі для здатчыкаў;

з) калі гаспадарка здае або арандуе для гандлёвай ці прамысловай эксплёатацыі сад ці гарод больш 0,5 дзесяціны ў сельскіх мясцовасьцях ці 0,25 дзесяціны ў гарадох;

і) калі гаспадарка сыстэматычна здае ў наймы памяшканьне пад жыльлё, ці прадпрыемства альбо спэцыяльнае памяшканьне пад дачу і сума арэнднай платы за год перавышае неабкладаемы с.-г. падаткам мінімум даходу.

Калі-ж гаспадарка здае памяшканьне пад школы, лікпункты, хаты-чытальні і інш. культурна-асьветныя ўстановы, дык гэтыя гаспадаркі не абкладаюцца с.-г. падаткам у індывідуальным парадку, калі ў іх няма іншых адзнак з пералічаных у гэтым пункце.

к) калі хто-небудзь з членаў гаспадаркі займаецца гандлем па рэгістрацыйным пасьведчаньні альбо без яго (скупка-перапродаж сельскагаспадарчых прадуктаў і іншых рэчаў, квотніцтвам, пазычаньне грошай ці іншых рэчаў на процанты альбо на адработак) ці мае іншыя непрацоўныя даходы, у тым ліку служнікі рэлігійных культаў;

л) калі гаспадарка арандуе вадазборы для рыбнай ловлі;

м) калі ў гаспадарцы ёсьць даходы ад эксплёатацыі ўласнай і арандаванай лайбы;

н) калі гаспадарка бярэ на пашу за плату чужую рагатую жывёлу больш 5 штук.

2. Даручыць раённым выканаўчым камітэтам і сельскім саветам неадкладна разгарнуць работу па выяўленьні ўсіх кулакоў, уцягнуўшы ў гэтую справу батрацтва, калгасьнікаў, групы беднаты, бядняцка-серадняцкі актыў, з тым, каб да 15 студзеня 1931 г. былі выяўлены і абкладзены с.-г. падаткам у індывідуальным парадку ўсе кулацкія гаспадаркі і поўнасьцю спагнаны з іх налічаныя аклады падатку, страхоўкі і самаабкладаньня.

3. Прапанаваць раённым выканаўчым камітэтам устанавіць пільны нагляд за тым, каб ні ў якім выпадку не дапушчалася абкладаньне с.-г. падаткам у індывідуальным парадку серадняцкіх гаспадарак. За парушэньне гэтага правіла вінаватых прыцягваць да строгай адказнасьці.

4. Даручыць Народнаму Камісарыяту Фінансаў на працягу двох дзён даць мясцом належныя паказаньні.

5. Скасаваць пастанову Савету Народных Камісараў БССР за 15 жніўня 1930 г. („Сав. Беларусь“ за 17 жніўня 1930 году, № 190).

Старшыня ЦВК БССР **А. Чарвякоў.**
Старшыня СНК БССР **М. Галадзед.**
Сакратар ЦВК БССР **А. Хацкевіч.**

31 сьнежня 1930 г.
гор. Менск.

# Постанова Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР.

## Па дакладу Азарыцкага раённага Выканаўчага Камітэту аб яго дзейнасьці

Заслухаўшы даклад Старшыні РВК т. Сямітко і садаклад інструктара Аргаддзелу Прэзыдыуму ЦВК т. Рабцэвіча аб рабоце Азарыцкага раённага выканаўчага камітэту і саветаў раёну, Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускай ССР адзначае:

1. Калгаснае будаўніцтва, ня гледзячы на некаторы прыліў у калгасы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, не забясьпечана належным кіраўніцтвам з боку РВК і сельсавету, дзякуючы чаму ў рабоце па калектывізацыі наглядаецца самацёк. Арганізацыйна-гаспадарчая работа ў калгасах не наладжана, разьмеркаваньне ўраджаю ня зроблена, ў выніку чаго у шэрагу калгасаў наглядаецца безгаспадарчасьць, адсутнасьць працдысцыпліны, рвацкія настроі, разбазарваньне маёмасьці і г. д.

2. Гаспадарча-палітычныя кампаніі, якія апрача поўнана выкананьня заданьняў, павінны былі стымуляваць далейшы рост калектывізацыі, ня будучы забясьпечанымі з боку РВК і с/с належным кіраўніцтвам, праходзяць у раёне нездавальняюча. Па шэрагу кампаній маюцца выпадкі скрыўленьня клясавай лініі, якое выяўляецца ў нявыкрыцьці кулацкіх гаспадарак і падтрыманьні ў практыцы работы кулацкай тэорыі аб тым, што ў раёне кулакоў няма, ў недавядзеньні цьвёрдага заданьня да кулацка-заможных гаспадарак пры давядзеньні гэтых заданьняў у шэрагу выпадкаў да серадняцкіх гаспадарак, у аслабаненьні заможных гаспадарак ад сельска-гаспадарчага падатку і ў правядзеньні ў паасобных сельскіх саветах хлеба- і бульбазагатовак у парадку ўраўнілаўкі.

3. Адсутнасьць сталай работы сярод батрацтва і беднаты, нездавальняючае правядзеньне справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў, недаацэнка работы з нацменшасьцямі і сярод жанчын, нездавальняючае становішча работы па ўсеагульным навучаньні, ліквідацыі нэпісьменнасьці, школьным будаўніцтве і адсутнасьць масавай работы саветаў.

На падставе вышэйпаданага, Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР, канстатуючы ў вырашэньні шэрагу важнейшых задач наяўнасьць права-апартуністычных парушэньняў з боку Азарыцкага РВК, пастанаўляе:

1. Работу Азарыцкага раённага выканаўчага камітэту прызнаць нездавальняючай.

2. Даручыць раённаму выканаўчаму камітэту:

а) у тэрміновым парадку перабудаваць сваю работу пад кутом погляду выпраўленьня дапушчаных у рабоце прарываў і забясьпечаньня поўнага выкананьня дырэктыў у правядзеньні гаспадарча-палітычніх кампаній, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу пры гэтым на мабілізацыю сродкаў, сваечасовае спагнаньне абавязковых плацажоў, выяўленьне ўсіх кулацкіх гаспадарак і г. д.;

б) павесьці работу па далейшым рашучым узмацненьні сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, арганізацыі новых калгасаў і саўгасаў, пашырэньні і ўзмацненьні існуючых калгасаў, шляхам арганізацыі новага масавага прыліву, праводзячы жорсткую барацьбу з самацёкам, безгаспадарчасьцю і г. д. Уся гэта работа павінна праводзіцца ў поўнай адпаведнасьці з Ленінскімі прынцыпамі дабраахвотнасьці на аснове шырокага ўцягненьня бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы і рашучай барацьбы супроць кулацтва і ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі. Неабходна разгарнуць шырокую работу па арганізацыі ініцыятыўных груп і вярбовачных камісій, улічыўшы лепшы вопыт, які маецца ў гэтай справе;

в) біручы цьвёрдую ўстаноўку на сельска-гаспадарчую арцель, як асноўную форму калгаснага будаўніцтва на даным этапе, разгарнуць разам з гэтым работу па арганізацыі таварыстваў па

супольнай апрацоўцы зямлі ў мясцох, дзе няма калгасаў;

г) выходзячы з пасеўных плошчаў, вызначаных НКЗ безадкладна скончыць складаньне пляну вясновай сяўбы і шырока разгарнуць масава-палітычную работу па давядзеньні плянаў да сяла, калгасаў і саўгасаў і ў парадку самаабавязацельства да паасобных двароў, вызначыўшы цьвёрдае заданьне пасеўплошчаў кулацкім гаспадаркам. Дабіцца поўнага ўцягненьня ў абгаварэньне плянаў пасеўнай кампаніі ўсіх рабочых саўгасаў, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на ўцягненьне працоўных жанчын.

Шырока папулярызаваць адозву ЦК УсеКП(б) СНК Саюзу ССР аб кантрактацыі і пастановы ЦК КП(б)Б аб вясновай сяўбе, забясьпечыўшы поўнае ажыцьцяўленьне задач, вызначаных паказанымі дырэктывамі;

д) перагледзець кантрольныя заданьні па хлеба- і бульба загатоўках ў паасобных калгасах, павялічыўшы адначасова з гэтым загатоўку па індывідуальным сэктары. Давесьці цьвёрдае заданьне да ўсіх кулацка-заможных гаспадарак, ні ў якім разе не закранаючы пры гэтым серадняка;

е) павесьці сыстэматычную арганізацыйна-масавую работу з беднатой, шляхам плянавага правядзеньня масавай работы, а таксама шляхам уцягненьня груп беднаты ў штодзённую практычную работу тых устаноў і арганізацый, пры якіх існуюць гэтыя групы. Наладзіць таксама работу з актывам і асабліва работу сярод жанчын, шляхам уцягненьня іх у практычную работу саветаў, іх камісій, а таксама дэпутацкіх сходаў;

ж) разгарнуць работу па ўсеагульным навучаньні, ліквідацыі няпісьменнасьці, зьвярнуўшы пры гэтым увагу на аказаньне дапамогі бяднейшым вучням і забесьпячэньне апошнім магчымасьці бесьперебойнага наведваньне заняткаў. Удзяліць вялізарную ўвагу новаму школьнаму будаўніцтву. Даручыць Наркамасьветы ў тэрміновым парадку прыняць меры да забесьпячэньня патрэбнай колькасьцю настаўнікаў школ Азарыцкага раёну;

з) арганізаваць Нацкамісію і забясьпечыць склад яе працаздольнымі работнікамі, палепшыць работу па беларусізацыі і абслугоўваньні нацменшасьцяй, ажывіць культурна-масавую і гаспадарчую работу сярод апошніх, праводзячы разам з тым барацьбу з усялякага роду праявамі вялікадзяржаўнага шавінізму, нацыянал-дэмакратызму і антысэмітызму;

і) праводзячы жорсткую барацьбу з кулацкай агітацыяй, накіраванай у бок зьнішчэньня жывёлы як у калгасах гэтак і ў індывідуальным сэктары. РВК правесьці шэраг мерапрыемстваў па разьвіцьці жывёлагадоўлі, а таксама пашырэньні кармавой базы, выкарыстоўваючы поўнасьцю адпускаемыя на гэтыя мэты сродкі.

3. Улічваючы важнасьць увядзеньня бюджэтаў па ўсіх сельскіх саветах, як важнейшага сродку разгортваньня арганізацыйнай і гаспадарча-культурнай работы саветаў, райвыканкому ужыць належныя захады да стварэньня самастойных бюджэтаў ва ўсіх сельскіх саветах, правільнай пабудовы гэтых бюджэтаў і іх узмацненьня з тым каб сельскія бюджэты сапраўды адбівалі будаўніцтва, якое праводзіцца на вёсцы.

4. Адзначаючы нячоткасьць у рабоце, як сельска-гаспадарчай, гэтак і спажывецкай каапэрацыі раёну, даручыць каапэрацыйным цэнтрам тэрмінова праверыць работу каапэрацыі раёну па адпаведных галінах. Прэзыдыуму РВК забясьпечыць належным кіраўніцтвам работу каапэрацыйных арганізацый, зьвярнуўшы пры гэтым ўвагу на зьнішчэньне затаварваньня і палепшаньне абслугоўваньня пайнікаў.

5. Надаючы вялікае значэньне палепшаньню шляхоў зносін, якія на раёне знаходзяцца ў незадавальняючым становішчы, РВК зьвярнуць на паказаную галіну работы асаблівую увагу, выкарыстоўваючы поўнасьцю тыя сродкі якія адпушчаюцца на гэту мэту.

Белдартрансу забясьпечыць кіраўніцтва дарожным будаўніцтвам ў раёне, як шляхам пасылкі спэцыяльных работнікаў, гэтак і шляхам тэхнічна-арганізацыйнага нагляду за будаўніцтвам.

6. Даручыць Арганізацыйна-Інструктарскаму аддзелу Прэзыдыуму ЦВК: а) вызначыць адпаведную колькасьць работнікаў, узгадніўшы гэтае пытаньне з адпаведнымі арганізацыямі, і накіраваць іх для умацаваньня раёну, б) не пазьней як праз 6 месацаў праверыць выкананьне гэтай пастановы і далажыць Прэзыдыуму ЦВК.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **А. Хацкевіч.**

---

# Адозва СНК БССР, і ЦК КП(б)Б аб кантрактацыі яравых культур пасеву 1931 г.

У выкананьне дырэктывы Савету Народных Камісараў СССР і Цэнтральнага Камітэту УсеКП(б) ад 21 студзеня 1931 г. аб мерапрыемствах па дапамозе савецкай дзяржавай вёсцы па калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і ажыцьцяўленьні задачы ліквідацыі кулацтва, як клясы, на капітальных укладаньнях у сельскую гаспадарку і па кантрактацыі ўвесну 1931 году, ЦК КП(б)Б і СНК БССР лічаць неабходным ажыцьцяўленьне наступных мерапрыемстваў:

## I. Мерапрыемствы дапамогі дзяржавай сельскай гаспадарцы.

1. Накіраваць у сельскую гаспадарку БССР на працягу 1931 году 1.528 трактароў (у пераводзе на 10-цісілавыя).

2. Давесьці агульны лік трактарных станцый на працягу 1931 г. да 24-х станцый з трактарным паркам у 14.205 сіл, якія-б забясьпечылі пасеў машына-трактарнымі станцыямі ўвесну 1931 году 230.000 гэкт.

Накіраваць на капітальнае будаўніцтва МТС у 1931 годзе 6.936 тыс. руб.

3. Пабудаваць 34 новыя ільнаапрацоўчыя заводы для першапачатковай апрацоўкі ільну.

4. Давесьці забесьпячэньне сельскай гаспадаркі ў 1931 годзе сельска-гаспадарчымі машынамі на суму да 26.500 т. р.

Накіраваць асноўную частку гэтых машын у калгасы і МТС па ўстаноўленых паніжаных дзяржаўных цэнах.

5. Забясьпечыць сельскую гаспадарку ў 1931 г. штучнымі ўгнаеньнямі ў колькасьці 181,6 тыс. топ агульным коштам у 3.700 тыс. руб., у тым ліку да вясны 109 тысяч.

6. Забясьпечыць сельскую гаспадарку сродкамі барацьбы са шкоднікамі да сэзону на суму 217 тыс. руб.

7. Забясьпечыць саўгасы і калгасы гатунковым і палепшаным насеньнем згодна пастаноў СНК пра весновую сельска-гаспадарчую кампанію 1931 г.

Гатунковае насеньне збожжавых культур адпускаць выключна ў парадку абмену на звычайнае збожжа, а насеньне тэхнічных культур і бульбы—у парадку кантрактацыі са зваротам увосень 1931 г. Вінаватыя ў выдачы гатунковага насеньня без абмену нясуць адказнасьць, як за растрату дзяржаўнай маемасьці.

Выходзячы з вышэйпамянёнага і ў мэтах карэннага паляпшэньня забесьпячэньня прамысловасьці сырцом і працоўных прадуктамі харчаваньня абавязаць НКГандлю НКЗем правесьці праз сыстэму сельскагаспадарчай каапэрацыі і Трактарацэнтр кантрактацыю яравых культур на наступных падставах:

## II. Агульныя палажэньні па кантрактацыі.

1. Агульнае кіраўніцтва і нагляд за правядзеньнем усіх відаў кантрактацыі пасеваў 1931 году ажыцьцяўляецца НК Гандлю і яго мясцовымі органамі, а непасрэднае правядзеньне кантрактацыі ўскладаецца на спэцыяльныя сыстэмы сельска-гаспадарчай каапэрацыі ў вызначаных для іх раёнах. У тых раёнах, дзе няма адпаведнай спэцыяльнай сыстэмы сельска-гаспадарчай каапэрацыі,

цэнтр вядучай сыстэмы сельска-гаспадарчай каапэрацыі заключае генэральны дагавор з іншымі цэнтрамі сельска-гаспадарчай каапэрацыі. Апошнія непасрэдна кіруюць сваёй нізоўкай па ўсіх відах кантрактацыі.

Кантрактацыя збожжавых культур праводзіцца спэцыяльнымі сыстэмамі сельска-гаспадарчай каапэрацыі самастойна без заключэньня генэральных дагавароў.

2. Кантрактацыя садавіны і ягад у індывідуальных гаспадарках праводзіцца сыстэмай спажывецкай каапэрацыі, якая таксама кантрактуе сады ў гарадох і садавіну, гародніну і ягады ў прыгарадных калгасах у межах вызначанага НКГандлю пляну.

Даручыць гарадзкім саветам выдаць адпаведныя пастановы аб кантрактацыі з боку ЦРК.

3. Кантрактацыя праводзіцца ў калгасах, вытворчых т-вах, паселішчах і групах пасеўшчыкаў. Правядзеньне кантрактацыі садавіны і ягаднікаў дапусьціць таксама і ў аднаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках.

4. Вытворчыя аб'яднаньні, паселішчы прымаюць плян кантрактацыі ў адпаведнасьці з прынятым пасеўным плянам, прычым пастанова бядняцка-серадняцкай большасьці аб заключэньні дагавароў кантрактацыі зьяўляецца абавязковай для ўсіх членаў паселішча, якія маюць права заключаць дагаворы. Калгасы прымаюць плян кантрактацыі ў адпаведнасьці з прынятым вытворчым плянам, зацьверджаным райкалгассаюзам.

Уся праца па кантрактацыі, уключаючы афармленьне дагавароў, павінна быць скончана да 1-га красавіка.

У кулацка-заможных гаспадарках кантрактацыя не праводзіцца, а яны атрымліваюць цьвёрдыя заданьні па здачы прадукцыі шляхам вызначэньня цьвёрдага заданьня па засеве.

5. У мэтах увязкі плянаў кантрактацыі з вытворчымі крэдытамі ўстанавіць, што вытворчыя крэдыты, у тым ліку крэдыты на насеньне, штучнае ўгнаеньне, сельска-гаспадарчыя машыны і прылады, адпускаюцца ў першую чаргу калгасам, а потым простым вытворчым аб'яднаньням, закантрактаваўшым свае пасевы.

6. Спэцыяльным цэнтрам сельска-гаспадарчай каапэрацыі, Белсельгасснабу, Саюзхлебу і Наркамзему забясьпечыць сваечасова завоз і разьмеркаваньне насеньня, штучнага ўгнаеньня, сельска-гаспадарчых машын і прылад па асобных раёнах.

7. Выплату пасеўшчыкам за здаваную па дагаворы кантрактацыі прадукцыю рабіць па загатоўчых цэнах, якія будуць устаноўлены НКГандлю на 1931-32 год з адпаведнымі надбаўкамі за гатунковую.

8. Па культурах, па якіх дагаворам кантрактацыі, прадугледжваецца здача поўнага процанту валавога збору закантрактаванай прадукцыі, канчатковы колькасны разьмер здачы прадукцыі ўстанаўляецца па выяўленьні ўраджаю, але не пазьней, чым за месяц да пачатку ўборкі, камісіяй, склад якое вызначаецца інструкцыяй Наркамгандлю. Колькасьць прадукцыі, якая здаецца аднаасобным сэктарам, павінна быць ня ніжэй колькасьці здаванай з кожнага сэктара бліжэйшым калгасам.

9. Авансавая кантрактацыя ў першую чаргу праводзіцца ў калгасах, а потым у бядняцка-серадняцкіх гаспадарках.

Нормы грашовага авансаваньня для аднаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак устанавіць на адну трэць ніжэй норм авансаваньня калгасаў, з налічэньнем; для калгасаў і бядняцкіх гаспадарак—7 проц. і серадняцкіх—10 проц. гадавых.

10. Даручыць НКГандлю забясьпечыць у першую чаргу дэфіцытнымі прамтаварамі калгасы і бядняцка-серадняцкія гаспадаркі, якія закантрактавалі свае пасевы.

### III. Па збожжавых культурах:

1. Плян кантрактацыі збожжавых устанавіць:

па аўсе—302 тыс. гэкт., у тым ліку па калгасах 48 тыс. гэкт.,

па ячмені—105 тыс. гэкт., у тым ліку па калгасах 13 тыс. гэкт.,

па крупяных—40 тыс. гэкт., у тым ліку па калгасах 11 тыс. гэкт.

па бабовых 13 тыс. гэкт., у тым ліку па калгасах 8 тыс. гэкт.

Разам 460 тыс. гэкт., у тым ліку па калгасах 80 тыс. га.

У гэтым ліку разьмер таварна-гатунковай контрактацыі аўса вызначыць у 180 тыс. гэкт.

2. Звыш вытворчых крэдытаў устанавіць выдачу грашовых авансаў па контрактацыі бабовых культур на плошчы 6,5 тыс. гэкт. сярэднім разьмерам грашовага авансу 9 руб. на закантрактаваны гэктар.

3. Норму здачы закантрактаванай прадукцыі па калгасах устанавіць 10 проц. па збожжавых і 50 проц. па бабовых валавога збору закантрактаванай плошчы, а па аднаасобным сэктары па збожжавых—$^1/_8$ і па бабовых—50 проц. валавога збору з контрактацыйнай плошчы.

4. Устанавіць, што патрэбныя для правядзеньня таварна-гатунковай контрактацыі аўса—360 тыс. цэнтн. насеньня пакрываюцца з наступных крыніц: цэнтралізаваных загатовак і дзяржнасенфонду—120 тыс. цэнтн., а рэшта—240 тыс. цэнтн. пакрываюцца за рахунак насеньня саміх пасеўшчыкоў у парадку ўнутрысялянскага абмену.

5. Тэрмін здачы контрактоўшчыкамі закантрактаванай прадукцыі ўстанавіць 30 верасьня 1931 году—30 проц. і не пазьней 30-XI 1931 г.—70 проц.

### IV. Па ільне і каноплях:

1. Плян контрактацыі ўстанавіць:

а) па ільне 190 тыс. гэкт., з якіх у раёнах, якія абслугоўваюцца МТС,—37 тыс. гэкт.;

б) па каноплях—18 тыс. гэкт.

2. Контрактацыю ільну праводзіць ва ўсіх ільнаводных і асноўных таварных раёнах ільнаводзтва, а канапель—у таварных пяньковых раёнах; у іншых неільнаводных і непенькаводных раёнах контрактацыя праводзіцца выключна ў калгасах.

Сьпіс раёнаў, у якіх праводзіцца контрактацыя ільну і пянькі, устанаўляецца НКЗ і НКСнабам.

3. Контрактацыя праводзіцца;

а) у калгасах 100 проц. пасеўнай плошчы ва ўсіх раёнах.

б) у індывід. сэктары:

у ільнаводн. раёнах—85 проц. пасеўнай плошчы;

у неільнаводных р.—56 проц. пасеўнай плошчы.

4. Звыш вытворчых крэдытаў устанавіць выдачу грашовых авансаў па ільне—на 105 тыс. гэкт. з сярэднім разьмерам авансу 30 руб. на гэкт., а па каноплях—18 тыс. гэкт. па 55 руб. на гэкт.

Аванс выдаецца: 40 проц. перад пасевам і 60 проц. перад уборкай. Канчатковы тэрмін устанаўляецца НКГандлю.

5. У мэтах стымуляваньня спэцыялізацыі раёну ў ільнаводным напрамку авансавую контрактацыю праводзіць выключна ў іальнаводных прызаводзкіх, фабрычных, экспортных і прымежных да іх ільнаводных раёнах, прычым ва ўсіх гэтых раёнах авансуецца поўнасьцю ўся плошча калгасу і пашыраемая плошча ў аднаасобным сэктары з сум, што засталіся пасьля здавальненьня калгасаў.

6. Насеньне для пасеву ільну і канапель адпускаецца па загатоўчых цэнах з надбаўкай у 15 проц.

7. Парадак разьліку за адпускаемае насеньне калгасам і аднаасобным бядняцка-серадняцкім гаспадаркам устанаўляецца НКСнабам і НКЗемам.

Пагашэньне пазыкі робіцца не пазьней 1-XII 1931 г.

8. У ільнаводных і канапляводчых раёнах выдаць пасеўшчыкам ільну і канапель 1,25 цэнтн. хлеба супроць 1 цэнтн. здаваемага валакна з тым, каб да веснавой сяўбы ў лік гэтай нормы было выдана па 0,5 проц. цэнтнэра на гэкт.

9. Захаваць на 1931 год забесьпячэньне здатчыкаў насеньня ільну і канапель алеем і макухай па нормах 1930 г. (7 кілёграм алею і 10 кілёграм макухі супроць 1 цэнтн. ільнасемя для калгасаў; 5,7 кілёграм алею і 8 кілёграм макухі для аднаасобнікаў).

10. Вызваліць ад звычайных норм здачы збожжа ўраджаю 1931 г. калгасы і аднаасобныя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі ільна-канапляводных раёнаў пры ўмове засеву гэтымі гаспадаркамі ня менш 10-15 проц. ільну, або ня менш 5-7 проц. канапель ад агульнай пасеўнай плошчы і пры абавязковым выкананьні імі задач ільну па контрактацыйных дагаварох.

11. Нормы здачы закантрактаванай прадукцыі ўстанавіць у калгасах і аднаасобных гаспадарках у процантах да ўсяго валавога збору закантрактаванай плошчы: па ільнавалакне—80 проц. па ільнасемі—55 проц., па пяньцы і канапляным семі—50 проц.

12. Устанавіць наступныя тэрміны здачы закантрактаванай прадукцыі:

| | IV кв. 31 г. | 1 кв. 32 г. | 2 кв. 32 г. |
|---|---|---|---|
| | У процантах: | | |
| Ільнасемя | 100 | — | — |
| Салома і трэста | 100 | — | — |
| Ільнавалакно | 70 | 30 | — |
| Пянька | 30 | 30 | 40 |
| Канапл. семя | 100 | — | — |

## V. Па бульбе:

1. Плян кантрактацыі ўстанавіць у 122 тыс. гэкт., з якіх 62 тыс. гэкт. тэхнічнай бульбы, 57 тыс. гэкт.—сталовай і 3 тыс. гэкт. раньняй сталовай бульбы у тым ліку па калгасах 40 тыс. гэкт. і аднаасобным сэктары—82 тыс. гэкт.

2. Звыш вытворчых крэдытаў устанавіць выдачу грашовых авансаў на плошчы 25 тыс. гэкт. тэхнічнай бульбы з сярэднім разьмерам авансу ў 32 руб. на гэкт.

3. У мэтах стымуляваньня пасеваў тэхнічнай бульбы ў раёнах броварных і крухмальных заводаў авансавую кантрактацыю праводзіць выключна ў гэтых раёнах і выключна ў калгасах.

4. Норму здачы бульбы з 1 закантрактаванага гэкт. устанавіць у 5 тон.

5. Тэрмін здачы закантрактаванай прадукцыі ўстанавіць:

Бульбы раньняй—50 проц. да 25-VII; 50 проц.—15-VIII. Бульбы сталовай—30 проц. да I-X; 45 проц.—1-XI-31 г.; 25 проц.—15-IV 32 г. Бульбы тэхнічнай—30 проц. I-X; 45 проц.—1-XI; 25 проц.—15-XII.

## VI. Па садавіне і гародніне.

1. Плян кантрактацыі ўстанавіць:

Па гародніне ў 8.500 гэкт. з якіх у калгасах—8.000 гэкт.

У тым ліку:

| | | |
|---|---|---|
| а) капусты позьняй | 2.600 | гэкт. |
| б) „ раньняй | 330 | „ |
| в) цыбулі | 830 | „ |
| г) гурков | 1.860 | „ |
| д) морквы | 800 | „ |
| е) бручкі | 560 | „ |
| ж) буракоў сталовых | 1.020 | „ |

Па парніковых рамах (выключна ў калгасах)—45.000 штук. Па садавіне: а) садоў—8.500, з іх у калгасах 7.000 гэкт., б) ягадніц—400, з іх у калгасах 100 гэкт.

Па цыкорыі (выключна ў калгасах)—300 гэкт.

2. Звыш вытворчых крэдытаў устанавіць выдачу грашовых авансаў па цыкорыі ў колькасьці 125 руб. на гэкт.

3. Тэрміны і нормы здачы закантрактаванай прадукцыі садавіны і гародніны ўстанаўляюцца інструкцыяй Наркамгандлю.

4. У мэтах забесьпячэньня буйных гарадоў БССР гароднінай, даручыць НКГандлю прымацаваць да буйных ЦРК раёны кантрактацыі гародніны на аснове ўмоў непасрэдна з райкаапсаюзам, згодна генэральнага дагавору паміж Белсадсаюзам і Белкаапсаюзам.

Даручыць НКГандлю, спэцыяльным сыстэмам сельска-гаспадарчай каапэрацыі і НКЗему скласьці інструкцыю аб парадку правядзеньня кантрактацыі, а таксама і тыпавыя дагавары.

НКГандлю распрацаваць адзіны тыповы дагавор па кантрактацыі ільну і канапель, а другі па кантрактацыі ўсіх іншых культур.

Савет Народных Камісараў БССР і Цэнтральны Камітэт КП(б)Б заклікаюць усе партыйныя, савецка-гаспадарчыя, каапэрацыйна-калгасныя і комсамольскія арганізацыі ўзяцца па бальшавіцку за справу кантрактацыі яравых пасеваў, мабілізаваць свае сілы і растлумачыць масам рабочых, калгасьнікам і бядняцка-серадняцкім масам вёскі значэньне правадзімых савецкай уладай мерапрыемстваў па тэхнічным пераўзбраеньні і калектывізацыі сельскай гаспадаркі стаць на чале новага ўздыму калгаснага руху мільённых мас вёскі і забясьпечыць гэтым самым рашучыя посьпехі ў справе ліквідацыі кулацтва, як клясы, і сацыялістычнай перабудовы вёскі.

Даручыць усім партыйным, савецкім і гаспадарчым арганізацыям наладзіць шырокую прапрацоўку адозвы (пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР ад 21/I 1931 г. па кантрактацыі.

Старшыня СНК БССР **Галадзед.**

Сакратар ЦК КП(б)Б **Гей.**

# *РОЗНАЕ*

## Вытворчыя нарады—сродак узмацненьня калгасаў.

### Палажэньне аб вытворчых нарадах у калгасах.

Задачы разьвіцьця калектывізацыі, узмацненьня існуючых калгасаў і найбольшага ўздыму прадукцыйнасьці працы патрабуюць шырокага разгортваньня самадзейнасьці і самакрытыкі мас калгасьнікаў, разьвіцьця іх вытворчай ініцыятывы.

Асноўнай формай уцягненьня шырокіх мас членаў калгасаў да актыўнага ўдзелу ў разьвіцьці і ўзмацненьні калектыўнай гаспадаркі зьяўляюцца вытворчыя нарады.

### I. Задачы вытворчых нарад.

Галоўнейшымі задачамі вытворчых нарад зьяўляецца ўсямернае палепшаньне калектыўнай гаспадаркі, падвышэньне прадукцыйнасьці працы, павялічэньне таварнасьці гаспадаркі, барацьба за цьвёрдую працдысцыпліну, прапрацоўка вытворчых і рабочых плянаў і нагляданьне за сваечасовым іх выкананьнем. Уцягненьне ў калгас новых членаў з ваколічныхбатрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас насельніцтва. У асобных галінах гаспадаркі работа вытворчых нарад павінна праходзіць прыкладна па наступных пытаньнях:

#### 1. У галіне паляводзтва.

а) Сваечасовая падрыхтоўка і выкананьне галоўных с.-г. работ, як-та: падрыхтоўка глебы, складаньне насенных фондаў, ачыстка і пратручваньне насеньня, рамонт і папаўненьне с.-г. інвэнтару і транспартных сродкаў. Падрыхтоўка рабочай жывёлы, трактараў, арганізацыя і падрыхтоўка рабочай сілы, правядзеньне вясновай і асеньняй сяўбы, арганізацыя догляду за расьлінамі (паліўка і інш). Уборка і апрацоўка ўраджаю: а) выкананьне хлебазагатовак, апрацоўка і рэалізацыя прадукцыі спэцыяльных і тэхнічных культур;

б) Тэрмін і якасьць выкананьня рабочых плянаў;

в) Пашырэньне плошчы пасеву і разьвіцьця кораньклубняплодаў і тэхнічных культур;

г) Увядзеньне палепшанага севазвароту, гатунковых і радковых пасеваў. ужываньне лепшых спосабаў апрацоўкі зямлі і падрыхтоўкі глебы;

д) Падрыхтоўка гумнаў, сьвірнаў і інш.

#### 2. У галіне садоўніцтва і гародніцтва.

а) Закладка новых садоў і падсадка існуючых

б) Пашырэньне плошчы пад гароднімі культурамі;

в) Увядзеньне парніковых культур;

г) Арганізацыя догляду за садам і гародам і барацьба са шкоднікамі (абрэзка, пабелка і апырскваньне дрэў, прарэджваньне і абсыпка гароднiны і інш.).

#### 3. У галіне жывёлагадоўлі.

а) Колькаснае павялічэньне статку абагуленай жывёлы, арганізацыя малочнай гаспадаркі, прамысловых сьвінарнікаў і птушнікаў, сваечасовае ўкамплектаваньне іх жывёлай і птушкай. Палепшаньне якасьці прадукцыйнай жывёлы і птушкі, арганізацыя злучных пунктаў, набыцьцё палепшанай і завадзкай жывёлы;

б) Палепшаньне ўмоў утрыманьня прадукцыйнай жывёлы, уцяпленьне і асьвятленьне абор і інш.;

в) Арганізацыя правільнага харчаваньня жывёлы па нормах, прапрацоўка норм харчаваньня для жывёлы;

г) Павялічэньне плошчы пад кармовымі культурамі, палепшаньне сенажацяў, сіласаваньне кармоў;

д) Гадоўля маладняку прадукцыйнай жывёлы.

#### 4. У галіне будаўніцтва.

а) Прапрацоўка будаўнічых праэктаў і каштарысаў;

б) Выбар месца пабудовы;

в) Сваечасовая загатоўка будаўнічых матэр'ялаў і сваечасовае скончэньне будаўніцтва. Адшуканьне і максымальнае выкарыстаньне мясцовых будаўнічых матар'ялаў. Эканомнае выдаткаваньне матар'ялаў і сродкаў.

#### 5. У галіне арганізацыі працы.

а) Прапрацоўка і ўвядзеньне норм выпрацоўкі;

б) Пытаньні аплаты працы, увядзеньне зьдзельшчыны;

в) Прапрацоўка балянсу рабочай і цяглавай сілы;

г) Разьмеркаваньне работ паміж калгасьнікамі, давядзеньне прыпадаючай колькасьці працадзён да кожнага калгасьніка;

д) Арганізацыя рабочых брыгад;

д) Поўны і сваечасовы выхад калгасьнікаў на работу;

ж) Правільнае наладжваньне падліку працы членаў, увядзеньне падліку працы ў працадзінках;

з) Пытаньні поўнага выкарыстаньня лішкаў рабочай і цяглавай сілы. Арганізацыя адходніцтва. Прапрацоўка дагавароў калгасаў з гаспадарчымі араанізацыямі на выкарыстаньне лішкаў рабочай і цяглавай сілы. Арганізацыя саматужных промыслаў;

і) Прэміраваньне за лепшую работу і вышэйшую прадукцыйнасьць працы;

к) устанаўленьне парадку і мер пакараньня за парушэньне дысцыпліны і дрэнную работу;

л) Пытаньні разьмеркаваньня прыбытку і ўраджаю паміж калгасьнікамі.

Асноўным шляхам выкананьня задач, пастаўленых перад вытворчымі нарадамі, зьяўляецца шырокае ўцягненьне ў работу нарад масы калгасьнікаў, выхаваньне з іх моцнага актыву барацьбітоў за пасьпяховае разьвіцьцё калгасу, за перамаганьне сустракаючыхся на шляху разьвіцьця калгаснага будаўніцтва цяжкасьцяў.

Для ажыцьцяўленьня ўсіх пералічаных мерапрыемстваў неабходна найбольшае разьвіцьцё сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Для гэтай мэты вытворчыя нарады арганізуюць ударныя брыгады,

уцягваюць у іх усіх членаў калгасу (асабліва жанчын), правяраюць і абмяркоўваюць вынікі работы ўдарнікаў, накіроўваюць усю ўвагу ўдарнікаў і ўсіх членаў калгасу на палепшаньне якасьці работы, на выкананьне і перавыкананьне вытворчых і рабочых плянаў.

Побач з гэтым вытворчыя нарады арганізуюць сацспаборніцтва з суседнімі калгасамі, саўгасамі і прам. прадпрыемствамі, а таксама паміж брыгадамі групамі ўнутры калгасу. Распрацоўваюць дагавры па сацспаборніцтву і сурова сочаць за іх выкананьнем.

## II. Парадак арганізацыі вытворчых нарад.

Вытворчыя нарадыарганізуеюцца як агульна-калгасныя, так і па галінах гаспадаркі і брыгадах. Агульна-калгасныя вытворчыя нарады складаюцца: з загадчыкаў галінамі гаспадаркі як членаў праўленьня, так і тэхнічных спэцыялістаў калгасу, членаў рэўкамісіі, брыгадзіраў і актыву калгасьнікаў. Нарады па галінах гаспадаркі: з загадчыкаў адпаведнай галіны і спэцыялістаў, брыгадзіраў і калгаснага актыву. У парадку дабраахвотнасьці на вытворчых нарадах удзельнічаюць усе жадаючыя калгасьнікі, а ў выпадку патрэбы прыцягваюцца на вытворчыя нарады і суседнія аднаасобнікі.

Увага: Пры разьбіўцы гаспадаркі калгасу на асобныя вытворчыя вучасткі (эканоміі), вытворчыя нарады могуць арганізоўвацца і па вучастках, па тыпу галінных ці брыгадных, залежна ад памеру вытворчага вучастку.

## Тэрмін склíканьня вытворчых нарад.

Вытворчыя нарады, як правіла, павінны працаваць рэгулярна, зьбіраючыся ў цьвёрда вызначаныя тэрміны. Пры чым, агульна-калгасныя вытворчыя нарады павінны склікацца ня менш аднаго разу ў месяц, па галінах гаспадаркі ня менш 2-х разоў у месяц і брыгадныя—у залежнасьці ад патрэбы. У паасобных выпадках, калі трэба вырашыць тэрмінова тое ці іншае пытаньне, агульна-калгасныя вытворчыя нарады таксама могуць быць склíканы ў любы дзень

## IV. Выкананьне рашэньняў вытворчых нарад.

Вытворчыя нарады зьяўляюцца дапаможным органам у вытворчай рабоце праўленьня калгасу. Вытворчая нарада ёсьць арганізацыя дарадчая, а таму рашэньні праводзяцца праз адпаведныя кіруючыя органы калгасу, а менавіта:

а) Прапановы агульна-калгасных і галінных вытворчых нарад разглядаюцца праўленьнем калгасу і праводзяцца ў жыцьцё па яго паказаньні;

б) Рашэньні брыгадных вытворчых нарад зацьвярджаюцца загадчыкамі адпаведных галін, а асобныя складаныя пытаньні могуць пераносіцца і на разгляд праўленьня калгасу.

Праўленьне калгасу і загадчыкі галінамі абавязаны разгледзець рашэньні вытворчых нарад не пазьней 3-х дзён, а ў асобных тэрміновых выпадках на працягу сутак. Зацьверджаныя праўленьнем ці загадчыкамі галін рашэньні вытворчых нарад павінны тэрмінова праводзіцца ў жыцьцё з адпаведным падлікам іх выкананьня.

## V. Кіраўніцтва работай вытворчых нарад.

Брыгадныя вытворчыя нарады склíкаюцца брыгадзірамі, а вытворчыя нарады па галінах—загадчыкамі гэтых галін.

Агульна-калгасныя нарады склíкаюцца старшынёй праўленьня калгасу або яго намесьнікам. Кантроль за выкананьнем рашэньняў вытворчых нарад ускладаецца на рэўкамісію калгасу, а падрыхтоўка матар'ялаў да нарад ускладаецца на праўленьне калгасу, загадчыкаў галін і брыгадзіраў. У калгасах, маючых больш 200 членаў, на агульна-калгаснай вытворчай нарадзе абіраецца вытворчая камісія, якой даручаецца кіраўніцтва вытворчымі нарадамі, падрыхтоўка матар'ялаў для разгляду на вытворчых нарадах і кантроль за выкананьнем іх зацьверджаных рашэньняў. Старшынёй вытворчай камісіі зьяўляецца член праўленьня калгасу.

## XV. Меры для палепшаньня работы.

Для прэміраваньня брыгад асобных калгасьнікаў і спэцыялістаў, згодна статуту калгасу, вызначаецца спэцыяльны прэміяльны фонд. За кошт гэтага фонду утвараецца прэміраваньне асоб, якія паказалі высокую прадукцыйнасьць і добрую якасьць работы,

Праўленьне калгасу, загадчык галінамі і вытворчымі вучасткамі павінны аказваць усямернае садзейнічаньне членам калгасу і агратэхнічнаму пэрсаналу ў ажыцьцяўленьні іх каштоўных прапаноў.

**Калгасцэнтр БССР.**

---

# Аб чым пажадана пісаць у часопіс „Саветы Беларусі" на 1931 год.

1) Аб эфэктыўнасьці капітальных укладаньняў у аграмаджаны сэктар на 1931 г. у параўнаньні з мінулымі 1929-30 г. па гораду, раёну і с-с,

2) Як кіруюць саветы і выканкомы выкананьнем прамфінпляну 3 рашаючага году пяцігодкі.

3) Праца саветаў і выканкомаў па ўцягненьню новых рабочых у прамысловасьць, асабліва жанчын у 3 рашаючым годзе пяцігодкі.

4) Вынікі пераводу працы ў прадпрыемствах прамысловасьці на бесперапынны рабочы тыдзень і 7 гадз. дзень.

5) Аб мерапрыемствах па выкананьню дырэктыў кіруючых органаў у галіне забясьпечаньня рабочых і настаўніцтва вясковых школ.

6) Як кіруюць саветы і выканкомы пытаньнем жывёлаводчай праблемы у гарадох, раёнах і с-с.

7) Вынікі кіраўніцтва з боку саветаў і выканкомаў перабудоваю працы спажывецкай каапэрацыі.

8) Як саветы і выканкомы скарыстоўваюць свае правы па арганізацыі актыўнасьці працоўных мас.

9) Як кіруюць саветы і выканкомы справаю разгортваньня сацыялістычных форм на прадпрыемствах аграмаджаным сэктары, установах і паасобнымі працоўнымі асобамі.

10) Роля рэвізыйных Камісій пры с-с у барацьбе з бюракратызмам і ўхіламі на практыцы ад генэральнай лініі партыі.

11) Барацьба сельсаветаў з правымі ўхіламі і „левымі" загібамі на практыцы.

12) Як працуе група беднаты пры с-с.

13) Як працуе с-г. вытворчая нарада пры с-с.

14) Роля культурна-сацыяльнай камісіі пры с-с. у справе палітэхнізацыі школ і калектывізацыі сельскае гаспадаркі.

15) Праца фінансава-бюджэтнай і садзейнічаньня дзяржкрэдыту і ашчаднай справе Камісіі пры с-с.

16) Праца раённых бытавых камітэтаў і сельскіх бытавых камісій у справе залучэньня жанчын у савецкае будаўніцтва і калектывізацыю с-г.

17) Аб выніках правядзеньня ў с-с. самаабкладаньня.

18) Аб выніках правядзеньня ў с-с. раёнах і гарадох гаспадарчых палітычных кампаній.

19) Як кіруюць выканкомы і саветы арганізацыяй новага калгаснага прыліву і працаю калгасаў.

20) Праца выканкомаў і саветаў у галіне спэцыялізацыі і ўздыму с-гаспад. вытворчасьці.

21) Аб папулярызацыі саветамі важнейшых рашэньняў партыі і Ураду.

22) праца выканкомаў і саветаў у галіне разгортваньня мясцовай прамысловасьці.

23) Аб выніках працы саветаў па аграмаджваньню саматужнай прамысловасьці.

24) Праца груп беднаты пры с-с. у падатковай галіне (правільнасьць і сваечасовасьць выяўленьня кулацкіх гаспадарак, вучот аб'ектаў абкладаньня, спагнаньне падатку і інш).

25) Як арганізавана масавасьць работы саветаў вакол змаганьня з дзейнасьцю клясава-варожых элемэнтаў, розьнымі злачынствамі і інш. асабліва пры арганізацыі новага калгаснага прыліву.

26) Як ажыцьцяўляецца клясавая лінія сельсаветамі.

27) Задачы сельсудоў у правядзеньні клясавай лініі.

28) Праца выканкомаў і саветаў у справе ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны і баяздольнасьці Р. С. Ч. А.

29) Як ажыцьцяўляецца выканкомамі і саветамі Ленінская нацпалітыка.

30) Ажыцьцяўленьне саветамі і выканкомамі мерапрыемстваў па зьліквідаваньню кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі.

31) Вопыт і практыка перабудовы работы саветаў і выканкомаў у адпаведнасьці з задачамі сучаснага сацыялістычнага будаўніцтва.

32) Задачы і работа выканкомаў і саветаў у справе выпучэнства ў адпаведнасьці з рашэньнямі аб'яднанага Пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б).

33) Аб узмацненьні выканкомаў і саветаў кіруючымі кадрамі.

34) Вопыт і практыка кантролю рабочых і працоўнага сялянства над работай саветаў і выканкомаў (групавыя абсьледваньні савецкіх органаў пад кіраўніцтвам РСІ і інш).

35) Вопыт працы выканкомаў і саветаў у справе арганізацыі большай актыўнасьці працоўных у вырашэньні бытавых і сацыяльна-культурных пытаньняў.

36) Аб рацыяналізацыі ў пастаноўцы вучоту і справаздачнасьці ў саветах і выканкомах.

37) Аб пастаноўцы абмену вопытам працы сельсаветаў і РВК асабліва ў справе ўжываньня сацыялістычных мэтадаў (сацспаборніцтва, скрозныя брыгады, грамадзкі буксыр і інш).

38) Практыка зьнішчэньня лішняй справаздачнасьці і перапіскі (У цэнтры, раёне і с-с).

39) Як ажыцьцяўляюцца рашэньні XVI зьезду партыі ў справе узмацненьня адказнасьці кіраўнікоў устаноў за факты бюракратызму і шкодніцтва.

40) Як ажыцьцяўляецца шэфства рабочых над дзяржапаратам.

41. Аб вопыце і формах праверкі выкананьня дырэктыў партыі і савецкае ўлады (Цэнтры, раёну, горадзе і с-с).

42. Аб кіраўніцтве з боку выканкомаў і саветаў падрыхтоўкаю да будаўнічага сэзону ў раёне і с-с і горадзе.

43) Аб ходзе падрыхтоўчае работы да вясеньняе сяўбы ў раёне і с-савеце.

44) Кіраўніцтва з боку райвыканкомаў і саветаў справаю зьніжэньня сабекошту прадукцыі на 10 проц. пры абавязковым палепшаньні якасьці яе.

45) Вынікі работы выканкомаў і саветаў у галіне здабываньня торпу за мінулы год і задачы на 1931 г.

46) Праца выканкомаў і саветаў у справе разьвіцьця экспартных галін мясцовай і саматужнай прамысловасьці

47) Аб падрыхтоўцы кадраў для прамысловасьці.

48) Праца саветаў і выканкомаў у галіне абмену вопыту рацыяналізатарскіх дасягненьняў паміж прадпрыемствамі і ўстановамі.

49) Кіраўніцтва з боку саветаў і выканкомаў у справе ўстанаўленьня ўзаемаадносін паміж буйнай дзяржаўнай і дробнай мясцовай і саматужнай прамысловасьцю.

50) Як ажыцьцяўляецца выканкомамі і саветамі ўмацаваньне саюзу з серадняком пры апоры на на беднату і рашучай барацьбой з кулацтвам.

51. Аб выніках прадастаўленьня згодна рашэньняў партыі льгот калгасам і калгасьнікам за 1930 г.

52) Работа ваенкомаў у галіне падрыхтоўкі - перападрыхтоўкі кадраў па савецкаму будаўніцтву.

53) Аб формах і мэтадах інструктаваньня нізавога апарату.

54) Справаздачнасьць саветаў і выканкомаў перад выбаршчыкамі.

55. Практыка ажыцьцяўленьня права выбаршчыкаў і саветаў па адкліканьню непрацаздольных дэпутатаў.

56. Практыка работы выканкомаў і саветаў у галіне ўцягненьня жаночых мас у савецкае будаўніцтва.

57) Кіраўніцтва з боку саветаў і выканкомаў працаю грамадзкіх арганізацый і асабліва саве-

тамі асоавіахіма і фізычцае культуры сярод працоўных.

58) Удзел вясковай інтэлегенцыі ў працы сельсаветаў і камісіях пры іх.

59) Аб становішчы і далейшых задачах завочнага навучаньня работнікаў нізавога апарату і вясковага актыву.

60) Праца саветаў і выканкомаў у галіне дарожнага будаўніцтва.

61) Аб міжраённым пляніраваньні ў галіне дарожнага будаўніцтва.

62) Аб кіраўніцтве працаю Гарсаветаў і РВК з боку Наркаматаў.

63) Аб мэтадах уцягненьня ў працу саветаў масавага актыву з прадпрыемстваў, саўгасаў, калгасаў і іншых вытворчых аб'яднаньняў.

64) Практыка работы саветаў па выкананьні наказу выбаршчыкаў.

65) Вопыт работы гарсаветаў у галіне практычнае дапамогі ў працы сельсаветам.

66) Аб ітогах распрацоўкі прабле́м паасобных галін савецкага будаўніцтва і права.

67) Аб выніках за мінулы час і далейшыя задачы па залучэньню прымацаваных дэлегатак у савецкае будаўніцтва.

68) Задачы і праца дэпутацкіх груп на прадпрыемствах.

69) Аб гаспадарчым, палітычным і культурным жыцьці працоўных татар у БССР.

70. Роля школы ў рабоце селсаветаў.

71) Аб ролі насьценгазэт пры сельсаветах.

72) Аб выніках агляду калгасаў (па раёну, сельсавету у БССР).

73) Аб ходзе будаўніцтва прыгарадных гаспадарак.

74. Аб выніках агляду будаўніцтва прыгарадных огародных гаспадарак.

75. Аб ходзе работы па абсталяваньню пунктаў для захаваньня гародніны.

76) Аб ходзе жыльлёвага будаўніцтва ў гарадох.

77) Аб бюджэтах гарсаветаў, РВК і с-с.

78) Аб ходзе плянавага выкананьня фінансавага пляну ў раёне, с-с і гарсавеце.

79) Аб ходзе будаўніцтва раённых электрастанцый.

80) Удзел Саветаў і выканкомаў у справе падвышэньня росту рабочых, прадукцыйнасьці іх працы і зьніжэньня сабекошту.

81) Пра ход лесазагатовак і кіраўніцтве гэтаю справаю з боку гарсаветаў і выканкомаў.

82) Аб ходзе і выніках будаўніцтва МТС.

83) Аб ходзе і выніках кантрактацыі.

84) Праца саветаў і выканкомаў у справе арганізацыі новых саўгасаў.

85) Праца саветаў у справе арганізацыі першапачатковых т-ваў па сумеснай апрацоўцы зямлі.

86) Аб практычнай дапамозе райвыканкомам з боку гарсаветаў, якія пепасрэдна падпарадкаваны ЦВК.

87) Аб выніках меліорацыі за 1930 год і ходзе падрыхтоўчае работы ў гэтай галіне ў 1931 годзе.

88) Аб выніках разьмяркаваньня ўраджаю ў калгасах і арганізацыі працы ў іх.

89) Праца саветаў у галіне ўвядзеньня ўсеагульнага навучаньня і палепшаняні становішча школ.

90) Аб выкананьні дырэктыў Ураду ў справе тэлефонізацыі раёнаў і с-с

91) Вынікі будаўніцтва ў калгасах за 1930 год і ходзе гэтага будаўніцтва ў 1931 годзе.

92) Праца саветаў у справе пашырэньня кармавое базы і асабліва аб выніках сіласаваньня за 1930 год, ходзе падрыхтоўкі і самае работы ў гэтай галіне ў 1931 годзе.

93) Аб працы нацсаветаў.

94) Аб становішчы 25 тысячнікаў у вёсцы і практычнай дапамозе ў іх працы з боку цэнтральных установ, райвыканкомаў і саветаў.

---

## Даведка рэдкалегіі.

У адказ на зьмешчаны ў нашым часопісу за сьнежань 1930 году № 12 артыкуле: „Як праходзіць падрыхтоўка да перавыбараў саветаў у Лельчыцкім раёне" Пракуратура Рэспублікі паведамляе, што вытвараным сьледствам паказаныя ў гэтым артыкуле факты пацьвердзіліся і справа накіравана ў суд для прыцягненьня вінаватых да адказнасьці.

### Памылкі друку:

У нумары 1 за студзень 1931 год на старонцы 28 ў левай калонцы 27 радок зьверху ўкралася памылка наступнага зьместу:

Надрукавана: „Усе варожыя пралетарыяту элемэнты,—як сказаў генэральны сакратар ЦК КП(б)Б т. Гэй,—без адрозьненьня нацыянальнасьцяй адзіным фронтам выступаюць супроць калектывізацыі, бо іменна калектывізацыя сельскай гаспадаркі зьяўляецца найбольш магутным і рашаючым ударам на існаваньні гэтых клясаў гэта значыць кляс варожых пралетарыяту, варожых батрацтву і беднаце і варожых серадняцкай часткі працоўнага сялянства".

Трэба чытаць: „Усе варожыя пралетарыяту элемэнты",—як сказаў генэральны сакратар ЦК КП(б)Б т. Гэй, —„без адрозьненьня нацыянальнасьцяй адзіным фронтам выступаюць супроць калектывізацыі, бо іменна калектывізацыя сельскай гаспадаркі зьяўляецца найбольш магутным і рашаючым ударам па існаваньні гэтых кляс,"—гэта значыцы-кляс варожых пралетарыяту, варожых батрацтву і беднаце і варожых серадняцкай частцы працоўнага сялянства.

Друкарня Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР. Зак. № 107—3000. Галоўлітбел № 295.

